УДК 821.161.3
ББК 84 (4Беи)
Б17

**Календа, С.**

**Б17** Усё ўлічана. All inclusive / Сяргей Календа. – Мінск: Логвінаў, 2014. – 190 с.

**ISBN**

Перад вамі кніга, створаная за кошт доўгіхназіраньняў і дасьледаваньняў размаітага гатэльнага жыцьця сталіцы. Першая частка “Кантынэнтальны сьняданак” пабачыла сьвет у 2012-ым, але падалася аўтару няскончанай, і цяпер, калі мінула два гады і зьявілася другая частка “Швэдзкі стол”, можна лічыць, што тэма гатэлю ў беларускай літаратуры агучана, і ўлічана ўсё, альбо амаль усё, бо да канца ніводная гісторыя ў гэтым сьвеце яшчэ не была напісанаю.

Перад вамі сабрана як мага болей назіраньняў і думак пра гатэль, пра яго жыхароў, працаўнікоў і дырэктароў. Гэта своеасаблівы досьвед творчай працы з будзёнаю рэальнасьцю, калі героі становяцца больш эмацыйнымі, большымі вар’ятамі і большымі рамантыкамі, бо па-іншаму кнігі ня пішуцца.

УДК 821.161.3
ББК 84 (4Беи)

**ISBN**

# ЗЬМЕСТ

## *У засьценках гатэльнага жыцьця*

*Вольга Гарапучык:* Перад тым, як прачытаць “Усё ўлічана. All inclusive” у абавязковым парадку, неабходна пазнаёміцца бліжэй зь яе аўтарам. Гэтая кніга – вялікая і цікавая справаздача адрэзку жыцьця ў дзесяць год, і таму існаваць без свайго аўтара яна ня можа.

Я вядаю цябе даволі працяглы час, але, чытаючы “Усё ўлічана”, са зьдзіўленьнем даведалася, што ты працуеш у гатэлі. Калі шчыра, я спачатку не магла паверыць.

*Сяргей Календа:* О, ну я шмат у якіх гатэлях працаваў і працую. А ўсё пачалося з таго, што ў мяне хуткія пальцы.

*ВГ:* Ну хуткія пальцы для мужчыны – гэта, канешне, ужо шмат!

*СК:* Канешне! Проста я граў на клярнэце, таму з пальцамі праблем не было. І вось неяк матуля прапанавала схадзіць павучыцца стрыгчы. Я пайшоў і ўжо ў 11 клясе мяне ўзялі працаваць у гатэль “Мінск”. Потым былі перапынкі, навучаньне, запоі і бітнікі. А потым я выйграў конкурсны адбор у франшызу і паехаў вучыцца ў Акадэмію Toni&Guy (Лёндан), а адтуль па кантракце трапіў у гатэль “Эўропа”.

*ВГ:* Дык ты стыліст?

*СК:* Так, але кім я толькі не працаваў. Спачатку цырульнікам, пасьля намесьнікам мэнэджэра. Быў час, калі

дапамагаў рыхтаваць пэрсанал, у банку працаваў, зараз зь верасьня зьбіраюся выкладаць у прыватнай школе гісторыю.

Скажам так, асноўныя грошы я зарабляю тым, што раблю фрызуры, хоць адукацыя ў мяне – культуроляг-дасьледчык, міжнародныя адносіны.

*ВГ:* А як усё ж такі зьявілася ідэя кнігі?

*СК:* Спачатку я ні пра што такое і ня думаў, і больш за тое – не пісаў, жыў сабе ціха і бяз пылу, меў колькі сур’ёзных мэтаў як на юнака і ўсё. Але прайшло колькі часу і ў адным з гатэляў я пазнаёміўся з мэтрдгатэлем. Найцікавейшы суразмоўца. Ягоны выгляд, позірк, стан, адзежа – усё выдавала ў ім франта, піжона, ганарлівага мужчыну, які ведае, дзе і навошта працуе, мае за плячыма некалькі сур’ёзных пасадаў у японскіх гатэлях. Я проста ня мог на яго наглядзецца, ня мог наслухацца ягоных гісторыяў з гострага на крытыку языка. Тады пачаў прыкідваць, што пра яго магчыма напісаць, але лепей і не толькі пра яго… І неўзабаве на маім шляху зьявілася галоўная па хостэсе, жанчына-вагонь, яна адразу так, не зважаючы на далікатнасьць, сказала, што мы зь ёй кожным разам як сустракаемся, абавязкова абменьваемся цікавымі гісторыямі і плёткамі. Варта было б пра гэта напісаць кнігу, сказала яна і вельмі сур’ёзна на мяне паглядзела, маўляў, ты ж там пішаш, часопісам займаесься, давай!

І тады панеслася… я зрабіў плян, дзеючых асоб, іх ажно за чатыры дзясяткі намалявалася, і адразу – накіды кожнай часткі, такія на абзац, коратка, што пра што і да чаго… Хацеў рабіць раман пра гатэль, але паглядзеўшы, што гісторый і дзеючых пэрсанажаў зашмат, спыніўся на тым, каб рабіць кожнае “гатэльнае” апавяданьне асобным. Нават калі яго адарваць ад агульнага кантэксту, яно павінна было чытацца нармальна.

*ВГ:* А ў кнізе адзін гатэль?

*СК:* Ну падача такая, што адзін, але гісторыі ў ёй са шматлікіх гатэляў.

*ВГ:* Таму “Усё ўлічана”?

*СК:* Гэта як вынік маёй дзейнасьці. Спачатку на сьвет зьявілася невялікая кніга “Кантынэнтальны сьняданак”, і на той час я быў упэўнены, што больш няма чаго сказаць, але мінуў год, я неяк узяў гэты “Сьняданак” у рукі і зразумеў, што варта было б крыху зьмяніць некаторыя сказы і дадаць некалькі гісторый. Пакуль я выпраўляў тэксты, паралельна новыя гісторыі пачалі запісвацца ў складанку “Швэдзкі стол”, і, як лягічны вынік, атрымалася кніга з дзьвюх частак. Пасьля яе мне ўжо няма чаго сказаць, хіба толькі я не зраблюся дырэктарам і не пагляджу на гатэльны бізнэс зь іншай кропкі.

*ВГ:* А колькі часу ты зьвязаны з гатэлямі?

*СК:* Два гады працаваў у гатэлі “Мінск”, два – у “Эўропе”, тры – у “Краўн Плазе”.

*ВГ:* І чаму цябе гатэль за гэты час не адпусьціў?

*СК:* Гэта ўжо ў крыві, гэта стала часткай мяне, якую ня так і проста адпусьціць, але я пэрманэнтна знаходжуся ў пошуку і цікавай працы, і самога сябе, і сваёй літаратуры… Яшчэ ў гатэлях добрыя ўмовы, сацпакет і грошы.

*ВГ:* Ах, значыць для цябе галоўнае – грошы?

*СК:* Ну, у мяне ёсьць сям’я. Ёсць жонка, якая любіць сукенкі, ёсць сабака Хурма, якая любіць смачную ежу, ды ўвогуле мы кватэру здымаем, а трэба на сваю зьбіраць. Такая проза жыцьця, далёкая ад творчага ладу існаваньня. Я мару жыць на сялібе, пісаць, гадаваць трусоў, рабіць наліўкі, займацца гатаваньнем смачных страваў, а замест гэтага я ў палоне гораду. Таму, напэўна, і імкнуся як мага хутчэй грашыма пабудаваць тоё жыцьцё, дзеля якога так напружваюся, і таму я і прыдумаў сабе яшчэ аднаго пісьменьніка

Аляксандра І. Бацкеля, які жыве так, як хачу я, і піша раманы і занатоўкі пра Маёнтак. Але, думаю, тут ня будзем пра гэта, каб не адысьці ў бок іншага творчага жыцьця.

*ВГ:* Добра, тады скажы, сысьці хацелася б?

*СК:* Канешне, але пакуль мяне трымае кантракт. Калі я не магу адтуль зваліць, то хаця б напішу пра гэта. Гэта зьмяняе ўспрыманьне працы: ты едзеш туды ўжо не проста працаваць, а дасьледаваць, слухаць, прыслухоўвацца і назіраць. Увогуле праца ў гатэлі ненапружная, я маю свой асобны кабінэт, магу скарыстацца душам і, зрабіўшы ўсе бягучыя справы, заняцца літаратурай.

*ВГ:* Ці не ўзьнікаў у цябе кагнітыўны дысананс ад спалучэньня творчасьці ды гатэльнага жыцьця?

*СК:* Раней я шмат пакутаваў праз гэта. Не хацеў нават казаць, дзе я працую. Хай у дупу ідуць! Дастаткова было ведаць, што я займаюся часопісам ды літаратурай.

*ВГ:* А на працы ў гатэлі ведаюць, што ты пісьменьнік?

*СК:* Я імкнуся адмежаваць іх ад гэтай інфармацыі, навошта ім гэта ведаць. Яны мяне там і так дзіваком лічаць. Калі ж даведаюцца, пачнуцца тупыя пытаньні. А чаму я пішу? А чаму па-беларуску?

*ВГ:* Не хочацца псаваць статус літаратара?

*СК:* Хочацца перадусім у сваёй галаве адчуваць сябе ім. Але тое, што я бачу іншае жыцьцё, дае мне шмат карыснага. Тым болей, перад звычайным калегам могуць шмат чаго распавесьці, папляткарыць, гэтага па-просту не было б, калі б усе ведалі, што я пісьменьнік, зьбіраю матар’ял.

*ВГ:* На кожнай старонцы тваёй “гатэльнай” кнігі сутыкаесься з дозай такога трэшу, што хапаесься за галаву і спачатку ня верыш, што такое можа быць.

*СК:* Больш скажу, ня проста можа, але і ёсьць. Гатэль – гэта зачыненая прастора са сваімі правіламі і ўкладам. Там

нават сьветапогляд іншы. Вядома, такі дурдом ня кожны дзень. Кніга мае вялікую канцэтрацыю такіх падзей.

*ВГ:* Звычайна гісторыі гатэля і ягонага жыцьця за парог не выносяцца.

*СК:* А я вынес. Таму паглядзім, што атрымаецца, бо я лічу, пра некаторыя рэчы варта ведаць, гутарыць і абмяркоўваць.

*ВГ:* А ці можна казаць, што арганізацыя гатэля – гэта такі своеасаблівы, але зрэз грамадзтва?

*СК:* Вядома, так. Мяне вось дзівіць, наколькі пад кожную работу падбіраюцца людзі з агульнымі характарыстыкамі. Вось пакаёўкі, напрыклад, вельмі няшчасныя і любяць бухаць, а прыбіральшчыцы маюць шмат адукацый. Дарэчы, самыя западлістыя – адміністратары.

*ВГ:* А на кім усё ж такі трымаецца гатэль?

*СК:* Я б сказаў, на дырэктары. Вось я заўважыў, што які дырэктар, такі і гатэль. Калі ён, напрыклад, калгасьнік, то і гатэль адпаведны будзе.

*ВГ:* Як ты зьбіраў усе гэтыя прыгоды ды інфармацыю пра сваіх герояў?

*СК:* Я насамрэч ня вельмі камунікатыўны. Асабліва не кантактую ні з кім, але шмат чаго можна пачуць на курылцы ці ад іншых людзей – усе ж любяць пapляткарыць.

*ВГ:* А ці ведаеш сам, што пра цябе кажуць?

*СК:* Ведаю. Некаторыя кажуць: як такі стромны чувак, як я, можа працаваць стылістам.

*ВГ:* Ня крыўдна?

*СК:* Ды не. Раней нешта такое магло закрануць, а потым да любой крытыкі, у тым ліку і літаратурнай, пачаў ставіцца спакайней.

*ВГ:* Тады вернемся да кнігі. Яна вельмі сакавітая. Мяне больш за ўсё ўразіла тое, наколькі ты дасьведчаны пра

аспекты працы кожнага героя. А пра прастытутак напісана так, нібыта ты сам зь імі працаваў.

*СК:* Я проста шмат чаго ведаю, шмат чаго бачыў ды чуў. Да ўсяго я вывучаю ня толькі саму прафэсію, але канкрэтнага чалавека, характар… Перад тым, як пачаць пісаць гісторыю, стараюся даведацца пра ўсе дробязі, натхніцца, пажыць героем, таму часта пішу, можна сказаць, ад уласнага досьведу, сьветапогляду і заўсёды знаходжуся на баку героя, бо не жадаю станавіцца аб’ектыўным ці цалкам здымаць пісьменьніка як асобу, якая задае пэўны тон і характар, бо лічу сваю “гатэльную” кнігу, скажам так, камэрнай, для кожнага – асабістай… У мяне ёсьць іншыя апавяданьні і літаратуныя праекты, дзе я больш-менш станаўлюся скрыптарам, назіральнікам.

*ВГ:* І ў цябе ёсьць знаёмыя прастытуткі?

*СК:* Вядома, ёсьць. Ды нармальныя яны ў сваёй большасьці. Гэта проста дзяўчаты, якія зарабляюць грошы. А нармальныя прастытуткі дык увогуле добра зарабляюць. Вось ведаеш, чым прыцягваюць замежнікаў нашыя дзяўчаты і нават прастытуткі?

*ВГ:* Прыгажосьцю?

*СК:* Тым, што зь імі можна трапіць на каханьне і шчырыя пачуцьці.  Замежнікі прыяжджаюць і дзівяцца, як лёгка нашыя дзяўчаты сапраўды пачынаюць кахаць. У нас беларусачкі больш шчырыя, прывабныя, у іх нават позірк жывы, прыемны, яны табою насамрэч цікавяцца.

*ВГ:* У сваёй кнізе ты пішаш, як вашыя кліенты спрабавалі зьняць супрацоўніка. Скажы шчыра, а табе сэкс калі-небудзь прапаноўвалі?

*СК:* Так! І гэта самы страшны момант працы. Было вельмі стромна. Прыйшлося нават выклікаць ахоўнікаў.

Бо прапаноўвалі сэкс два мужчыны, і выглядалі яны далёка не салодкімі геямі…

*ВГ:* Мне заўсёды было цікава: ці ня байкі тое, што расейцы – самыя нахабныя і некультурныя кліенты?

*СК:* Ты ж ведаеш, зараз па ўсім сьвеце набіраюць папулярнасьць гатэлі з праграмай “no Russians”. І гэта, з аднаго боку, выглядае неяк дзіка, а з другога – варта толькі на тым жа Youtube набраць “рускія ў гатэлі”, як выпадаюць дзясяткі відэазапісаў пра іх нахабства, алькагольны трып і імпэрыялізм… Тут трэба разумець, што большасьць тых, хто робіць антырэкляму расейцам, гэта часта неадукаваныя і простыя мужыкі і бабы, якія сапраўды прыехалі з нейкай глухмені і вось тут, на гішпанскім курорце, раптам адчулі сябе пупамі Зямлі… Я б сказаў, што расейцы наогул нахабныя, але гэта рыса нацыянальнага характару. А з іншага боку – я ведаю шмат рускіх, якія ад пачатку ўжо лічаць сваім братам і сябрам. Але невыноснымі я б назваў не славянскіх рускіх, а рускіх таджыкаў, скажам, тых, хто сам калісьці прыехаў у Расею і раптам адчуў сябе стоадсоткавым расейцам!

І я таксама не магу сказаць, што ўсе беды ад рускіх, бо сустракаў западлістых літоўцаў, неверагодна нахабных італьянцаў, якія глядзелі такім позіркам агіды, што ты ненаўмысна адчуваў сябе ў чымсьці вінаватым.

*ВГ:* Чаму цябе навучыла ўся гэтая праца ў гатэлях?

*СК:* Я навучыўся цаніць краіну, ганарыцца ёю, празь мяне прайшлі сотні замежнікаў, якім я параіў таго ці іншага сапраўднага беларускага, распавёў процьму гісторый пра Беларусь, пра традыцыі. Зь некаторымі гасьцямі нават сварыўся, даказваючы сваю рацыю. Першы час я быў зьдзіўлены, наколькі іншаземцы нічога пра нас ня ведаюць, але пакрысе ўсё пачало мяняцца, і гэта дзякуючы беларусам, іх культуры, традыцыям, нават дзякуючы БАТЭ. Калі

раней замежнікі казалі: “Краіна з апошнім дыктатарам Эўропы”, то цяпер часьцей ад іх чуеш: “О, у вас футбольны клюб БАТЭ, і бацькі Скарлет Ёхансан зь Менску”.

Таксама мяне мая праца і гатэль дагэтуль вучаць камунікаваць зь людзьмі, якія часта адкрываюцца перада мною як новыя і невядомыя аб’екты, і іх варта дасьледаваць, слухаць, цікавіцца, быць адначасова сумленным і здольным даць параду.

*ВГ:* Ці карысна літаратару паспрабаваць сябе ў рознай працы?

*СК:* Я лічу, што гэта залежыць ад самога творцы. Ёсьць процьма прыкладаў, калі пісьменьнік не выяжджаў нікуды, працаваў на адным месцы ўсё жыцьцё, але пісаў неверагодныя раманы, напрыклад Кафка і яго “Амэрыка”. Альбо наадварот: пісаць аб тым, што бачыш на ўласныя вочы, мець непасрэдны кантакт з аб’ектам альбо зьяваю, пра якую хочаш напісаць. Я пішу адразу і як Календа, і як Бацкель. У мяне ёсьць альтэр-эга, які жыве абсалютна іншым жыцьцём, піша раманы і занатоўкі са свайго маёнтка пад Нясьвіжам... І так атрымліваецца, што я стараюся разьвіваць сябе як пісьменьніка, здольнага назіраць і рабіць з гэтага матар’ял, і як пісьменьніка, здольнага прыдумляць з нуля штосьці неверагоднае і захапляльнае. Тут варта цікавіцца ўсім на сьвеце, ня толькі працаваць у розных месцах. І галоўнае – мець свой уласны сьвет і сьветапогляд.

*ВГ:* Які лёс ты б хацеў для сваёй кнігі?

*СК:* Нават ня ведаю, я б хацеў, каб гэтую кнігу проста чыталі і каб яна трапіла да людзей, хай некалькіх, якія маглі б пасьля зрабіць для сябе нейкія высновы, і, можа быць, некалькі беларускіх гатэляў пачалі б жыць зусім па-іншаму.

*Прысьвячаецца ўсім, хто:*
*выдаткоўвае сваё жыцьцё на карысьць іншых людзей,*
*гатуе для чужынцаў,*
*мые й прасуе чужыя брудныя анучы,*
*засьцілае чужыя ложкі,*
*пыласосіць і мые пакоі для незнаёмцаў,*
*стрыжэ ім валасы,*
*робіць ім масаж,*
*пільнуе людзей у басэйнах і фітнэс-залях,*
*каб ніхто не захлынуўся й не надарваўся,*
*усім, хто робіць жыцьцё ў незнаёмай краіне цікавым і ўтульным*

усе героі й падзеі кнігі выдуманыя,
любыя супадзеньні выпадковыя

## Чырвонае паліто

Чатыры гадзіны ночы. Жонка трасе мяне за плячо й напружана, зь вялікім трапятаньнем, шэпча, што ў нашыя вокны хтосьці грукаецца, я ледзь прачынаюся, скрозь сон думаю, што яна сасьніла нейкі жах. Расплюшчваю вочы й чую – хтосьці насамрэч грукаецца ў нашыя вокны, настойліва, гучна, вусьцішна. Вакол цемра. Я ўсхопліваюся з ложка, скокаю, запальваю сьвятло і наступным рухам бегма да фіранак – рэзка расхінаю.

На мяне глядзіць жанчына ў чырвоным паліто й грукае ў шыбу, вочы чорныя, вусны скрыўленыя. Я ледзь ня страціў прытомнасьць, мая каханая падскочыла, накінула на сябе плед і ўтаропілася круглымі вачыма на прыхадня… Крык, лямант, я адчыняю дзьверы на гаўбец і з жахам і злосьцю крычу. І адначасова вакно, чырвонае паліто, ноч, усё гэтае невялікае інтэр’ернае хоку распадаецца на тысячы аскепкаў, як толькі жанчына скокае з гаўбца.

У нас першы паверх, і мясцовая старая алькагалічка, пагнаная ў шыю са сьвята, вырашыла вярнуцца на яго праз гаўбец, а дамы ў нашым раёне, як і амаль ва ўсіх раёнах горада, падобныя – салатавага колеру… Тут нават цьвярозьнік пераблытаць можа.

Раней да мяне так завітвалі толькі коткі, але розьніца адчувальная: мяккая хада коткі, вуркатаньне, а тут – старая баба ў чырвоным паліто сярод ночы.

Наш двор – Стамбул Котак. Іх тут каля дваццаці пад пад’ездам, і кожная адрозная па колерах, па характары: тэмпэрамэнтныя й у яблыкі, лагодныя і белыя, яскравыя й пэгія, рахманыя і блакітна-шэрыя, ганарлівыя, свавольныя, брудныя, лахматыя, пухнатыя, вялікія тыгровыя, маленькія і пантэрныя, гнуткія й салодкія, фанабэрыстыя й пабітыя жыцьцём. Коткі жывуць пад машынамі і на машынах, пад каруселямі і на дахах дзіцячых домікаў, у падвалах і ў пад’ездах, на сьметніцы й на клюмбах, яны гуляюцца й мяўкаюць, б’юцца й забаўляюцца, заляцаюцца й грэюцца на сонцы, мерзнуць пад кватэрамі й хаваюцца на чужых гаўбцах ад дажджоў і сьнегу, нябачна трапляюць у чужыя кватэры й гайдаюцца на фортках як каскадзёры. Котак у нашым двары ўсе ведаюць, бачаць, любяць, кормяць і песьцяць, жывецца ім тут, як у цэнтры турэцкай сталіцы, – прывольна.

Пасьля чатырох ночы я так і не заснуў, праляжаў пры сьвятле з кнігаю, бессэнсоўна перагортваючы старонкі… Пакуль не надышоў час зьбірацца на працу ў гатэль.

Жонка заснула хутка – раніцою на працу: хто б што ні казаў, хто б тут ноччу ні біўся ў шыбы, ёсьць раніца й ёсьць грэбаная праца.

## Парэнчы

Дванаццаць ночы, апошні вячэрні самалёт прызямліўся каля адзінаццатай, амаль усе пасажыры, расейскія бізнэсоўцы, на таксоўках дабраліся да гатэлю, і амаль усе яны, пятнаццаць мужчын, былі разьмешчаныя на трэцім паверсе… Цішыня ў калідорах, начны мэнэджар Хасан сноўдае, трымаючыся сьценак, яго сумныя вочы амаль нічога не перадаюць, ніякай інфармацыі з глыбіні, проста сумныя стомленыя вочы чалавека, які ўжо пяць год запар працуе кожную ноч у гатэлі. На трэцім паверсе заселены пажыцьцёва прэзыдэнт гатэлю й групы кампаній міжнароднай сеткі гатэляў Ніндзя. Цяпер ён часта наведвае Менск, разводзіцца з жонкай-беларускай, зь якой у яго два сыны й дваццаць год шчасьлівага жыцьця. Ён пасьпеў ужо намыліць начнога мэнэджара, і той нагадваў брынзу, белую й разламаную на кавалкі.

Менавіта на трэці паверх, пераблытаўшы ліфты, падняліся тры асобы, дзьверы адчыніліся, і яны апынуліся ў напаўцёмным калідоры, у якім не было нічога, акрамя паху парфумы начнога мэнэджара.

Тры асобы – гэта Сьвета (трыццаць год), яе сяброўка Валя (трыццаць год) і Вальчын мужык Саша (трыццаць пяць год). Яны прыехалі ў начны клюб, які месьціцца на трэцім паверсе па-над казыно, што знаходзіцца ў гатэлі ў левым крыле. Начны клюб мае свой асобны ліфт. Каб патрапіць

у клюб, ня трэба мець спэцыяльных ведаў, навыкаў альбо валодаць нейкім сакрэтам. Дастаткова проста націснуць на кнопку, каб прыехаў патрэбны ліфт, знутры ўвесь у чырвоным шоўку, сесьці ў яго й націснуць на трэці паверх… Але госьці патрапілі ў суседні, сіні ліфт, які даставіў іх да гатэльных нумароў… Трэба адзначыць, Сьвета й Валя былі п’янымі й вясёлымі, Сьветцы хацелася мужыка, бо яна нядаўна разышлася са сваім старым, а Вальцы хацелася яшчэ выпіць, а Сашку хацелася сцаць і спаць.

– Блядзь, дзе гэта мы? – Валька пазірала няўцямна ў змрочную прастору.

Яны ўтрох, ледзь перасоўваючы ногі, бадзяліся па калідоры з нумарамі, пакуль не знайшлі лесьвіцу, якая завівалася ўверх і ўніз (а трэба дадаць, што гатэльная частка, дзе разьмяшчаліся нумары, была скразной, то-бок з кожнага паверху была магчымасьць бачыць першы паверх і рэцэпцыю, карацей – італійскі дворык). Валька прапанавала спусьціцца і на рэцэпцыі запытацца пра клюб, бо яны адназначна ня там, дзе мусяць быць, і яшчэ Валька прапанавала зьехаць на парэнчах уніз, так будзе весялей і хутчэй.

Камэры зафіксавалі, як нейкая п’яная баба на неверагоднай хуткасьці зьяжджае ўніз да другога паверху. Потым наступныя камэры фіксуюць, як тая ж баба, узрадаваная ўдаламу спуску, ізноў ускараскалася на парэнчы, каб ехаць на першы паверх. Сьвета задзірае да грудзей спадніцу, закідвае нагу на парэнчы і, перавесіўшыся праз іх п’яным целам, звальваецца ў скразную адтуліну, што вядзе да нулявога паверху, дзе месьціцца пэрсанал гатэлю… Камэра далей фіксуе, як на другім паверсе Сьвета б’ецца аб парэнчы галавою й каменем падае на мармур нулявога паверху.

Мужчына, які спазьніўся на цягнік, толькі зайшоў у гатэль і накіраваўся да рэцэпцыі, аказаўся ліванскім доктарам Саідам, што прыехаў на сэмінар з Горадні, дзе месяц гасьцяваў у каханкі… Усе зьбегліся на лямант начной пакаёўкі, якая ішла за горкімі чакалядкамі, каб раскласьці ў пустых нумарох на ложкі.

Кроў была паўсюль. Яна расплянскалася па сьценах ды столі, чырвоны колер патрапіў на лямпачкі, дзьверы й шыльды “Staff only”. Сьвета наскрозь прабіла чэрап, зламала ключыцу, нагу й сківіцу, паламала пальцы на руках, якія на вачах апухлі й ператварыліся ў пераварaныя сардэлькі… Ліванскі доктар пасьпеў дастаць ёй язык, прыліплы да нёба, дзяўчына харкала крывёю, з вушэй, носа й вачэй цякла кроў. П’яныя сябрукі Валя з Сашам, апынуўшыся на першым паверсе, спачатку знайшлі перапужанага ахоўніка ў фае, які ня мог пакінуць сваё працоўнае месца і, трымаючы дрыготкаю рукою рацыю, перамаўляўся з ахоўнікам на другім паверсе, пытаўся ў яго, ці бачыў той што, ловячы вухам навіны ад ахоўніка, які ўжо бег на нулявы паверх… Узрадаваныя Валька з Сашкам удакладнілі, дзе той ліфт, што вядзе да клюба на трэцім паверсе, а потым выправіліся шукаць Сьвятлану, якая іх так расьсьмяшыла, перакульнуўшыся праз парэнчы… Але тую ўжо пакавалі ў машыну хуткай дапамогі, таму ім больш нічога не заставалася, як ісьці жлукціць далей.

Сьвета апынулася ў рэанімацыі. Стабільна цяжкае становішча. Да яе за ўвесь час ніхто не прыяжджаў, акрамя галоўнага мэнэджара гатэлю Міхаліны, якая, адчуўшы спагаду да гэтай самотнай жанчыны, ня ведаючы, што рабіць, вазіла ёй мандарыны, але тыя даходзілі толькі да мэдсясьцёр,

бо няшчаснай ахвяры яшчэ доўга не давядзецца есьці ўласным ротам – усё праз трубачкі, праз тэатральныя лялечныя нітачкі, ад якіх цяпер залежала жыцьцё.

Празь некалькі дзён аналізы выявілі ў дзяўчыны СНІД... Доктар Саід, які раптоўна, па-галівудзку выратоўваў Сьвятлану голымі рукамі, засоўваючы пальцы ў горла, трымаючы язык і адначасова сьціскаючы ёй расплюшчаную галаву, каб тая, як пабіты гарбуз, не разваліласся на кавалкі, з ног да галавы быў у крыві. Цяпер ён мусіць чакаць шэсьць месяцаў. Шэсьць доўгіх месяцаў, калі па ягоных аналізах магчыма будзе ўпэўнена сказаць, захварэў ён на СНІД ці не.

І трэба дадаць, што праблема СНІДу ў гэтым апавяданьні распаўсюджваецца не толькі на аднаго доктара, бо хто яго ведае, зь якімі пастаяльцамі прывабная Сьвета пасьпела пераспаць. Але гэта ўжо іншая гісторыя, якую гатэль пасьпее схаваць у сваіх шматлікіх пакоях.

## Масаж

Спа-цэнтар гатэлю – гэта звычайна рознакаляровы маскарад, цырк, гэта блазны й шасьцёркі. Тут працуюць майстры справы й ганарлівыя ёлупні, але кожны гатэль мусіць мець пэўнае якаснае абслугоўваньне, нягледзячы ні на што, нават на тое, што пэрсанал спа-цэнтру збольшага разбэшчаны й самазакаханы.

Ганна, масажыстка зь вялікім стажам, працуе спраўна, мае вялікую кліенцкую базу, але ў гатэлі паставілі такія кошты, што яна вымушаная абслугоўваць сваіх кліентаў у іншым спа, дзе часова арэндуе месца і працуе ў свае выходныя…

Што рабіць? Гатэль не павінен прастойваць, тым болей дазваляць майстрам забіраць кліентаў. Трэба вынайсьці нешта цікавае й новае ў масажнай майстэрні… Маркетолягу давялося папрасіць масажыстку аб дапамозе, каб прастымуляваць пэрсанал працаваць з кліентамі толькі ў гатэлі.

Вырашана было рабіць масаж у нумарох. Любы пастаялец гатэлю меў магчымасьць атрымаць масаж у сваім пакоі – добрая ідэя, выдатнае абслугоўваньне, зручнасьць, ня трэба ісьці ў спа, калі лянотна, – расплюшчыў вочы, пазваніў на рэцэпцыю, замовіў масаж, калі ёсьць вольны час у майстра.

Масажыстка Ганна – высокая, вельмі высокая й худая, нават звышхударлявая жанчына. Калі яна апранутая ў белы працоўны халат, то падобная да доўгай рыбы зь

вялікім мясістым носам, які нагадвае авакада, й маленькімі чорнымі вочкамі-апалёнікамі, што кружляюць ў вачніцах хутка й амаль без гарманічнага ўнісону. Ганна ня надта прыгожа пасьміхаецца, яе ўсьмешка хутчэй нагадвае скрыўленьне вуснаў, быццам жанчына нюхае пракіслае малако, але кліенты, якім яна ўпершыню робіць масаж, проста вар'яцеюць і надалей аддана абслугоўваюцца толькі ў яе. Хто б што пра яе ні казаў, паглядаючы, як яна нязграбна перасоўвае сваімі косткамі, як яе цела праразае прастору, як яе авакада на твары варушыць ноздрамі, але рукі яе былі моцнымі, і масаж – усё, што ад яе патрабавалася.

Мэнэджар спа Юлія Цімафееўна добра зрабіла, калі параілася з масажысткаю: пастаяльцы, збольшага мужчыны, наперабой замаўлялі масаж у нумар, некаторыя нават па два разы на дзень... Ганна ледзь пасьпявала, бегала па паверхах, як ганчак, высалапіўшы язык, ацірала ручаі поту з твару – у торбе бутэлька з архідэйным алеем і ручнік, правая кішэнька халату выпуклая ад грошай, левая ўтрымлівае мабілку, пад халатам звычайна чорны станік і чорныя змакрэлыя майткі, на нагох тэпці й панчохі цялеснага колеру.

Усе былі задаволеныя, усім усё падабалася, але толькі ня мэнэджару спа Юліі Цімафееўне, якая не давала веры, што за некалькі месяцаў можна пасьпяхова напрацаваць такую буйную кліентуру… Вырашана было праверыць масажыстку ў справе.

Была раніца, пастаяльцы спускаліся на швэдзкі стол, на рэцэпцыі мяняліся зьмены, начныя адміністраткі, лыпаючы заспанымі вачыма, намагаліся фірмова ўсьміхацца, але на іх усім было напляваць, як ахоўнікам, так і бэлбою, толькі прыбіральшчыца Валянціна Андрэеўна ўсьміхалася

ў адказ. Была звычайная раніца, у гатэль завітаў каржакаваты мужчына, сівы, бадзёры, без валіз, толькі зь беларускім пашпартам, сам з Гомля, у Менску па справах на суткі. Мужчына засяліўся ў нумар на другім паверсе й адтуль амаль адразу, як толькі адчыніў пакой сваім электронным ключом, набраў спа-цэнтар і папрасіў сабе ў нумар агульны сілавы масаж, потым распрануўся, прыняў хуценька душ і стаў чакаць, седзячы на ложку, вада з мокрага цела капала на прасьціну.

Ганна была пунктуальнаю і а дзясятай ужо грукалася ў дзьверы.

Мужчына накінуў на яшчэ вільготнае цела халат і адчыніў. Далей было ўсё проста: ён падпарадкоўваўся загадам Ганны – лёг, зьняўшы халат, на ложак, сьпінаю да столі й пачаў напружана чакаць, калі ж пачнуцца алейныя крананьні, не даючы веры, што гэтае хударлявае дзяўчо (напэўна, былая спартсмэнка, мо бегам займалася) пачне масажаваць ягоную сьпіну, сьпярэшчаную невялічкімі кратарамі, якія нагадвалі пра гнойна-прышчавую маладосьць.

Ганна доўга марудзіла, рыхтавалася, штосьці рабіла, мужчына чуў толькі шоргат, пакуль раптам не адчуў, як на сьпіну пацёк халодны алей. Але халодна было толькі першыя тры сэкунды, далей Ганна пачала актыўна масіраваць яму плечы, шыю, патыліцу, рукі, ногі… Мужчына імгненна расслабіўся, разьмяк, стаў падатлівым, нібыта плястылін, разгалінаваўся на асобныя цяглiцы, якіх быццам станавілася ўсё болей… Рукі Ганны былі чароўныя, яна мяла моцна й адначасова далікатна, тонка, амаль любоўна, яна дыхала цяжка, узбуджальна…

Калі з плячыма, сьпінаю, рукамі, нагамі было скончана, Ганна прайшлася па пазванкох уніз, і мужчына адчуў,

як тонус і асалода ад масажу цалкам перадаліся ягонаму чэлесу.

– Цяпер, калі ласка, перавярніцеся, ляжце на сьпіну, я вам дадаткова за пятнаццаць даляраў адмасажую пэніс… – Ганна прамовіла гэта так абыякава, крыху стомлена, цяжка дыхаючы, нібыта гэта было такім жа масажным прыёмам, як звычайна. Мужчына не разгубіўся, перавярнуўся й адчуў, як пругкія, моцныя рукі Ганны мацаюць галоўку, падушачкамі пальцаў гладзяць пэніс па даўжыні, як далікатна ён кладзецца ў Ганніну далонь, алей зьмякчае крананьні…

“Такі масаж каштуе значна больш!” – разважаў сабе мужчына, усьміхаючыся й паглядаючы на карціну на сьцяне – нязграбнае сучаснае мастацтва. Ганна ўжо сышла… Праз колькі часу, як і было дамоўлена, ён пра ўсё мусіў распавесьці Юліі Цімафееўне, але вырашыў на наступны дзень ізноў запісацца на масаж да Ганны ў іншым месцы, бо гэта неверагодна прыемна, гэта робіць увесь дзень каляровым і прывабным. Тут ніякіх даносаў і паклёпаў быць ня мусіць.

## Начны мэнэджар

Сёньня Хасан, начны мэнэджар, захварэў! І гэта сьвята, так-так, менавіта, гэта цуд, якога чакаў увесь пэрсанал гатэлю!

Сам Хасан ня быў Хасанам, сапраўднае яго імя ведалі толькі дырэктар гатэлю Амар Алі Айамар і прэзыдэнт групы гатэляў Ніндзя… Ён быў туркам і патрапіў у Менск шэсьць году таму з глухой і занядбанай жабрацкай вёскі, разьмешчанай дзесьці на захадзе Турцыі, і сапраўднае імя ён насіў – Бурак, але праз тое, што ён апынуўся ў Менску, вырашылі яму зьмяніць імя, каб выпадкова ня зьменшыць ролю начнога мэнэджара праз сьмешную гародніну.

Хасан насамрэч рэдкасны казёл зь вельмі сумнымі, сьлязьлівымі вачыма. Пяць год, пяць доўгіх год запар Хасан кожны вечар прыяжджае на працу а шостай вечара й зьяжджае а восьмай раніцы, без выходных, безь перапынкаў, без адпачынку… Пяць год запар ён, як наладжаны карны мэханізм, прыяжджае на працу адно дзеля таго, каб калупаць пэрсанал, звальняць, сварыцца, лаяць за хібы, ненавідзець супрацоўнікаў гатэлю зялёнай нянавісьцю самотнага, неўладкаванага, незадаволенага чалавека, нянавісьцю мужчыны, які не разумее смаку алькаголю й ня ведае асалоды ад шчырага сэксу.

Ён усё жыцьцё марыў пра штосьці выключнае ў сваім жыцьці, і, як вынік, ён гэта атрымаў, праца начнога мэнэджара

ва Ўсходняй Эўропе зрабіла яго амаль ня самым вядомым жыхаром ягонай вёскі, усе яго там паважаюць, цэняць, на руках носяць, але тут, тут яго ненавідзяць усе чатырыста супрацоўнікаў пяцізоркавага гатэлю, тут, у Менску, ён жыве ў сваім пакоі, як старая шафа, – зьбірае на сябе пыл і выглядае нязграбна, замінае прасторы. Тут, на працы, нават калі ён выпраўляецца на рэдкі для сябе адпачынак дадому, на радзіму, ён нікому ня кажа, куды едзе, бо тлумачыць беларусам пра разьмяшчэньне сваёй малой вёскі – тое самае, што спрабаваць растлумачыць вартасьць існаваньня ў ісламе абразаньня для жанчын.

Хасана ніхто ня любіць, ён – тая самая адзінка ў гатэлі, да якой ставяцца з агідай, але дазваляюць існаваць, як пухліне, якая не перашкаджае здароўю і якую лепей не чапаць, каб не нашкодзіць самому сабе. Гэты чалавек пасьпеў жорстка пакараць аднаго з кухараў. Аднойчы ўвечары, адсачыўшы па камэрах, што той скраў колькі палак сакавітага сьвежага карбанату, Хасан вырашыў пасадзіць чалавека замест звальненьня, не разумеючы, што ў таго кухара Валеры, дакладней – другога кухара-асыстэнта шэф-кухара, заробак памерам з чатыры палкі карбанату. Начны мэнэджар затрымаў няшчаснага мужчыну, які ўжо марыў пра тое, як жонка будзе пляскаць у ладкі, пабачыўшы, чым ён разжыўся на працы. Была тэрмінова выклікана міліцыя, якая па прыбыцьці не давала веры сваім вачам – хударлявы кухар Валера, зьбялелы, з дрыготкімі рукамі і вялікімі вачыма, сядзіць на зэдліку ў кабінэце начнога мэнэджара, на стале тры палкі карбанату, а сам Хасан узвышаецца ў фатэлі… Нават міліцыя не разумела, што такога зрабіў кухар, каб прасіць аформіць крымінальную справу… Але факт злачынства быў запратакаліраваны, і наложаны адміністратыўны штраф.

Начны мэнэджар да гэтага часу ня вывучыў ані расейскую, ані ангельскую, ані беларускую мовы, размаўляе асобнымі словамі й гукамі… Ён можа набраць на мабілцы пакаёўку й раўсьці ёй у вуха, што патрэбна тэрмінова батарэйка! Якая батарэйка? Куды? Для чаго?.. Што за батарэйка?! І толькі праз паўвечара высьветліцца, што адзін з пастаяльцаў тэлефанаваў на рэцэпцыю й прасіў дадатковы абагравальнік у нумар, бо зьмерз… Альбо Хасан часта перад пачаткам працоўнага вечара-ночы абыходзіць усе кропкі – кабінэт аховы, камэра-мэны, бар, рэцэпцыя, спа-цэнтар, цырульня, басэйн, фітнэс, рэстарацыя, нумарны фонд, кухня… абыходзіць ён… усе яму пасьміхаюцца, усе працуюць, бегаюць, варушацца… А ён потым зойдзе ў кабінэт да галоўнага мэнэджара Міхаліны й давай распавядаць, які вэрхал паўсюль адбываецца, якія ўсе лайдакі й ніхто не працуе, куды гэта яна як адказная па гатэлі глядзіць, трэба тэрмінова ўсіх звальняць, а потым накіроўваецца ў кабінэт да дырэктара… І амаль за гадзіну з працоўных месцаў зьнікае два-тры супрацоўнікі. Хтосьці яму не спадабаўся сваёй усьмешкай, хтосьці ішоў міма яго й не пасьпеў першым павітацца… Але з гэтым чалавекам сапраўды немагчыма вітацца, зьнікае ўсялякае жаданьне, ён рукаецца, падаючы сваю далонь млява, яна звычайна потная й сьлізкая, нагадвае вільготную анучу, і гэтая млявасьць кажа пра пагарду да вас, гэтая спатнеласьць далоні сьведчыць пра пэўную няшчырасьць, нейкі злосны пачатак.

Аднойчы начны мэнэджар вырашыў кінуць курыць, таму ўсе сталі заўважаць яго з электроннай цыгарэтай у зубах… Быў позьні вечар, з афіцыянтаў засталіся толькі дзяжурныя. Сядзелі яны ціхенька ў сваёй каморцы з падагрэвам, самаварам і папяльніцамі, палілі, пілі турэцкую каву. Раптам заходзіць Хасан і моўчкі пачынае смактаць электронную цыгарэту… Усе таксама маўчаць, размова была зрэзаная

ягоным вільготна-рэзкім позіркам і традыцыйным пахам адэкалёну пасьля галеньня “Олд Спайз”, які ён пакідае па паверхах лёгкім адценьнем паху, нагадваючы, што ён ужо прыступіў да працы, што ён тут валадарыць, пазначыўшы свой арэал. Так і сядзяць усе, намагаючыся хутчэй дакурыць і зьбегчы з кола прысутнасьці начнога мэнэджара, зьбегчы з гэтага невыноснага атачэньня, як раптам той, пазіраючы на штучны дым ад цыгарэты, прамаўляе: “Скоро все тут умрут” – складна прамаўляе, без памылак і амаль без акцэнту… Усе аслупянелі, нават ня выдыхнуўшы дым.

У той жа вечар Хасан не знайшоў на сваім месцы рознарабочага Ваню, пайшоў у кабінэт да камэра-мэнаў і адсачыў па маніторах перамяшчэньне рознарабочага – вось той аднёс ручнікі ў басэйн, вось вярнуўся ў камэру захоўваньня, набраў скрыню асьвяжальнікаў паветра, абышоў прыбіральні на нулявым паверсе, пакінуў там асьвяжальнікі, запісаў, дзе няма туалетнай паперы… І вось Ваня зьнікае ў пакоі для прыбіральшчыц… Хасан бегам туды, урываецца, як навальніца, у памяшканьне, расчыняе насьцеж дзьверы, пасоўвае ўбок аслупянелую Валянціну Андрэеўну, якая толькі й пасьпела, як пікнуць вітаньне й схаваць у кішэньку распакаваны чакалядны сырок… “А-а-а! Спит!!!” – начны мэнэджар, расчырванеўшыся, усхваляваны, быў на сёмым небе ад радасьці… Ён ужо тыдзень нікога не звальняў. Рознарабочы Ваня куляй вылецеў з працы яшчэ да раніцы, яшчэ да канца сваёй зьмены, а Валянціна Андрэеўна пашкадавала, што запхнула свой чакалядны сырок у кішэньку фартуха, цяпер яна была вымушаная адмываць чакаляд і салодкі тварог у рукамыйніцы.

Хасан – страшны чалавек, дзікун, вар’ят, злы, але не падобны да драпежніка, хутчэй нагадвае старога быка, якому

вельмі брыдка жыць сярод людзей, такім старым і кастрыраваным. Таму менавіта сёньня ў гатэлі сьвята! Хасан сапраўды захварэў, напэўна, яго ня будзе некалькі тыдняў. Увесь пэрсанал дыхае вольна, працуе шпарка, весела й лёгка. Ніхто ня думае пра тое, што робіць штосьці ня так, ніхто не хвалюецца быць раптоўна схопленым падчас спажываньня чакаляднага сырка альбо падчас трыццаціхвіліннага адпачынку, няхай нават і ў пакоі прыбіральшчыц на брудных ручніках і анучах.

Ноч. Хасан у майтках і аднаразовых белых тапачках зь лягатыпам свайго гатэлю сядзіць у кватэры, ва ўласным фатэлі каля тэлевізара, сьпіна ўся зарослая, згорбленая, на падбародзьдзі неахайная шчэць, на макаўцы лысіна, аточаная з бакоў раскудлачанымі валасамі. Ён ня можа заснуць – па-першае, праз кашаль і боль у грудзёх, па-другое, за пяць год ён настолькі абвык па начох працаваць, што проста ня ведае, як гэта магчыма заснуць у цемры, ноччу. Па тэлевізары паказваюць эратычны фільм “Элена ў каробцы”, ён ня сочыць за сюжэтам, ён сядзіць на ложку, сумны, незадаволены жыцьцём, і яму так моцна хочацца заплакаць, зараўці, закрычаць, застагнаць, хоць нейкім чынам праявіць свае пачуцьці, выплакаць усё тое, што назапашвалася столькі год, выплюхнуць усю крыўду й незадаволенасьць жыцьцём, але ён ня здольны гэта зрабіць. Вочы сухія, як пустэльня, цела гарыць, і толькі знутры штосьці клякоча, нібыта кашаль, нібыта душа. Ён ня здольны тут і цяпер заплакаць альбо паказаць свой боль, свой адчай, бо бачыць, што ягоная ціхая дзяўчына, зь якой ён сустракаецца месяц, ляжыць у ложку і яшчэ ня сьпіць. Яна глядзіць фільм.

## Швэды

У гатэлі пасялілася колькі старых швэдаў, адзін зь іх, салодка пасьміхаючыся, завітаў да цырульніка Віталя, які якраз быў вольным на зьмене. Швэд сеў у крэсла пасьля таго, як асыстэнты памылі яму галаву.

Швэду каля сямідзесяці-васьмідзесяці, ён зморшчаны, як разынка, скрозь пакрыты плямкамі й бародаўкамі, валасоў на галаве амаль няма, навошта прыйшоў?

Майстар-цырульнік Віталь стаяў і разважаў: што менавіта стрыгчы гэтаму старому мужчыну, хіба толькі валасы ў вушах?

Швэд першым пачаў размову, прапанаваўшы пасьля працы сустрэцца зь ім і ягоным сябрам, пагуляць па Менску, завітаць у бары, клюбы... Цырульнік адразу сьцяміў такі расклад і наадрэз адмовіўся ад усяго.

– Ды ладна табе, ты вельмі прыгожы малады чалавек, я – стары, я нават не жадаю з табою спаць, калі ты хочаш, можаш ты мяне таго... А? Альбо калі што, я табе адсмакчу ў сваім нумары, разумееш, гэтая грэбаная старасьць, але я вельмі хачу хаця б проста пасмактаць. Вядома, было б нашмат круцей, калі б ты мяне. Гэтым займаліся нават старажытныя грэкі, такім чынам яны перадавалі сваім вучням філязофскі розум, ну й прастату масажавалі... – стары быццам размаўляў сам з сабою, варочаючы галавою ў розныя бакі, – Колькі ты хочаш? Дзьвесьце эўра, трыста, чатырыста, пяцьсот? – швэд

нэрвова шчабятаў і намагаўся сваімі скручанымі рукамі схапіць рукі стыліста, каб знайсьці зь ім больш шчыльны кантакт. Ён пазіраў праз люстэрка мутнымі аліўкавымі вачамі, крэкаў, усьміхаўся, варушыўся пад пэнюарам.

Віталь зьбялеў, потым пачырванеў, рукі ў яго пачалі трэсьціся, і ён паклікаў асыстэнта, каб той скончыў замест яго працу. Віталь быў абураны, ён ненавідзеў такіх людзей, ён ненавідзеў сваю працу, яго злавалі кліенты.

Старыя швэды ўвесь вечар дзяжурылі каля дзьвярэй салёна, чакалі, калі гэты малады прыгожы цырульнік, з матаваю скураю й чырвонымі вуснамі, аточанымі мяккім шчаціньнем, пойдзе хаця б паліць ва ўнутраны дворык гатэлю, але той не выходзіў.

Праз колькі гадзін ахоўнік Віктар, які ў гатэлі па начох падпрацоўваў жыгалам, падышоў да старых швэдаў і папрасіў іх у нумары, бо тыя пачалі ўжо замінаць працаваць салёну й суседняму фітнэс-цэнтру сваімі вільготнымі позіркамі й уяўным сьлінацёкам.

Наступнай зімовай раніцай Віталь, галодны й зьмерзлы (у здымнай кватэры кепска працавалі батарэі), прачнуўся, расплюшчыў вочы, паглядзеў уверх, пад стольлю вісела самотная, празрыстая, круглая лямпачка. Раніца толькі займалася, сьвятло праз карычневыя фіранкі праходзіла халодна й тужліва, быццам быў вечар, а ня раніца. Цырульнік сеў на ложку, закрануў нагой пустую бутэльку з-пад партвэйну, тая гучна пракацілася па драўлянай падлозе й трапіла на падраны кілім.

Ізноў трэба выпраўляцца на ненавісную працу, ізноў да вечара быць у атачэньні людзей, размаўляць з супрацоўнікамі й зладзеяватымі адміністратарамі, якія

толькі й сачылі з-пад ілба за ім, нагаворваючы на яго кліентам на карысьць сваёй сяброўкі, якая стрыгла кепска, але фанатычна ставілася да грошай і да месца ў салёне. Ізноў грэбаны калектыў, які яго не прымае, ізноў адныя і тыя ж размовы, мацюкі, піцьцё кавы, спробы адасобіцца ў кладоўцы з кнігаю. Грошай як не было, так і дагэтуль няма.

Праца ў сфэры абслугоўваньня часта падобная да працы на заводзе – заробак малы, але каб пражыць акурат да наступнага. Менавіта праз гэта чалавек застаецца там гадамі, бо калі ён атрымае больш грошай, пачне марыць і плянаваць лепшае жыцьцё, лепшую працу, пажадае адкрыць сваю фірму, свой салён, паспрабуе пераехаць, эміграваць… Але гэта нецікава тым, хто займае высокія пасады. Ты мусіш зарабляць столькі, каб хапала на ежу, і баста.

Цырульніку яшчэ ўчора прапаноўвалі пяцьсот эўра… А што, заплюшчыў бы вочы й уявіў бы якуюсь са сваіх любімых італійскіх порнаакторак залатых дзевяностых, тую ж Сэлэну Дэ Росу альбо Моніку Рокафортэ, якія працавалі на легендарнага рэжысёра Марыё Сальеры… Няхай бы стары швэд захлынуўся ягонай спэрмай.

Грошы, грошы, паўсюль грэбаныя грошы, паперкі, якія дыктуюць свае правілы, робяць зь людзей блядзей.

Віталь падняўся з ложка й выправіўся ў прыбіральню, майткі на ягоным целе ледзь трымаліся, парваныя ззаду й перакручаныя празь неспакойны сон.

Пяцьсот эўра, і будзе магчымасьць месяц не працаваць, ня гнуць сьпіну й ногі дзеля мізэрных адсоткаў ад праробленай працы, дзеля няшчасных чаявых, якіх хопіць роўна на хлеб, кільку ў тамаце, дзьве бутэлькі партвэйну, пачак цыгарэт, бутэльку мінэралкі й адкласьці колькі тысяч у тэчку, каб на пачатку новага месяцу заплаціць за кватэ-

ру. І ўсё. І гэта вынік ягонага сталеньня. І гэта тое, да чаго ён імкнуўся? Пра што марыў у дзяцінстве? Ах так, ня трэба забывацца на той факт, што ён часам падзарабляе працаю дома са сваімі пастаяннымі кліентамі.

Цырульнік вырашыў, што калі сёньня швэды ізноў прыйдуць, ён, напэўна, трахне іх і за меншыя грошы, яшчэ да таго, як яны пасьпеюць зжэрці свае кантынэнтальныя сьняданкі.

## Сцэнарыстка

У ружовай рэстарацыі на трэцім паверсе гатэлю, зачыненай для ўсіх, акрамя пастаяльцаў, сёньня насычаны графік: другі дзень запар здымаюць нейкі безгустоўны расейскі сэрыял пра мянтоў… Дзея адбываецца падчас абеду ў пажадана цалкам невядомай для гледача прасторы, галоўныя героі – ён (мяркуючы па ўсім, забойца) і ён (мяркуючы па ўсім, бязьвінны, але чамусьці гэтаму ніхто не дае веры)… Сцэнар тупы й просты – падстава ў забойстве бязьвіннага чалавека… Здымаюць усё ў Менску, бо ў Беларусі зьняць сярэдненькі расейскі фільм альбо сэрыял у пяць разоў таньней, чым у расейскай глыбінцы, дзе кошты накручваюць тоўсты губэрнатар і мясцовы мэнталітэт.

З аднаго боку тут, на здымачнай пляцоўцы, паўсюль адчуваецца эканомія спонсарскіх грошай – ад танных плястыковак і запаранай кавы “Жокей” у тэрмасах да непадрыхтаванага пэрсаналу, а з другога – усе паводзяць сябе, як барчукі са сваім імпэрыялізмам.

Па ўсіх законах эканоміі выпісваць сцэнарыста з Масквы ня сталі, хопіць галоўных актораў, якія абыходзяцца, як цэлы полк масоўкі для ваеннага фільма, таму сцэнарыста шукалі ў Менску. І знайшлі. Галіна Фэліксаўна адпісала сцэнар паводле пляну, як мае быць, выклалася выдатна, хутка, чыста, прафэсійна й на тыдзень раней за тэрмін. Галоўны рэжысёр запрасіў яе на здымачную пляцоўку, трэба было

пабачыцца, пагутарыць, пазнаёміцца, расплаціцца… І гэта, як выявілася, было памылкаю ад самага пачатку…

У рэстарацыі зьявілася жанчына невядомага ўзросту ў чорным ваўняным кажуху, у хустцы, з чырвоным тварам, з саплямі на верхняй губе, зь вялікімі чырвонымі вачыма, позірк якіх блукаў па прасторы. Яна зрабіла колькі крокаў у бок апэратара й спынілася каля актораў. Крочыла яна цяжка, хада ў яе была напорыстая, ногі тоўстыя, круглыя, як ружовыя калёны ў рэстарацыі, абутак быў стаптаны й хутчэй нагадваў штосьці самаробнае, спадніца ледзь праглядала чорным краем з-пад кажуха. У адной руцэ жанчына трымала чорную торбу, а ў другой шэрыя варэнкі, якімі час ад часу дакраналася да сьлязьлівых вачэй і носу, зь якога няспынна цяклі зялёна-празрыстыя соплі. Галіна Фэліксаўна – ва ўсёй прыгажосьці й неадэкватнасьці.

Як яна патрапіла ў гатэль, як прайшла праз ахову, як паднялася ў рэстарацыю?! Мэнэджар на гэта даў дабро па тэлефоне. Ён толькі прыйшоў на працу й меў загад пускаць праз цэнтральны ўваход усіх асобаў, якія задзейнічаныя ў працэсе кіназдымкаў, так было прасцей, бо ня трэба выпісваць аднаразовыя пропускі. Таму ахоўнік, вядома, спачатку сумняваўся, што рабіць: даць Галіне Фэліксаўне пад сраку альбо паказаць, дзе ліфт на трэці паверх.

Жанчына крыху пастаяла, перамінаючыся з нагі на нагу, паглядзела, прымружыўшы вочкі, на актораў і апэратара, села за суседні стол і паставіла сваю чорную торбу на пустую талерку. А трэба дадаць, што, акрамя апэратара, двух актораў і асыстэнта рэжысёра, у рэстарацыі было каля трыццаці чалавек масоўкі, якія елі, пілі й гутарылі, а яшчэ гатэльныя афіцыянты, якія побытава падыходзілі да сваіх роляў, і гэта было файна для сэрыяла, так бы мовіць, натуральна, працэс яго стварэньня йшоў поўнаю хадою.

Галіна Фэліксаўна спачатку гучна замовіла вады бяз газу, перапыніўшы актораў, потым па невялічкай паўзе – эспрэса й попельніцу, і села чакаць замову…

– Ды што гэта тут такое?! – абурыўся рэжысёр, ускокваючы са свайго месца. – Хто такая?! Што, блядзь, за самадзейнасьць?!

Галіна Фэліксаўна назвалася й прадставіла сябе як сцэнарыста, смачна высмаркаўшыся ў насоўку.

Рэжысёр паглядзеў на Галіну раззлавана, але ніякай цікавасьці ў ягоных вачах не чыталася: за сваё жыцьцё ён розных алігафрэнаў бачыў, асабліва ў сьвеце літар і фарбаў, таму моўчкі адлічыў патрэбную суму й папрасіў сцэнарыстку пасьля кавы сысьці і больш ніколі, ніколі не зьяўляцца перад ягонымі вачыма, нягледзячы ні на што, нават на яе талент пісаць сцэнары.

Галіна Фэліксаўна скончыла з каваю, папіла вады, папаліла й выправілася да ліфта і, сышоўшы на першым, зьнікла сярод наведнікаў лобі-бара, заняўшы месца ў прыцемку, у куце барнага стала.

– Я, разумееце, шаноўны, я вось хварэю, а то ж, усе мы хворыя, але пра гэта ня ведаем, вось як. Так, хворая, алергія ў мяне амаль на ўсё, што існуе ў сьвеце, часта бывае: як возьме мяне ацёк Квінкэ, дык ледзь “хуткая” пасьпявае, таму мне трэба пробы рабіць… – сцэнарыстка гучна, таропка прагаворвае словы, яна так жадае, каб бармэн выслухаў яе да канца, каб прыслухаўся, каб пашкадаваў, што не заўважае, як часта паўтарае адно і тое ж. – Вы мне мо крыху больш каньяку падліце, вы не саромейцеся, я тут кіно здымаю, я каньяк на падрапанай руцэ разатру, і калі

ніякіх прыкметаў алергіі ня выявіцца, буду яго піць, – і яна носам шморгае, соплі ганяе, губа ніжняя трасецца, нібыта вось зараз расцягнецца і жанчына пачне плакаць. – Ну калі ласка, у мяне грошы ёсьць, вы не хвалюйцеся, насамрэч кожны з нас можа захварэць, усе мы носім у сабе бактэрыі й вірусы, усе мы патэнцыйныя мерцьвякі, – Галіна Фэліксаўна сьлязьліва скуголіла і церла на запясьці мінэралку, чакаючы, калі пададуць каньяк.

Праз хвіліну перад ёй зьявіўся кубак з чайнай вадкасьцю сямігадовай вытрымкі. Сцэнарыстка плюхнула алькаголем на запясцье й пачала драпаць руку, пакуль не праступіла колькі кропель крыві. Бармэн, звалі яго Юра, шмат чаго бачыў у сваім жыцьці, але ўсё адно аслупянеў і ўтаропіўся на руку жанчыны, скура якой была чырвоная. І тут Юра ня вытрымаў і папрасіў жанчыну разьлічыцца й зьнікнуць зь ягоных вачэй. Сцэнарыстка заенчыла, але далей зь ёй не цырымоніліся…

Галіна Фэліксаўна яшчэ два разы трапляла на лобібар, ахоўнікі мяняліся зьменамі й ня ведалі яе, дзённы мэнэджар Карнэй Эдуардавіч выводзіў яе днём, начны Хасан – ноччу, галоўны мэнэджар меў зь ёй размовы, а таксама адміністратары рэстарацыі, ахова, бармэны Юра, Вова, Кастусь і Андрэй, але яна магічным чынам трапляла ў гатэль, сядзела, церла каньяк на руках, пускала соплі, часам пачынала плакаць, аднойчы яе сапраўды разьдзьмула, як балёнік, яна пакаштавала маленечкую чакалядку, якая была пакладзеная на бірдэкель як падаруначак для кліентаў гатэлю й рэстарацыі.

Аднойчы Галіна патрапіла ў спа-цэнтар і адтуль у салён-цырульню… Гэта быў гамон… Фарбы… Усе фарбы для

валасоў яна размазала па руках, запэцкала сваю адзежу й сядзела так на канапе перад стэндам рэцэпцыі, чакала алергічнай рэакцыі, ацёкаў і ўсяго самага горшага, плакала, распавядала скрозь стогны й сьлёзы пра тое, што ўвесь сьвет хворы, ён памірае, настае Армагедон… Яна напалохала наведнікаў салёну, хтосьці, як толькі прыходзіў па запісе, бачыў такую карціну й адразу сыходзіў, Віталь, цырульнік, проста схаваўся ў сваім пакоі для пэрсаналу, Антон, другі майстар, глядзеў на сцэнарыстку такімі спужанымі вачыма, быццам пабачыў сьмерць, і не варушыўся, яму адначасова было цікава, чым усё гэта скончыцца.

Галіна Фэліксаўна чакала й чакала, яна нарэшце патрапіла ў тое атачэньне, дзе яе мусяць слухаць, трываць, бо яна патэнцыйны кліент, яна па ўсіх правілах мае рацыю ва ўсім!

Ніхто з супрацоўнікаў цырульні ў спа яе ня ведаў і ніякіх распараджэньняў гнаць яе ў шыю ад начальства ня меў і таму не чапаў, бо халера ведае, хто яна такая, можа быць, яна звар’яцелая жонка якога нафтавіка, і калі яе кранеш, то потым проста так не адкруцісься… Але адначасова нікому не патрэбны быў тут мярцьвяк, калі здарыцца сапраўды які ацёк Квінкэ… Так, Квінкэ й да пабачэньня… Камэры ўсё фіксавалі, усе рухі, і ў гэтым выпадку, нават калі яна сама сабе напэцкала фарбаў на рукі й разадрала скуру, пакараць маглі цырульнікаў і адміністратараў за бязьдзеяньне…

Галіна Фэліксаўна пасядзела так гадзіну, папіла кавы, супакоілася, заўважыла, што яшчэ жывая й ніякай алергіі не здарылася, толькі кроплі крыві засохлі, і ўзяла й пакрыўдзілася, і запатрабавала кнігу скаргаў. Бо што гэта за абслугоўваньне такое!? Паклікала Віталя, каб той пафарбаваў ёй валасы. Зразумела, Віталь, як і Антон, адмовіўся.

Адміністратарка не разгубілася, набрала нарэшце ахову. Хасан быў на месцы праз хвіліну і ажно падскочыў, калі пабачыў гэтую вар’ятку. Хасан ненавідзеў, калі яму на яго зьмене псавалі Яго працу, й не трываў такіх жанчын, празь якіх ён губляў выдатных кліентак гатэлю. Галіна Фэліксаўна ўяўляла сабой наймацнейшую антырэкляму гатэлю. За Хасанам хвастом цягнуўся тоўсты галоўны ахоўнік Піліп Андросавіч.

Гэта было падобна да невялікага забойства. Сцэнарыстка крычала, круціла вачыма, ускідвала голаў да столі, кідалася ў розныя бакі, адмаўлялася апранаць кажух, крычала пра грошы й пра тое, што яна жадае фарбаваць сівыя валасы й кожны з нас носіць у сваім целе цэлы пакунак вірусаў і бактэрый, і кожны з нас можа падохнуць ад ацёка Квінкэ, проста карыстаючыся новымі духамі альбо зьеўшы мармэляд. Яна білася й кідалася ўсім, што траплялася пад руку. Але шлях у гатэль ёй зачынілі назаўжды. Скаргаў яна не пісала, але калі б і пакінула штосьці ў “Кнізе скаргаў”, анічога не адбылося б, нават паветра не скаланулася б – штат юрыстаў міжнароднай кампаніі гатэляў такі вялікі, што адзін чалавек, які ідзе супраць, ня воін у гэтым полі.

Галіна Фэліксаўна, напэўна, вар’ятка, але хто з нас не без шызафрэніі, і пад канец гэтага кароткага “гатэльнага” апавяданьня большасьць ужо разважае пра сваё цела, разглядае яго як зьмесьціва вірусаў і бактэрый... Яшчэ крок, і мы будзем па-за мяжою “нармалёвасьці”, такой спрэчнай катэгорыі.

Сцэнарыстка й па сёньня атрымлівае замовы на сцэнары, але толькі на паштовую скрыню... Лепш зь ёю ня бачыцца. І амаль кожны галоўны герой, прапісаны ейнымі ўласнымі рукамі, хаця б аднойчы кажа ў той ці іншай сэрыі: “Мы ўсе цяжка хварэем, але пра гэта яшчэ ня ведаем. Мы ўсе – зьмесьцівы вірусаў і бактэрый, і нас чакае выбух”.

## Бі

Калі шукаць сярод мужчын прыклад сэксуальнасьці й усеагульнага жаданьня, то такі пэрсанаж – Антон. Былы танцор, выкладчык-харэограф, стыліст-цырульнік, яго ў гатэль запрасілі толькі на пачатак працы спа-цэнтру, дамова была на лепшых умовах – за вялізны ганарар у месяц за паўгода раскруціць зону цырульні ў спа. То-бок зрабіць так, каб кожны патэнцыйны кліент зрабіўся пастаянным і вяртаўся ня толькі стрыгчыся, але і сачыць за самымі моднымі навінкамі сэзонаў. Антон быў запрошаны дзеля таго, каб склалася працоўная база й каб выйсьці хаця б на пачатку працы спа ў гатэлі ў нуль.

Ладненькі, зь дзявочымі вейкамі й зялёнымі вочкамі, зь ірванаю фрызураю й прамэліраваным чубчыкам, з зарослаю шчаціньнем пыскаю, Антошка ствараў цуды... Стрыг ён звычайна, але як сябе паводзіў з жанчынамі й дзяўчынамі!.. Увесь пругкі, усьміхаецца, гнецца, жартуе, страляе вочкамі... Жанчыны блыталіся, адчувалі сябе каля яго спачатку тупымі нязграбнымі каровамі, але пасьля колькіх камплімэнтаў раставалі, і трымцелі, і былі гатовыя на што заўгодна.

Кожная новая кліентка, няважна, з вуліцы альбо з гатэлю, тэрмінова шукала новай сустрэчы з гэтым Апалёнам, з гэтым апранутым Давідам. Антон, у сваю чаргу, любіў казаць, што пісьменна памытая галава й зроблены масаж – гэта ўжо палова посьпеху ў абслугоўваньні.

Жанчыны яго песьцілі, яны пакідалі цэлыя заробкі яму на гарбату, пакідалі свае сэрцы… Хапалі яго за рукі, абдымалі, а самыя нахабныя цалавалі, спрабуючы адразу патрапіць у ягоныя чырвоныя вусны… Антон толькі пасьпяваў выкручвацца альбо закрываць рот, каб яны не траплялі туды сваімі языкамі…

Год працы Антошкі – гэта год шаленства, год паху жаночых выдзяленьняў, год нястрымнага юру, жарсьці, сьлёз, сьмяшкоў і намёкаў.

Сярод усёй гэтай жаночай публікі да яго заходзіла колькі мужчын, паводзілі яны сябе афіцыйна й часта стрымана, але па іх позірку адміністратары й калегі Антона заўважалі, што ўнутры гэтыя мужчыны спапялюшаныя каханьнем, аднабаковым, моцным, нястрымным, схаваным каханьнем да мужчыны, каханьнем несьвядомым і міжвольным.

Антошка не асабліва каб зьвяртаў увагу на ўвесь гэты вэрхал вакол сябе, ён рана пайшоў на пэнсію з танцаў – сьпіна, але ў свой час пасьпеў добра наскакацца на падтанцоўках у розных беларускіх сьпявачак, якія езьдзілі са сваімі “турнэ” па вёсках краіны… Антон сьпярша ня ведаў, куды падацца, але адразу знайшоў сябе ў цырульніцкім мастацтве… Ён стрыг, і грошы пакункамі траплялі ў яго кішэні й заплечнік, які ён набыў у аддзеле “ўсё для жанчын” на Нямізе… Ён зь дзяцінства любіў рэчы, уласьцівыя ня толькі ягонаму полу, таму ніколі ня бачыў розьніцы між тым, каб ябаць кагосьці самому альбо каб яго.

“Ён радаваўся жыцьцю, ён танчыў і стрыг” – так, напэўна, напішуць на ягоным надмагільным камені. Ён сапраўды не замарочваецца жыцьцём, салодка пасьміхаецца адбеленымі зубкамі й рассоўвае па кішэньках даляры, эўра, расейскія й беларускія рознакаляровыя паперкі… Жыцьцё атрымалася, easy money…

Адна з жанчынаў, якая, як і ўсе, пакуль стрыглася й масажавалася, атрымлівала асалоду ад блізкасьці гэтага гнуткага мужчыны, узбуджалася і была больш нахабнаю, чым астатнія, патрабавала, так бы мовіць, звыш простага бытавога абслугоўваньня – як толькі Антошка станавіўся перад ёю, каб стрыгчы яе валасы сьпераду, яна хуценька кранала яго прамежнасьць, намацвала пэніс альбо яйцы й лашчылася… Так, вядома, доўга не магло працягвацца, праз колькі стрыжак Антошка здаўся, і ў падсобным памяшканьні гэтая кліентка смактала яму з глыбокім вуркатаньнем і стогнам, а Антошка, прымружыўшы вочы, мацаў яе грудзі й успамінаў Артура, і праз колькі хвілін, павялічыўшы хуткасьць рухаў, спусьціў ёй у рот.

Антошка трахаў амаль усіх прыстойных жанчын, калі ў вольныя ад абавязкаў у спа-цэнтры часы працаваў прыватна на даму. Ягоны каханак Артур не зайздросьціць Антону, яны разам жывуць ужо восем год, і, каб ня гэтыя, як ён лічыў, дзіцячыя гульні Антошкі, жахам было б толькі, калі б той здрадзіў яму з мужчынам.

Артур – каханьне ўсяго жыцьця Антона. Яны пазнаёміліся выпадкова, калі Артур прынёс выкананую замову – чаравікі са скуры кракадзіла для адной зь беларускіх сьпявачак… Антон тады разьмінаўся перад падтанцоўкай. Яны амаль адразу закахаліся адзін у аднаго і ў той жа вечар пераспалі… Праз тыдзень Артур перавёз усе свае рэчы да Антона. Усё ў іх лёгка й проста, як мае быць. Але розьніца ў тым, што Артур – гей, і таму да Антонавых кліентак ставіцца абыякава, але Антошка – бісэксуал, і да сваіх кліентак ставіцца крыху па-іншаму.

Артур – вельмі пасьпяховы майстра. Абутак, які ён робіць на замову, карыстаецца папулярнасьцю за дызайн,

якасьць і ручную працу… Сам ён мужны, крыху азызлы і ня надта каб прыгожы, але па-вар’яцку цікавы, асабліва калі глядзіць на вас сваімі вачыма з-пад ілба – у жанчын адразу падскоквае ціск, а мужчыны часта бянтэжацца, бо ня ведаюць, як сябе паводзіць перад такім позіркам. Калі Антошку жанчыны любяць самі проста так, інтуітыўна й, так бы мовіць, па закліку полу, то Артура кахаюць за мужнасьць і незвычайную аўру, за ягоны мужчынскі пах, за адчай, за позірк, за джэнтльмэнскасьць, але той, у сваю чаргу, ужо восем год жыве з адным Антонам і за гэты час толькі выпадкова, п’яны, пацалаваўся з хлопцам у гей-клюбе і лічыць гэта здрадаю.

## Цыганка

Чорныя вочы, чорныя бровы, цёмная скура, тоўстыя вусны, пазногці, даўжэйшыя за кіпцюры драпежніка, звычайна з "фрэнч"-пакрыцьцём. У яе вялікі мажны азадак, тонкая талія й начасаныя выбеленыя пэргідрытам доўгія валасы, якія штодня яна гадзінамі ўкладвае з фэнам на брашынг... Цыганка стала дырэктаркай спа-цэнтру выпадкова, яна ўсё жыцьцё толькі й шукала выхаду да прыватнага бізнэсу. І так сталася, што яе кліенткаю, якую яна стрыгла, аказалася адна жанчына з канцэнтраваным пахам поту. Гэтая потная жанчына атрымала вельмі буйную пасаду ў парлямэнце краіны, памяняўшы фартух паварыхі на чамадан чыноўніка, і цыганка Раміна Гайдараўна атрымала ўласны салён, фітнэс, басэйн і масажню, але ненадоўга, хапіла аднаго году.

Гатэль, як толькі адчыніўся пасьля "рэканструкцыі" (раней на ягоным месцы быў таксама гатэль, гістарычная каштоўнасьць, але адной ноччу за будаўнічым плотам усё раптоўна зьнікла й "рэканструявалася" ў новы гатэль), пасьпяхова здаваўся ў арэнду, так зьявіліся прыватнае казыно, рэстарацыя й начны клюб, цыганка выкупіла сабе на год салён з зонаю спа й апантана кінулася ў бойку зь цяпер ужо ўласным пэрсаналам. Яна пачала кіраваць, валадарыць і зрабілася сапраўдным дыктатарам.

Калі Раміна Гайдараўна раніцою толькі прыходзіла на працу, усе навокал – адміністратар, стылісты, асыстэнты,

манікюрысты, мэнэджар Юлія Цімафееўна, бухгальтар Люся, масажысты Ганна і Лера, інструктары па фітнэсе – пачыналі адчуваць сябе блага, быццам бы раптоўна захварэлі. Цыганка была сапраўднай хваробаю, чымсьці кшталту непрыемнага й маруднага герпэсу на вуснах, ад якога вельмі цяжка пазбавіцца, а калі пачынаеш яго калупаць альбо грызьці, ён цячэ, распаўсюджваецца й становіцца горш. Менавіта паводле гэтага прынцыпу цыганка кіравала спа-цэнтрам: спачатку патрабавала да сябе татальнай увагі – яе мылі, сушылі фэнам, потым падкручвалі брашынгам, потым начэсвалі валасы, потым пакрывалі лакам пазногці на руках і нагах, наносілі крэм супраць старэньня, рабілі масаж плячэй, і ўжо пасьля абеду пачынала працу – гістэрыла, звальняла, псыхавала, потым лаялася на супрацоўнікаў, бо гаўняна яе прычасалі, а потым скардзілася, што за дзень мала грошай прынесьлі ў касу (вядома, а як жа пасьпець, калі ўвесь працоўны час яна засяроджвала ўвагу на сябе, адкуль у касе зьявяцца грошы?). Некалькі разоў на тыдзень Раміна Гайдараўна шалёна насілася па цырульні, пакуючы цырульніцкі рыштунак, і зьяжджала стрыгчы нейкага Мясковіча ды сваю дурную, цяпер ужо сяброўку, потную чыноўніцу, якой кожны месяц даплочвала за ліцэнзію й за “крышу”, але спа-цэнтар існаваў ня толькі дзеля яе. У цыганкі была маленькая дачка, чарнавокая соска з паганымі паводзінамі, пагардлівым позіркам і зьнявагай да ўсіх, акрамя сваёй парцалянавай маці. Твар цыганскай дачкі, яе аблічча прысутнічалі паўсюль: вось яна, шчарбата ўсьміхаючыся, пaглядае на вас з буклетаў, флаераў і візытовак, вось яна з кучаравымі валасамі глядзіць на вас з расьцяжкі на сьцяне, вось яе імя ў назве салёна (праз год кіраўніцтва гатэлю яго прыбрала), вось яна сядзіць у зоне чаканьня кліентаў, вось яна, блядзь, калупаецца ў носе… “Пaглядзіце на маю прыгажуньку! Ай ты мая

цукерачка, ай ты мая жопачка! Ай на нэ, цыганэ, ай на нэ!” Потым, калі цыганка нарэшце спыняла свае мілаваньні, яна азіралася на супрацоўнікаў і чакала ад іх такога ж бязглуздага замілаваньня сваёй цукерачкай, і ўсе пачыналі енчыць, ціўкаць і замілоўвацца: “Ай на нэ, ай на нэ! Якая паненка тут па спа ходзіць!” А цыганская дачка толькі апускала вочкі й чырванела, і пасьміхалася, а праз хвіліну ўжо сядзела ў фатэлі мамкі й сваім тоненькім прыгожанькім роцікам спрабавала кіраваць і патрабаваць.

Гэтыя няшчасныя паўтары цыганкі, гэтая сямейка пратрымалася роўна год, і потым жанчына й недарослае дзяўчо зьніклі, а гатэль забраў сабе спа-цэнтар і ўжо нікому не прадаваў, прэзыдэнту сеткі гатэляў Ніндзю дужа спадабалася наведваць салён і масажню, а тымі рэчамі, якія яму падабаліся, ён абавязкова завалодваў.

Цыганы зьніклі раптоўна, як і зьявіліся, але з помпаю: выкрылі клептаманію бухгальтара Люсі, выгналі ўвесь стары пэрсанал, а некаторых супрацоўнікаў звольнілі паводле артыкулу, каб не выёбваліся, скралі грошы, затрымалі заробкі на два месяцы й так іх і не аддалі… І толькі аднаму чалавеку, які сутыкнуўся з Рамінай Гайдараўнай і яе дачкой, за ўвесь гэты год было на ўсё абыякава – цырульніцы Марыне, бо яна была баптысткай і ўсё прабачала, і зь ёй цыганка амаль не кантактавала. Тую проста скасабочвала ад адной толькі шчырай і добрай усьмешкі Марыны, якая, да ўсяго, была яшчэ цяжарнаю і ўяўляла сабою адну вялікую й пільную ўвагу да свайго здароўя, да свайго цела, сочачы, ці добра праходзіць цяжарнасць, чытаючы Біблію і вяжучы ваўняныя шкарпэткі, утульна ўладкаваўшыся ў куточку. Калі Антон часта вар’яцеў і мацюкаўся на цыганку, якую звычайна прычэсваў Віталь, Марына проста сядзела на залі й вязала, за што праз колькі дзён былі абвешчаны новыя

законы: забарона сядзець бяз працы, забарона на чытаньне на залі, забарона на вязаньне, прагляд тэлевізара, карыстаньне мабільным тэлефонам й забарона на размовы паміж сабой… Толькі праца, суворая праца. Дазволеныя адно забаўлялкі з цыганскай разбэшчанай дачкой, якой толькі споўнілася восем. Маці на працягу трох год рабіла ёй меліраваньне, а цяпер лячыла дачцэ валасы ампуламі й таніравала іх у натуральны карычневы колер. Дачка бегала па спа-цэнтры з алейнымі валасамі, пэцкала сабе вусны чырвонай памадаю і вельмі ўдала капіявала манеры маці...

Дачка ведала, што хутка, калі стане дарослай, яна будзе ня толькі падобнай да маці, але нават звышпадобнай. Бо гэта гістарычны факт: аднойчы Чарлі Чаплін заняў другое месца ў конкурсе двайнікоў Чарлі Чапліна.

## Бухгальтар

У гатэлі ўтрымліваецца буйны штат бухгальтараў, кожны зь якіх адказвае за пэўную зону: рэстарацыя, клюб, нумары па паверхах, спа, казыно й чорт яго яшчэ ведае, якія “чорныя” і “белыя” касы й бухгальтарскія кнігі вядуць гэтыя людзі, з раніцы да ночы аточаныя паперкамі й лічбамі, сумуючы ў сваіх запыленых кабінэтах, прапахлых таннаю кавай і бруднай бялізнай.

Часта, каб ня ўводзіць у спакусу, па-над імі ставяць такі ж па колькасьці чальцоў штат начальнікаў, а то і больш... І аднойчы Люсю, якая вяла фінансавыя справы па рэстарацыі, празь нейкія хібы ў разьліках панізілі з пасады галоўнага бухгальтара да штатнага, і яна мусіла з самага высокага, сёмага паверха, дзе месьціліся кабінэты алімпійцаў-начальнікаў, перасесьці ў невялікі пакой на першым паверсе ў спа-цэнтры.

Люся гэтаму ня надта была радая, тым болей што яе кабінэт суседнічаў з распранальняй, то-бок кліентаў гэтых процьма – гоман, гармідар, ахоўнікі, якія вечна знаходзіліся побач з прывабнымі адміністратаркамі спа й рэстарацыі. Але з часам Люся абвыкла і нават пасябравала з мужным, напампаваным стэроідамі й пратэінамі ахоўнікам Віктарам. Выдатнае сяброўства ў іх было: часта ў ейным кабінэце яны абдымаліся, альбо Віктар дамаўляўся на нумар і ставіў свой традыцыйны кошт за гадзіну сэксу, але са зніжкаю на пяць-

дзясят адсоткаў. Віктар быў вялікі, увесь пукаты, рабрысты, паўсюль тырчэлі цягліцы, якія часта самі па сабе выпадкова напружваліся, а яшчэ ён любіў напружваць свае ягадзіцы. Бывае, забудзецца на ўсё й стаіць на пасту, ахоўвае й сьціскае, а потым паслабляе сраку, сьціскае, паслабляе дзьве накачаныя паловачкі. Віктар рана зрабіўся напаўсівым, што пасавала яму яшчэ болей, то-бок надавала яму павагі, але звычайна ўсіх кліентак ён трахаў па-хуткаму, як маратонец, пакуль не адчуваў, што адпрацаваў сто эўра, й канчаў ім то на жывот, то на сьпіну, таму сівізна не азначала нясьпешнасьці і досьведу, яна была ў яго хутчэй рудымэнтам.

Люся спачатку захапілася новымі прыгодамі першага паверху: сэкс падчас працы, пасьля працы й ноччу, у ейнай галаве пераблыталася, дзе там у гэтых жарсьцях быў муж, дзе Віктар, а дзе яе сьненьні... Невядома, да чаго дайшло б, каб ня тры падзеі: арышт за сутэнэрства Піліпа Андросавіча, галоўнага ахоўніка, прапанова Віктару ад старога школьнага сябра сьпяваць на бэк-вакале ў беларускім гурце і плёткі пра нейкага супрацоўніка, які крадзе грошы з кішэняў і торбаў кліентаў рэстарацыі й спа-цэнтру ў распранальні. І вядома, пасьля галоўнага ахоўніка пачалі катаваць гардэробшчыц.

Ларыса Іванаўна няспынна плакала, калі яе выводзілі з гатэлю, Ганна Анатольеўна была белаю, як той сьнег на ходніку… Абедзьве пэнсіянэркі засталіся бяз працы, камэры, гэтыя змрочныя цыклопы ў кутох, так і не далі празрыстых адказаў, распранальня знутры не праглядаецца, грошы зьнікалі на абедзьвюх дзённых зьменах гэтых старых жанчын, усю адказнасьць за каштоўнасьці панеслі яны. Прасьцей было пагнаць бабуль, адна з якіх мела навуковую ступень па біялёгіі, а другая трыццацігадовы стаж працы галоўным вахцёрам у Опэрным Тэатры.

Пакрысе праблемы зьніклі. Віктара не было колькі тыдняў – ён запісваў альбом са сваім музычным гуртом, альбом называўся “Толькі ты” і меў адразу дзесяць музычных трэкаў пра каханьне... Некаторыя сталыя пастаялкі й супрацоўніцы гатэлю былі не ў гуморы без традыцыйнага сэксу, Люся сумавала па прыгодах, бо на алімпе, на сёмым паверсе, сёмым небе, як-ніяк хаця б галоўны дырэктар гатэлю час ад часу ўшчыкваў яе за азадак, і гэта надавала ёй рахманасьці, да таго ж раней у яе было меней папяровай працы.

Крадзяжы ў распранальні праз два тыдні аднавіліся, але ніхто пра гэта ня ведаў, акрамя Юліі Цімафееўны. Ёй па сакрэце сказала адна з кліентак, што ёй падаецца, нібыта ў яе час ад часу зьнікаюць грошы з партманэ альбо з кішэні паліто, але яна ня можа даць пэўны адказ, ці сапраўды так, бо часта носіць з сабою стос грошай, бывае да сарака тысяч даляраў, па справах патрэбна, і не ўпэўненая, што сто альбо дзьвесьце даляраў зьніклі… Мэнэджар спа-цэнтру ўсё зразумела, яна ўцяміла, што бабулькі тут былі ні пры чым, тут хтосьці працаваў прафэсійна, чыста.

Праз два дні ў кліенткі зьніклі чатырыста тысяч беларускіх рублёў, чатырма паперкамі… Распранальню часова зачынілі й пачалі разважаць, дзе, хто і як, па камэрах глядзелі, там было бачна, што ў распранальні нікога не было больш за дзьве гадзіны, толькі новая гардэробшчыца Валянціна Мікалаеўна выходзіла ў прыбіральню, але ўсё зачыняла… Абшукалі гардэробшчыцу, тая на гэта моцна пакрыўдзілася, маўляў, трыццаць гадоў на заводзе адпрацавала, цаліну падымала, а цяпер яе на старасьці гадоў зладзейкаю называюць! Высноваў з Валянцінай Мікалаеўнай не зрабілі. Абшукалі прыбіральню – таксама нічога.

І тут раптам Люсі спатрэбілася выйсьці са свайго пакоя, каб падняцца наверх і падпісаць колькі паперак. Выходзіць яна, дзьверы замыкае, а да яе Раміна Гайдараўна й Юлія Цімафееўна з ахоўнікам Сашам падскочылі і патрабуюць адчыніць дзьверы кабінэта, ён адзіны суседнічае з распранальняй, хто яго ведае... І ўсе ўчатырох уціснуліся ў пакой, які іх ледзь змясьціў.

Люська зрабіла выгляд бязьвіннай ахвяркі, але ў ейным кашальку знайшлі тыя чатыры бэжавыя паперкі, на якіх быў намаляваны замак Радзівілаў у Нясьвіжы, кліентка загадзя выпісала ўсе нумары ейных купюр, і яны супалі...

– Доўбні мы ўсе! – жалілася Юлія Цімафееўна, – забыліся на тое, што суседні пакой бухгальтара знутры злучаны з распранальняй асобнымі дзьвярыма, бо першапачаткова кабінэт мусіў быць камораю гардэробшчыкаў...

А Люся нічога, пасьміхалася, яна саму сябе даўно ўжо апраўдала: за асалоду трэба плаціць – пяцьдзясят эўра за адзін раз, і гэта са зьніжкай як для пэрсаналу, за адзежу трэба – па-суседзтве адкрылі новы францускі буцік, нават за прыгоды трэба плаціць! А што тыя таўстасумы, тыя разбэшчаныя кліенты? Хіба яны абяднелі? Не! Ста далярамі болей, ста далярамі меней, якая ім розьніца.

І адзіным чалавекам, які сумаваў праз крадзяжы бухгальтара, быў нават ня Віктар, які страціў адну са сваіх любімых сталых кліентак. Гэтым няшчасным ёлупнем быў markdown рознарабочы Ваня, якога яшчэ на той час ня звольніў Хасан і які часта паліў на падворку гатэля разам зь Люсяю й шчыра яе кахаў, яна нават аднойчы на карпаратыве п’яная дала яму памацаць свае грудзі і пацалавала ў шчаку… Увечары, калі Люсю канчаткова пагналі з гатэлю са скандалам, Ваня прыйшоў дадому, адамкнуў сваю самотную здымную ква-

тэру, не распранаючыся сеў за стол, адкаркаваў гарэлку й піў да раніцы, і недзе ў дзьве гадзіны ночы плакаў гарачымі сьлязьмі, бо няма нічога больш жорсткага ў неўзаемным каханьні, як даведацца, што аб’ект тваіх мараў – сапсаваны гэтым прагнілым сьветам, і кожны кожнаму вораг, і кожны кожнага падазрае, асабліва ў такой багне, як гатэль... Бо, як нам вядома, – чалавек чалавеку воўк.

## Котка

У гатэль прыехала канадзкая каманда па хакеі. На тыдзень. У канадцаў наперадзе як мінімум тры матчы. На рэцэпцыі ўсіх хуценька разьмеркавалі па нумарох, акрамя аднаго яўнага рэтрасэксуала, форварда, які быў жудасна нязграбна апрануты, з празрыстай усьмешкаю й поглядам татальнай абыякавасьці да ўсяго, што адбывалася навокал. Затрымка зь ім здарылася праз тое, што гатэль паводле сваіх унутраных законаў забараняе пастаяльцам утрымліваць у нумарах жывёл.

Забарона была строгаю й кантралявалася дырэкцыяй. Але Ўэйн, так звалі спартсмэна, адказаў, што адмаўляецца тут спыняцца, пакуль не “прапішуць” яго котку – амаль міжнародны скандал: канадцы адмаўляюцца гуляць, котку адмаўляюцца прапісаць, жах…

Ды колькі той коткі было, але яна была ангельскаю, пароднаю і каштавала пяцьдзясят тысяч фунтаў, мела сваю ўласную клетку і валізу на колах зь ежаю, пігулкамі, вітамінамі, цацкамі, штучнымі мышамі-забаўлялкамі, адфільтраванай вадой для піцва, мела сваю касмэтыку й колькі вопраткі, а таксама экалягічна чысты пясок для туалета.

Уэйн ледзьве ня плакаў, скардзіўся, што ў яго толькі яна і ёсьць, адзіная яго падтрымка, і яму не патрэбныя ані прастытуткі, ані іншы біяматэрыял, які толькі стварае атмасфэру прысутнасьці. Уэйн казаў, што якія б грудзі ні прась-

вечваліся праз выразы ў кофтах і саколках жанчын, яны не заменяць яму ягоную котку, якая аддае ласкі ўтрая болей і нічога за гэта не патрабуе. Сябры й таварышы па хакейным клюбе яго добра разумелі, яны падарожнічалі толькі з фотакарткамі любімых, альбо на скрайні выпадак здымалі напружаньне ў цяглiцах праз набыты сэкс альбо рукою з крэмам.

На рэцэпцыі дзяўчыны перапужана лыбіліся, ня ведалі, куды падзець свае рукі й свае целы падалей ад зьнерваванага хакеіста, пакуль не зьявіўся дзённы мэнэджар Карнэй Эдуардавіч і, раззлаваны, што безь яго ня могуць рашыць такія простыя справы, з ходу падкінуў адну карункавую ідэю.

І котку запісалі як прастытутку, то-бок як “лэдзі ў нумар”, і гэта вырашыла ўсе праблемы. Уэйн адразу праплаціў тыдзень пражываньня сваёй коткі, па сорак эўра за дваццаць чатыры гадзіны, і зьнік у ліфце разам з коткаю, клеткай і кацінай валізаю.

І ўсё было б файна, але аднойчы пакаёўка Наста, прыбіраючы ў нумары хакеіста, раптам не знайшла коткі. Гэта мусіў быць трэці міжнародны скандал у хакеі за два дні. “Лепей бы я цябе не знайшла, курва! – раўла на яе Міхаліна, галоўны мэнэджар. – Ды як ты знойдзеш мне пяцьдзясят тысяч фунтаў за котку!? Га? Прыбярэш усе нумары ў Беларусі?!”

Наста кінулася шукаць па гатэлі котку, пухнатую жывёлку колеру пляжнага пяску, уся дзённая зьмена, шкадуючы дзяўчо, кіскала па паверхах, зазірала ў самыя незвычайныя месцы, усе сьпяшаліся, пакуль канадская каманда

ня вернецца ў гатэль. Безвынікова… Пакаёўка Наста, заплаканая, счырванелая, з апухлым тварам, пайшла ўвечары дадому, гатовая чакаць начнога званку, калі Ўэйн вернецца, вырашыць пакарміць котку, а там…

Так яна, бедная, і заснула, знэрваваная, забыўшыся пераапрануцца, скруціўшыся эмбрыёнам пад ваўняным пледам, выпіўшы бутэльку валяр’янкі.

За ноч Насту ніхто не пабудзіў тэлефанаваньнем. Котка сама выпаўзла з-пад ложка, пад якім амаль суткі хавалася, напалоханая ранішнім пыласосам.

Акрамя коткі, Уэйн любіў толькі прадукцыю Apple. Ён быў шалёным прадстаўніком новага руху – мак-нацы, і спачатку ўвесь тыдзень фатаграфаваў котку на свой iPhone, а потым, апошняй ранціцою, перад ад’ездам, калупаючы яечню з кантынэнтальнага сьняданку, у макбуку пасьціў усё гэтае сантымэнтальнае лайно зь любімай коткай у Фэйсбук, дзе пісаў у статусе, што жыў тыдзень у Менску з коткаю, якую афармілі як прастытутку. Уэйн так і не даведаўся пра тое, як шукалі ягоную пухнатую жывёлку колеру сонечнага пяску і як Наста піла ноччу валяр’янку.

## Дзядуля

Гэтая разбэшчанасьць, гэтая бессаромнасьць, няўцямны юр, вычварэнства заўжды паказваліся першымі, ішлі перад ім, як толькі ён зьяўляўся. Не было істотным, дзе яго бачылі, але кожны спачатку адчуваў, як прастора гусьцее, як паветра цяжэе, і праз сэкунду зьяўляўся ён – ногі ледзь перасоўвае, кульгавенькі, пляшывенькі, жаласьлівы пэнсіянэр, па гадох даўно ўжо ня толькі пэнсіянэр, але, напэўна, й вэтэран Другой сусьветнай.

Ніндзя, галоўны, прэзыдэнт міжнароднай сеткі гатэляў, так яго звалі падначаленыя, дадаючы спадар, пан Ніндзя, яму было далёка за восемдзесят і так жа далёка да рэальнасьці. Ніндзя трымаў пяцьсот гатэляў па сьвеце, яго міжнародная кампанія была адной з самых буйных, ён жыў на ўласнай высьпе ў Карыбскім басэйне і, напэўна, ніколі б нават і не наведаў чарговы гатэль у нейкім цьмяна вядомым Менску, горадзе, які даводзілася гугліць, каб даведацца, дзе гэта, калі б ня жонка. Сталася так, што яшчэ дваццаць год таму Ніндзя ў Дубаі знайшоў сабе маладую жанчыну, якая аказалася зь Беларусі, а тут ужо прайшоў мілеwніўм, першы дзясятак стагодзьдзя й тысячагодзьдзя, а ён усё ніяк не памрэ, і жонка, растраціўшы сваю першую сьвежасьць і маладосьць, вырашыла сталыя гады больш на гэтага юрлівага пня не выдаткоўваць… Разводны працэс апынуўся доўгім

і марудным і праходзіў на радзіме жонкі, што ня надта добра адбівалася на рэпутацыі мусульманіна-бізнэсоўца, але Ніндзю было ўжо ўсё роўна, яго бізнэс кіраваўся знутры сямейным кланам.

Калі яго бачыш, хочацца яму дапамагчы і падтрымаць ягоныя жаласьлівыя рухі… Ён валадар, цар сеткі гатэляў, грошы сапсавалі яго ад самага нараджэньня, калі бацька патрапаў за шчочку, пацерабіў ружовую скуру фамільным пярсьцёнкам з буйным брыльянтам і загадаў абцерці свайго нованароджанага сына шаўковым ручнікам з залатымі ніткамі. Ніндзю з маленства ўзбуджалі толькі грошы й цыцкі. Ён за жыцьцё пасьпеў так шмат разоў зьмяніць атачэньне вакол сябе, зьмяніць столькі гатэляў, нумароў і краін, што гэтага экспірыенсу й грошай хапіла б на тое, каб цікава, сыта й прыстойна пражыць усім жыхарам Этыёпіі ў цэнтры Брусэля на працягу дзесяці год. Ён адзін жыве па памерах гадавога ВУП адной афрыканскай краіны. Яго сапраўдны прыбытак – даўно легенда.

Ніндзя ўжо ня памятае сябе ў маладосьці, бо ён настолькі стары, што за праўду ўспрымае толькі свае блакітныя пігулкі, якія надаюць яму мужчынскай моцы, і лічыць гэта нармалёвым, ад Прыроды. Але трэба адзначыць: ягонаму малодшаму сыну – чатыры гады. Дзядуля, так яго кліча ўвесь пэрсанал гатэлю, даўно аджыў сваё, але працягвае існаваньне, дурное, нягеглае, клоўнскае існаваньне, выконвае ролю мясцовага блазна са сваімі выбрыкамі й заляцаньнямі да пастаялак гатэлю й да кліентак казыно, бараў і спа-цэнтру. Ён, нязграбны й скручаны, ледзь перасоўваючы ногі, шкрэбае падлогу, намагаючыся дагнаць малады азадак, і ажно сьліну пускае, але не пасьпявае за тэмпам маладога жаночага цела. Тады ахоўнікі, якія

заўсёды побач зь ім і выконваюць ролю хутчэй не аховы, а мэдсясьцёр – там дапамагчы яму падняцца, тут папправіць слыхавы апарат, што выпаў з вуха… Ахоўнікі Саша альбо Віктар бегам даганяюць жанчыну й вядуць яе да Ніндзі, і ня дай ёй Божа адмовіць, скрывіўшы вусны, – гамон. Дзед адразу моцна крыўдзіцца й загадвае выгнаць з гатэлю гэтую лахудру, хто б яна ні была: пастаялка, жонка нафтавіка, які прыяжджае граць у казыно, альбо кліентка спа…

Ніндзя апошнія месяцы жыве ў гатэлі, і ўвесь пэрсанал, пачынаючы ад брамнікаў і сканчваючы дырэктарам, адчувае наэлектрызаванае паветра вакол. Жанчыны папросту навучыліся па ледзь улоўным гарлачыкавым паху парфумы Гэрмэс здагадвацца, што недзе ў радыюсе трыццаці мэтраў целяпаецца стары юрлівец у атачэньні танных прасталытак і ахоўнікаў (і першых, і другіх вакол яго – абавязкова па дзьве пэрсоны, гэта загад), ну амаль Ной узыходзіць у каўчэг – усе парамі… Жанчыны адчуваюць пах і хуценька зьнікаюць.

Здавалася б, што тут такога, стары прэзыдэнт гатэлю, балбоча толькі на сваёй мове, ледзь жывы, маразматычны, кульгае й раскідвае грошы, але як цяжка даводзіцца супрацоўніцам. Гэты стары разбэшчаны індывід не абмінае аніводнай жанчыны – ён лезе да іх, хапае за рукі, мармыча, сьлініць іх далоні сваімі вуснамі, мацае іх за азадкі, таліі, рукамі цягнецца да грудзей… Ад усяго гэтага становіцца брыдка, агідна і адначасова прачынаецца такая вялікая, уседаравальная жаласьць да гэтага старога – ну што зь яго возьмеш, небарака, ён нагадвае непаслухмянае хворае дзіцё, якое нават не разумее, што робіць. Ну на табе цыцку, ну патрымайся за сраку… ну што ты яшчэ хочаш?! І вось цуд: празь пяць хвілін ён супакойваецца і спрабуе ўпіхнуць у кішэньку дзяўчынкі грошык.

Каля яго кожны новы дзень дзьве новыя сьвежыя прастытуткі, усе яны, шчыра кажучы, не высокай клясы, то-бок не дарагія, а часта звычайныя дзяўчыны з вуліц, якія прыехалі ў Менск вучыцца, самі жывуць у інтэрнаце, наіўныя, дурныя, марацьпра замежных прынцаў і спрабуюць падзарабіць грошай калі ня розумам, то хаця б дупкаю… Кожны вечар Ніндзя прыводзіць такіх дзявуляў у свой нумар, а на наступны дзень адпраўляе ў спа-цэнтар, каб яны бясплатна зрабілі ўсё, што захочуць, але па адной працэдуры, на большае яны не насмакталі. Шкада глядзець на такіх дурніц, яны выходзяць з кабінэтаў, пасьля масажу альбо касмэтоляга, апранаюць свае танныя сукенкі, якія набылі ў лепшым выпадку ў ГУМе, у горшым – на рынку, шукаюць свае плястыкавыя гадзіньнікі “дольчэ габана” й накіроўваюцца да ліфтаў, каб зноў, як і ўчора, падняцца ў прэзыдэнцкія пакоі Ніндзі, але ім пераразаюць шлях Юлія Цімафееўна й ахоўнік, якія даўно ўжо ведаюць, што рабіць, – калі ласка, просім вас пакінуць гатэль, гаспадар адпачывае й больш вас бачыць не жадае. А гэтыя дзяўчыны звычайна ўжо пасьпелі навысылаць смс сваім сяброўкам з гарадзкіх пасёлкаў і вёсак, што яны сустрэлі на вуліцы альбо ў бары гатэлю свайго прынца, старога, але ж і ноч яны прабавілі ў прэзыдэнцкім нумары, і цяпер у спа-цэнтры робяць масаж, і пасьля зьбіраюцца застацца, як мінімум яшчэ да раніцы, а потым іхнае “старое шчасьце” павязе, як і абяцаў, у далёкія гарачыя краіны, і далей багацьце, багацьце, багацьце. Як вынік суворага рэалізму – іх чакае халодная вуліца і ўсьведамленьне таго, што яны ня маюць грошай нават на грамадзкі транспарт, а то, яны ж ня шлёндры, каб патрабаваць за ноч інтыму грошы, яны прыстойныя дзяўчыны. Студэнткі!

Такім чынам Ніндзя кожны вечар эканоміць на дарагіх прастытутках і нават ня траціцца на вячэру й на працэдуры спа-цэнтра, усё належыць яму.

Надоечы дзядуля даказаў усім, што яшчэ не такі стары брыдкі маразматык, як усе лічаць. Ён за суткі правёў поўную зьмену кіраўніцтва гатэлю, выявіўшы, што на самым высокім узроўні яго дзіка абкрадаюць...

Але, як кажа Міхаліна, галоўны мэнэджар: “Ніндзя ўсяго толькі наш стары дзядок і, калі ласка, стаўцеся да яго з пашанаю, як проста да старога, і старайцеся заплюшчыць вочы на тое, што ён цягне свае скручаныя сухія маршчыністыя рукі да вашых прыгожых цыцак і дупак, проста працуйце”.

І ніхто ня ведае, што Ніндзя насамрэч больш за ўсё ў жыцьці любіць рабіць дзяўчынам кунілінгус, смактаць ім вагіны... Бо для яго гэта як есьці крэмавы сыр Гарганзола з блакітнай цьвільлю й спэцыфічным пахам, быццам бы гідкім, але адначасова мяккім й смачным, прыемным, танюткім. Ніндзя вялікі аматар Гарганзолы... Толькі, на ягоны жаль, рэдка хто зь ягоных аднаразовых спадарожніцаў згодны на тое, каб стары дзед лазіў ім туды языком, няхай ужо лепей пальцамі альбо сваім напаўвісячым невялічкім пэнісам.

## Мэнэджар

“У ёй загінуў актор”, – першыя думкі ў кожнага, хто знаёміўся з галоўным мэнэджарам Міхалінай, яскравай, жвавую і магічнаю асобай. Пра яе можна было сказаць, што яна жывая, менавіта сапраўды жывая. Ад яе каляровымі промнямі струменіла энэргія, яна не сядзела на месцы і ў яе заўсёды пры сабе была дзікая гісторыя, якую яна пасьпявала распавесьці за некалькі хвілін. Гэтага мэнэджара ўсе абагаўлялі, яна гарою стаяла за пэрсанал перад дырэкцыяй, але калі хтосьці зь ейных пакаёвак піў альбо яшчэ ў нечым правініўся, яна неверагодна шырока раскрывала рот, ашчэрыўшы іклы, агаломшвала і вінаватых, і бязьвінных такім моцным крыкам, што здавалася, тыя жылы й цягліцы, напятыя да неверагоднай моцы, у адначасьсе лопнуць.

Міхаліна заўсёды ўсіх просіць зваць яе без афіцыйных прыставак кшталту імя па бацьку, бо яна ніколі не адчувае сябе такой афіцыйнай і старой, за сваё жыцьцё яна пасьпела зьмяніць чатырох мужоў, усе яны, як высьветлілася, былі, паводле ейных словаў, мяккацелымі дурнямі бяз будучыні, лянотнымі мяшкамі, дурнымі мужыкамі… Зь ёй аніводны мужчына ня мог ужыцца, яна была моц, вагонь, жалеза, вечная дынаміка, рух, колазварот… Яна за свой ужо дзесяцігадовы досьвед працы мяняла ня толькі гатэлі, але й кантынэнты – Японія, Турцыя,

Нямеччына, Афрыка, Аўстралія, але ўсё-ткі вярнулася ў Беларусь.

Яна была б выдатнаю акторкай, сапраўднай зоркай, яна зачароўвала сваёй мімікай, усе наўмысна выходзілі курыць, калі бачылі, што на падворак да месцаў для курэньня шпацыруе Міхаліна разам са сваёй намесьніцай – адразу чакай тэатру аднаго актора: сьмех, сьлёзы, ганьба, лямант, скарга, катарсіс, сублімацыя прафэсіі, сублімацыя сублімацыі, гульня, неспадзяваныя словазлучэньні й мэтафары… Ад Міхаліны можна было пачуць россып неверагодных аповедаў і адначасова даведацца пра яе асабістае меркаваньне наконт чаго заўгодна ў сьвеце й па-за ім.

Але такія людзі, як яна, ня доўга жывуць вольна й шчасьліва, іх адразу спрабуюць прагнуць пад сябе. Асабліва гэтага ад Міхаліны намагалася Сыбіла – галоўны маркетоляг і жонка дырэктара гатэлю Амара Алі Айамара. Сыбіла свае “жончыны паўнамоцтвы” хутка й апантанна пашырыла на ўвесь гатэль…

Сыбіла была паскуднаю бабай зь вялікімі сыліконавымі цыцкамі й ботаксным тварам, яна мэтанакіравана помсьціла за Міхалініны адкрытасьць, шчырасьць і акторства.

– Спадарыня Сыбіла, калі ласка, заўтра каталіцкае Раство, дайце мне калі не выходны, дык бальнічны, мне тэрмінова трэба на апэрацыю, у мяне яечнік апусьціўся, я хаджу на працу, як у тумане, усё размытае ад болю, і акрамя яечніка ў мяне жахлівыя болі ў нагах, я на кожным кроку паміраю! У нас тут ёсьць недалёка выдатная нямецкая лякарня, я ўсяго на два дні лягу! – жалілася Міхаліна, на каленях умольвала Сыбілу, але тая для сябе асабіста вырашыла, што галоўны мэнэджар гатэлю будзе ўвесь месяц яе памагатай па працы ў маркетынгу і ў цяжкай справе помсты пэрсаналу.

– О май год, ю а со пур, май гёрл! Але я не магу цябе адпусьціць да дзясятага студзеня, ты мусіш працаваць за мяне, пакуль я не прыеду зь зімовых вакацый. Я сваю дачку ня бачыла тры гады, мой Амарчык сумуе па нашым агульным адпачынку, ты ж мяне зразумей, мой муж, ён жа дырэктар гатэлю, наказаў мне часова пасадзіць на маю пасаду кагосьці з начальства, а ты ў мяне такая цудоўненькая, такая камунікабельная, разумненькая! – з сыліконавых вуснаў Сыбілы гэта гучала як вырак: альбо ты памрэш на працы, альбо я цябе звольню. Гэтая жанчына ўмела адначасова аблашчыць цябе й абсьмяяць.

– Сука кудлатая! Табе ніхто тут права кіраваць не даваў, – прамовіла ціхенька Міхаліна і, пакінуўшы кабінэт маркетолягаў, сышла курыць, кульгаючы, адчуваючы, як дзеяньне абязбольных пігулак слабее і сотні лёзаў разразаюць ніз жывата. На наступны дзень у яе адкрыўся вагінальны крывацёк.

Міхаліна не паслухалася й на заўтра, калі гэтая замежная курва разам з мужам зьехала на вакацыі, легла на апэрацыю і выключыла мабільны тэлефон, каб ніхто не турбаваў.

Цэлы тыдзень Сыбіла назвоньвала на адключаную мабілку, пэрсанал упарта маўчаў, ніхто ня ведаў, дзе Міхаліна. Сыбіла настойліва званіла па тры разы на дзень, пакуль нарэшце не пачула голас Міхаліны, і першымі словамі, якія шалёна выскачылі з Сыбілінага напампаванага рота, былі:

– Ах ты факін блядзь! Мяне не паслухалася?! Я ж цябе, прыеду, зьнішчу, ты ў мяне, сука, паляціш з працы! Чакай! Два дні! І Амар разам зь Ніндзем цябе пагоняць у шыю! – і Сыбіла перарвала роўмінгавую сувязь.

Але складзецца ўсё зусім ня так, як напрарочыла дурная замежніца. Усе думалі, што Ніндзя – стары плюгавы дзед, такі стары, што даўно ўжо не кіруе гатэлем і нічога не разумее, акрамя аголенай цыцкі, але выявілася, ён сачыў за ўсім, і, даведаўся пра паводзіны Сыбілы, пра тое, што тая пашырае свае паўнамоцтвы да бессаромных памераў і катуе галоўнага мэнэджара. Пракантраляваўшы працу яе мужа, Ніндзя выявіць шматлікія крадзяжы грошай і бескантрольнае сутэнэрства па гатэлі, а таксама здраду жонцы – да здрады Ніндзя вельмі сур’ёзна ставіцца!

За дзьве хвіліны Сыбіла, галоўны маркетоляг, і Амар Алі Айамар, дырэктар гатэлю, будуць выкінутыя на памыйку з пагрозай суда, а за імі паляцяць іх найлепшыя сябры: начны мэнэджар Хасан, дурная сяброўка Сыбілы, якая бясплатна карыстаецца паслугамі спа-цэнтру й рэстарацыяй Сабакакал, а таксама колькі дарагіх прастытутак больш ня будуць мець права нават зьявіцца на лобі-бары ў фае гатэлю, ня тое, каб у нумарох.

Міхаліна пасьпее толькі пазваніць Сыбіле і коратка паслаць яе ў дупу, пакуль тая будзе яшчэ на тэрыторыі Беларусі. Праз два тыдні, акрыяўшы, галоўны мэнэджар атрымае павышэньне на працы, ёй прапануюць быць намесьніцай дырэктара гатэлю.

Істотныя рэчы тут, у гатэлі, адбываюцца вельмі хутка і часта пралятаюць з шумам і бляскам, як камэты, пакідаючы пасьля сябе доўгі хвост абмеркаваньняў, плётак і чутак.

## Сьпіс

Ёсьць такая добрая завядзёнка ў сьвеце: дзяржавы стараюцца падтрымліваць адна адну й часта дзеля пашырэньня досьведу й кругагляду мяняюцца сваімі студэнтамі, прафэсарамі, ваеннымі, спартсмэнамі… Гэтым разам нашае МУС адаслала сто беларусаў у Катар на тры месяцы, а Катарскае МУС, у сваю чаргу, выслала сто катарцаў на тры месяцы ў Менск. Трымайце, калі ласка, рабіце зь імі, што хочаце. Як звычайна, на расьсяленьне ў інтэрнаты й гатэлі гораду просяць вышэйшыя дзяржаўныя ўстановы, а калі гатэлі ўпарцяцца і словамі іх угаварыць не атрымліваецца, выпісваецца прымусовы загад.

Амар Алі Айамар толькі заступіў на пасаду і яшчэ дрэнна быў знаёмы з гэтымі беларускімі завядзёнкамі, таму па сваёй прастаце ўзяў на сябе сто катарцаў і ў кожны вольны двухпакаёвы нумар разьмясьціў па пяць дарослых мужчын. Вядома ж, ён такім дурнем аказаўся адзіны на горад, бо ўсе гатэлі пасьпелі абвясьціць сябе перапоўненымі й замоўленымі ажно да канца лета.

Так, дзея адбывалася ўлетку. Катарцам тут было прывольна: ніякага сухога закону, амаль аголеныя жанчыны шпацыруюць па вуліцах… Кожную раніцу зборы на ваенным палігоне, лекцыі ў МУС, пасьля абеду адпачынак.

Катарцы, мякка кажучы, былі ня надта ахайныя, нумары ў гатэлі за тры месяцы былі даведзены да жудаснага ста-

ну, дырэктар хадзіў і чырванеў, абяцаў сабе ніколі ня быць такім неабачлівым. Катарцы, у сваю чаргу, варылі пяльмені ў ракавінах у ванных пакоях з дапамогаю падагравальніка, праз вокны нацягвалі вяроўкі й вонкі вывешвалі сушыцца свае шкарпэткі й майткі, саколкі й штаны. Гэта было лета трэшу ў цэнтры горада, усе баяліся хадзіць праз гатэльную вуліцу, бо паўсюль увечары швэндаліся дзікія барбары. Анягож, калі ў нас ва ўзброеных сілах служаць і працуюць адны бязмозглыя нахабнікі, то ў іх таксама ёсьць свае катарскія шабаны, быдла-хлопцы з мабільнікамі й семкамі, якія пастулаюць на службу ў МУС дзеля гонару, пагонаў і ільготнай кватэры. Карацей, усё як у нас, толькі адзіная рэч – усе катарцы падобныя да няголеных татара-манголаў, ім бы яшчэ шаблі й на коней – карціна атрымаецца дасканалай.

Але што катарцы, яны прыехалі часова, іх дзяржава спраўна плоціць ім катарскія заробкі, тут яны паны, ядуць ікру, сьмярдзяць і рыгаюць, і мараць пра беларускую бабу, абавязкова бляндынку, каб прысунуць ёй троху, у рот даць, ну, карацей, як звычайна, каб потым дома, у сваім любімым бары альбо на лаўцы каля дома распавядаць сябрам пра беларускі сэкс і паказваць фоткі з аголенай “наташай” са сваіх мабільнікаў.

Катарцам ня шчасьціла, два месяцы ўсе яны хадзілі з сухастоем. Беларускія жанчыны баяліся іх як вагню… Бо малпы яны, гэтыя стэпавыя, валасатыя барбары…

Што рабіць? Што рабіць? Што рабіць?! Плачуць сто катарцаў сьлязьмі гора, ніхто іх тут ня любіць, ніхто не разумее, самотныя яны ўсе, пакутнічкі. Неяк жнівеньскім цёплым вечарам у холе гатэля зьявіліся дзьве дзяўчыны, статныя, прыгожыя, сьветлавалосыя, манерныя, але бескуль-

турныя й нахабныя. Кожная трымала па аркушы паперы й жавала жуйку. Абедзьве падышлі да рэцэпцыі й выклалі на драўляны стэнд па дзьве тысячы эўра.

– Гэта стандартная працэнтная стаўка за жанчыну ў нумар, – прамовіла адна зь дзяўчын і нахабна паглядзела ў вочы парцье, якая разгубілася, бо стандартны ўнёсак за “лэдзі ў нумар”, па-першае, плаціць мужчына альбо сума ўключаецца ў рахунак за нумар, і па-другое, гэта каштуе сорак эўра.

– Не тармазі, чуеш, тут унёсак за ўсіх катарцаў, праз суткі нас тут ужо ня будзе! – прахрыпела другая дзяўчына. – Колькі іх у вас? Пральна – сто. Мы плацім, працуем, а вы нас не чапаеце...

На рэцэпцыі ўсё пералічылі й запісалі разьлікі.

Дабраславі Алах дзьвюх беларускіх бляндынак! Яны выратавалі сто катарцаў, якія маглі ганебна вярнуцца на радзіму, не даведаўшыся, што гэта такое – беларуская жанчына!

Дзяўчыны пакінулі сьцены гатэлю толькі на трэція суткі, кожная мела па дзесяць тысяч эўра.

Дзяўчыны ледзь перасоўвалі нагамі, яны былі напампаваныя мусульманскай спэрмаю, целы моцна балелі, рукі-ногі былі ў крывападцёках, цяжка, моташна, жудасна, але радасна, цяпер яны адпачнуць, расплоцяцца з пазыкамі й за кватэру, прыдбаюць новай адзежы, абутку, касмэтыкі й на працы адначасова стануць даражэйшымі ўдвая. Шчасьце!

Дырэктар гатэлю так і не даведаўся, чаму гэта за два тыдні да ад’езду ўсе катарцы сталі прыбірацца ў нумарох, паздымалі свае майткі й шкарпэткі з вокнаў і павесялелі. Яму так ніхто й не распавядзе, што вайскоўцы на радзіме

будуць усім знаёмым паказваць штосьці на экранах сваіх мабільных тэлефонаў, а знаёмыя будуць толькі выпучваць вочы й клясьціся, што абавязкова да сьмерці аднойчы патрапяць у гэты казачны Менск.

## Урачыстае адкрыцьцё

Савецкасьць мысьленьня тут, у Менску, паўсюль, і гэта добра відаць па працы чыноўнікаў і вайскоўцаў, якія вешаюць на свае грудзі гронкі мэдалёў і даюць адзін аднаму званьні й граматы. Пра гэта сьведчаць дзяржаўныя арганізацыі, асабліва моладзевыя. Пра гэтую застойную савецкасьць сьведчаць дзяржаўныя сьвяты...

Гатэль узводзілі нядоўга. Нанятыя будаўнікі былі рознакаляровыя, у камандах прысутнічалі як самі беларусы, так і ўкраінцы, туркі, рускія, казахі, кітайцы, карэйцы, нават колькі мужчынаў з Вэнэсуэлы і адзін самотны паляк. Усе працавалі спраўна, ніхто нікуды не сьпяшаўся, звонку гатэль быў хутка завершаны, але знутры яшчэ толькі дасыхала тынкоўка, па сутнасьці заставалася два месяцы на дапрацоўку і ўсё, можна было прымаць наведнікаў, пастаяльцаў, кліентаў. Але раптам паступіў загад кіраўніцтву гатэля: нягледзячы ні на што, нават на тое, што гатэль прыватны і належыць буйной міжнароднай кампаніі, урачыста адкрыць яго на дзень горада, абавязкова разам з прэзыдэнтам краіны, і адразу ж засяліць колькі сяброў-замежнікаў самога прэзыдэнта. Кіраўніцтва гатэлю было абвыклае да спраўных дзелавых стасункаў у Эўразьвязе як з прэзыдэнтамі, так і з падначаленымі, але не разумела такога загаду: то-бок чаго гэты чалавек сунецца ў прыватны бізнэс? Але, каб не

было нейкіх недарэчнасьцяў і сварак ад самага пачатку разьвіцьця бізнэсу, было вырашана дзейнічаць па загадзе “зьверху”.

Усе будаўнікі былі прымушаныя працаваць па дзьве зьмены запар, і днём і ноччу, але галоўны брыгадзір, які меў досьвед працы на будоўлях Турцыі, Канады й Нямеччыны, хваляваўся, назвоньваў Ніндзю й яго сакратарам і скардзіўся, што да ўрачыстага адкрыцьця на дзень горада яны не пасьпяваюць, і раіў паслаць куды падалей гэтыя загады “зьверху”, няхай там увогуле будуць удзячнымі, што было вырашана адчыніць тут гатэль!

І вось, нарэшце, калі ласка, адкрыцьцё! Дзень горада! Прэзыдэнт, уладальнік і дырэктар стаяць разам, усьміхаюцца вельмі нацягнута, аточаныя натоўпам людзей са сьцяжкамі з гербам сталіцы й сінімі і белымі балёнікамі. Трое мужчын у гарнітурах разразаюць чырвоную стужку – гатэль адкрылі. Далей ідуць афіцыйныя словы, віншаваньні, пажаданьні ўдачы. Потым пампезна засяляюць трох вельмі важных паноў: фармацэўтычнага барона, мусульманскага нафтавіка й бізнэсоўца вэнэсуэльца.

Назаўтра з ранку і да наступнай раніцы – дождж ліе няспынна, верасень, а то ж.

Пасьля дажджу выяўляецца, што ўвесь нулявы паверх цалкам затоплены, заліта ўсё да столі, уся тэхніка: пральныя й прасавальныя машыны, кампутары, маніторы, барныя крэслы, дываны, канапы, ручнікі, газонакасілкі й машыны для мыцьця падлогі. Жах!

Выклікаюць аварыйную каманду, выкачваюць ваду. Тры галоўныя пастаяльцы гатэля абураюцца, яны, разбэшчаныя ёлупні, чакаюць сваіх чыстых гарнітураў, сваёй ранішняй кавы і сьвежай газэты... Яны ня хочуць нават

і чуць пра нейкія праблемы й перашкоды, гэта пяць зорак, і ім з гэтае нагоды трэба тэрмінова падзьмуць у іхныя валасатыя дупкі.

Амар Алі Айамар, зьбялелы, нэрвова ўздрыгвае кожны раз, калі яму звоніць у кабінэт Ніндзя, ён сутаргава пацірае шыю, цярэбіць словы ў роце, клянецца ўсё хутка выправіць.

Што рабіць?! Што рабіць?! Што рабіць?! Выклікалі каманду будаўнікоў, брыгадзір сумленна нагадвае: ён жа казаў, што тут працы яшчэ на два месяцы! Не, ня слухалі! А цяпер увогуле хрэн яго ведае, колькі часу трэба, каб асушыць усю гэтую багну!

Каб прасушыць нулявы й першы паверхі, было вырашана ўключыць батарэі, а потым ужо наноў тынкаваць сьцены й фарбаваць іх. Добра, што гэта быў нулявы паверх, які належаў толькі пэрсаналу гатэлю і патрабаваў адно касмэтычнай афарбоўкі…

Уключылі батарэі, ад рэзкага скоку тэмпэратур трубы на другім, першым і нулявым паверхах ня вытрымалі й лопнулі, цяпер ужо палова гатэлю паволі залівалася гарачай вадою…

Але галоўнае што? Галоўнае, што адчыніліся ўрачыста! З балёнікамі, чырвонай стужкай, паважанымі першымі пастаяльцамі! Галоўнае і тое, што да ўрачыстага адкрыцьця прыватнага гатэлю быў далучаны прэзыдэнт, а большага нам і ня трэба!

Што рабіць далей? Гэта быў шахматны цугцванг – які ход ня зробіш, усё адно будзе кепска й штосьці страціш. Такім чынам, гатэль другі раз вымушаныя былі адчыніць толькі праз тры месяцы. Трох паважаных пастаяльцаў выселілі, яны кожны напісалі абразьлівыя сказы як у кнігу скаргаў,

так і асобна прэзыдэнту краіны й прэзыдэнту міжнароднай гатэльнай кампаніі Ніндзю.

У адказ былі напісаныя афіцыйныя вымовы ад прэзыдэнта краіны на адрасы Ніндзі і Амара. Але ці дайшлі гэтыя вымовы да адрасатаў – невядома. Напэўна, гэтыя ганебныя паперкі, падпісаныя істотай, хворай на манію велічы, ператварыліся ў адзін мэтафізычны ганебны ліст, які зьнік у прасторы й цяпер існуе ў паралельным сьвеце, дзе замест гатэлю стаіць старая кнайпа, а ўладальнікам яе афіцыйна значыцца пацук.

## Чорнае паліто

У дзьверы настойліва званілі. Я скрозь сон не разумеў, што адбываецца, здавалася, што званілі акурат у маім сьне, што хтосьці турбаваў мяне падчас выдатнай мроі, дзе я быў у дзіўным падарожжы, і тут раптам навокал пачуліся невядомыя гукі, незвычайны звон, нібыта спачатку ціўкалі птушкі, потым я скеміў, што гэтак сыгналіць аўтамабіль, але бліжэй да рэальнасьці, усплываючы на паверхню матэрыяльнага існаваньня ў напаўцёмным пакоі, ледзь асьветленым ліхтаром з вуліцы, я пачаў разумець, што хтосьці звоніць ва ўваходныя дзьверы. Жонка спала, але неспакойна, варушылася – яшчэ званок, і яна прачнецца. Гляджу на фосфарныя лічбы на цыферблаце гадзіньніка – кароткая стрэлка паснула на трох гадзінах. Я апускаю ногі на прахалодны лінолеум, перабіраюся на паласнае пакрыцьцё ў калідоры й іду адчыняць дзьверы.

Зьбянтэжанасьць, злосьць, разгубленасьць. Хто гэта будзе званіць а трэцяй ночы?! Мне раніцою на працу! Аніякага адпачынку! Ніякага паратунку, нават ва ўласнай кватэры!

Адмыкаю дзьверы, думаю, што калі гэта брат ізноў ня ўзяў ключы, буду сварыцца! Перад дзьвярыма затрымліваюся, пазіраю ў вочка, бачу тоўстага лысага мужыка, апранутага ў чорнае паліто... Што за?!

– Гэй, гэй, адчыняй! – раве на дзьверы тоўсты мужык. – Адчыняй, Ванька дома?! Пазаві мне Ваньку! Чуеш? Хто там?! Ванька, гэта ты? Адчыняй, у мяне з сабою каньяк! Альлё! Блядзь!

Я настолькі раззлаваны, што адразу не знаходжу моцы штосьці сказаць, чакаю колькі сэкунд, а потым выбухаю:

– А ну пайшоў адсюль! Казёл! Няма тут ніякагаВанькі! Дай паспаць! Ніякага паратунку няма ад гэтых паганых людзей! – крычу я, адначасова зазіраю ў вочка.

Мужчына відавочна зразумеў, што не туды пазваніў. Скамечана прамовіў: “Ізьвяніце”, паклаў у нагрудную кішэню чорнага паліто бутэльку каньяку, агледзеўся вакол, потым зашпіліўся й зьнік.

Я, стоячы ў адных майтках, перабіраючы голымі нагамі ад холаду, бо так сьпяшаўся адчыніць дзьверы, што запамятаваў пра тапачкі й халат, стаю з голаю сракаю і чую, як за сваімі мэталічнымі дзьвярыма заварушыліся суседзі, шчоўкаючы замкамі, торгаючы дзьвярной ручкаю, напэўна, праклінаючы мяне й “майго” сабутэльніка, які дадумаўся пасярод ночы пазваніць у дзьверы! Трэба ж заставацца ў межах прыстойнасьці! Людзям раніцай на працу!

Я вярнуўся ў пакой, накрыўся і, перад тым як праваліцца ў кароткі трохгадзінны сон, адчуў, як жонка заварушылася, прачнулася, спытала мяне, хто званіў у дзьверы, пачула ў адказ мацюкі і, пакінуўшы мяне ў спакоі, пайшла ў прыбіральню, не запальваючы сьвятло.

# Інвэстар

Інвэстар быў мужчынам яскравым, прыгожым, маладым і ладным, жыў на дзьве краіны, два дамы: Англію й Беларусь, і для адкрыцьця сваёй першай франшызы на тэрыторыі горада дзяцінства ён абраў гатэль. Усё разьлічыў: гэта мусіць быць самым выгодным месцам і надзейным стартам, які потым забясьпечыць старты яшчэ тром сусьветна вядомым брэндам.

Франшызу адкрывалі з шыкам і помпаю: музыкі, швэдзкі стол. Усё было зроблена й прадстаўлена для той клясы людзей, якая не пытаецца сама ў сябе па раніцах: “Што? Ізноў на працу? Грошы?! Падаражэў квіток на грамадзкі транспарт?!”

Інвэстар меў уласную страхавую кампанію ў цэнтры Лёндана, яго дзеці вучыліся ў Оксфардзкім каледжы, жонка піла зраньня шампанскае й праклінала свой славянскі акцэнт… Інвэстар быў беларусам, і нават незвычайным беларусам, ён быў па-вар’яцку ўзяты ў палон адной ідэяй – на сваёй радзіме трэба адчыніць як мага больш прадстаўніцтваў брытанскіх брэндаў, а калі пашчасьціць, то і супэрбрэндаў, пачынаючы ад “Марка энд Спэнсара”, “Фэшн Бара”, ангельскіх пабаў і сканчаючы “Брыціш Пітролеўм” ды іншымі… Навошта тут гэтыя франшызы? А таму што мы – Эўропа, і нам мусіць быць няёмка да пасівеньня ад таго, што ў нас няма нармальнай культуры адзеньня, ежы, пітва.

Інвэстар змагаўся, як мог, закладваў сваю маёмасьць, браў пазыкі, ён імкнуўся разьвіваць свае франшызы, але кожны месяц па фінансавых выніках ён цярпеў паразу, кожны раз ён ці адступаў, ці проста капітуляваў. З аднаго боку, ён шмат грошай укладаў у сваіх супрацоўнікаў, кожнага адпраўляў на падвышэньне кваліфікацыі на тры месяцы ў Лёндан, кожнаму аплочваў дарогу, ежу, жытло, адукацыю… Бо перш чым працаваць у сур’ёзных кампаніях, трэба зьмяніць сваё местачковае мысьленьне, так ён пераканана казаў усім, каго браў на працу. Яго супрацоўнікі разам зь ім у Лёндане наведвалі knайпы, пілі, рукаліся, браталіся й спалі ў адной кватэры, знаходзілі ў яго прыбіральнях дзіўныя часопісы з аголенымі мужчынамі, вазелін і брудныя шкарпэткі, дыскі з порна й беларускія цукеркі, пустую лядоўню й хатні бар, напампаваны ўіскі. Яны любілі інвэстара, а ён пакутаваў праз тое, што яго душылі вялікімі падаткамі і ціснулі чыноўнікі, і бралі бессаромна грошы пажарнікі, а разам зь імі людзі з санітарных станцыяў – бандыты (хоць усе кажуць, што бандытаў у краіне няма). Інвэстар зарабіў сабе шызафрэнію, псарыяз, раньняе пасівеньне, і ў яго выпалі два пярэднія зубы. У свае трыццаць два ён нагадваў пяцідзесяцігадовага закатаванага мужчыну, ён шмат піў, паліў па тры пачкі на дзень, кожны вечар наведваў мясцовыя стрыптыз-клюбы, набываў па начох мінет ад адной і той жа прастытуткі, а рана раніцою ўжо быў на нагах, бегаў, хваляваўся, езьдзіў, лётаў і плаваў па справах, аддаваў пазыкі, браў пазыкі… Час падганяў няўмольна, а знакамітая першая франшыза працавала ў мінус, нават не дацягваючы да нуля.

У інвэстара здарыўся ўдар, і ён зьнік на нейкай гарачай высьпе. Адпачываў месяц і потым вярнуўся. Адразу па вяртаньні знайшоў мяне й прапанаваў пайсьці вы-

піць. Я спалохаўся, чаго гэта ён ад мяне хоча? Мы зь інвэстарам нават калі пілі ў Лёндане, не асабліва гутарылі й камунікавалі, а тут адразу такая прапанова – пайсьці й выпіць.

Мы сядзелі ў кнайпе “NewsCafe” за столікам на вуліцы, побач праходзілі мінакі, па суседзтве з намі сядзелі мужчыны ў гарнітурах і размаўлялі па-ангельску, насупраць кнайпы трапяталіся ў паветры два сьцягі: Эўразьвязу й Вялікабрытаніі. Я піў зь вялікага шклянога кубка чыстую гарэлку “Абсалют”, закусваў парэзанымі цытрынамі, паліў цыгарэты, ён піў ўіскі “Гранд” і курыў чакалядныя сыгарылы, зацягваўся нэрвова й глыбока… Упершыню ён сядзеў так блізка да мяне, сумны, увесь пакрыты белымі бляшкамі псарыязу, рукі трэсьліся, кепка была насунутая на самы нос, на яго моцна ціснулі фінансавыя праблемы, ён ледзь трываў, сівізны за месяц падвоілася, ён прамовіў:

– Ведаеш, што я табе скажу, усё гэта нічога ня значыць. Самае каштоўнае, што я чытаў у жыцьці, гэта невялічкія занатоўкі з разважаньняў трыццатага прэзыдэнта Амэрыкі Джона Калвіна Куліджа, чалавека безэмацыйнага й замкнёнага ў сабе. Ён пісаў, што ніштто ня можа замяніць настойлівасьць. Талент не заменіць яе: няма нічога болей звычайнага, чым няўдачнікі, якія маюць талент. Геніяльнасьць таксама не заменіць настойлівасьці: геній, які нічога не дамогся, амаль увайшоў у прымаўку. Адукацыя таксама ня будзе заменаю: сьвет перапоўнены адукаванымі самотнікамі. Усё трымаецца толькі на настойлівасьці й рашучасьці, – сказаў ён, гледзячы ў стол.

Мы чакалі дзьвюх ягоных знаёмых, пра якіх ён толькі сказаў, што яны зь вялікімі грудзямі, а гэта самае галоўнае.

– Ведаеш, – рэзка пачаў ён, – я ніколі ня буду спыняцца праз нейкія дурныя перашкоды з боку каго й чаго заўгодна, і няхай я зраблюся банкрутам, але гэты грэбаны Менск, а потым і ўся грэбаная Беларусь атрымаюць ад мяне яшчэ болей брытанскіх франшыз – атрымаюць дзясяткі брытанскіх супэрбрэндаў на сваёй зямлі, альбо я – гэта ня я!

## Шампанскае

Вядома, што ў Беларусі мусяць выконвацца пэўныя міжнародныя стандарты, і калі ў гатэлі патрабуюць шампанскае "Крыстал", яго павінны падаць, але, вядома, такое шампанскае на нашай зямлі знайсьці немагчыма, што яно тут існуе – міт. Адным вечарам Ніндзя загадаў Амару Аль Айамару, каб на наступны дзень у бары й рэстарацыі ў мэню зьявілася шампанскае "Крыстал". Амар адразу ў адмову, гэта ж па 800$ за бутэльку!

Але... Загадаў – зрабілі. На наступны вечар у гатэль завезьлі дзьве скрыні па дваццаць бутэлек шампанскага, якое каштавала аднаго жыцьця сумленнага беларуса. Але што зь ім далей рабіць, ніхто ня ведаў. Пастаяльнікі адмаўляліся яго піць, наведнікі з вуліцы – тым болей, за месяц звычайна магло прадацца толькі паўбутэлькі, і кліенты рашуча адмаўляліся плаціць за цэлую. Знаходзіліся тыя, хто прыходзіў п'яны, прыводзіў з сабою баб, выпендрываўся, замаўляў "Крыстал", а потым, выпіўшы, усчынаў сварку, маўляў, гэта было чарніла, а не шампанскае, лайно, несапраўдная марка, ён ведае гэта дакладна! Апошнія часта сыходзілі, пакідаючы афіцыянтаў тры месяцы сядзець без афіцыйнага заробку.

Праблема дайшла да Ніндзі, яму праз чатыры месяцы паскардзіўся галоўны бармэн Юра, зь якім той часта гутарыў, калі піў сваё любімае лёгкае віно, віно для дзядулі – як яго між сабой называлі супрацоўнікі.

Наш дзед паразважаў і абвясьціў такую навіну, гледзячы на трыццаць пяць бутэлек перад сабою:

– Кожны, хто працуе ў гатэлі, – брамнік, пакаёўка, маркетоляг, адміністратар, бармэн, афіцыянт, кожны, хто здолее прадаць адну і болей бутэлек шампанскага “Крыстал” каму заўгодна, атрымае пятнаццаць адсоткаў ад кошту кожнай прададзенай бутэлькі да свайго месячнага заробку!

І для кліентаў перасталі існаваць усе напоі, акрамя шампанскага “Крыстал”, пакаёўкі шукалі па паверхах патэнцыйных пакупнікоў, брамнік пытаўся пра каштоўны напой у мінакоў, афіцыянткі гатовыя былі прадаваць яго агаленымі, абліваць ім грудзі альбо заліваць у пупкі, абы толькі… Але ўсе гэтыя памкненьні, заахвочваньні й рэклямаваньні не спрацоўвалі, кліентаў так проста ня возьмеш…

Адзіны пэрсанаж, які сьцяміў, як трэба гандляваць, быў бармэн Вова, які празь месяц набудзе сабе новую Аўдзі А4.

Вова быў высокі й хударлявы малады чалавек, насіў фрызуру кшталту глямурнага іракезу з ірванымі доўгімі пасмачкамі ззаду, вельмі любіў начныя дыскатэкі й новыя знаёмствы і марыў мець шмат грошай. Вова, калі, напрыклад, бачыў, што наведнік рэстарацыі маскаль і да ўсяго яшчэ й нахабны, а гэтак большасьць маскалёў пазнаецца адразу, дык вось, калі ён бачыў, што той маскаль зь дзяўчынаю, што ён выпендрываецца, што ён упершыню ў Менску, увесь апрануты ў рознакаляровае дарагое брыдоцьце, – Вова не вагаючыся прыносіў нават без замовы “Крыстал”, з прамоваю, што гэта найлепшае пітво ў Беларусі, і калі яны сапраўды хочуць адчуць сябе тут па-панску, гэта самае тое.

У Вовы сапраўды быў талент знаходзіць патрэбныя моманты і талент адчуваць інтуітыўна, хто будзе піць і плаціць, а хто не.

Потым Вова прадаваў “Крыстал” замест вады, разьліваў яго замест апэрытываў і нават п’яным туркам аглаблёвую ён падліваў знакамітым шампанскім.

Тыдзень – і ўсе трыццаць пяць бутэлек зьніклі ў пэўным кірунку.

Праз другі тыдзень – на картку бармэну Вове, як і было абяцана, былі залічаныя адсоткі…

Вова адзін зрабіў рэвалюцыю. Ён паказаў, што ў Менску таксама могуць прадавацца такія напоі, і празь месяц у супэрмаркетах, у вітрынах пад шклом зьявілася шампанскае “Крыстал” па 1000$ за бутэльку, а па тэлевізары была запушчаная рэклямная кампанія: “Ня будзь скнарам, набудзь сваёй жанчыне штосьці вартае яе!”

## Жыгала

Віктар усё жыцьцё працаваў над сабою. Ён шалёна прасаваў сваё цела з чатырнаццаці год, як толькі ўсьвядоміў, што “біцуха” ў яго правісае, а трыцэпс не праглядаецца. Віця ганяў жалеза суткамі навылёт у трэнажорцы, якая месьцілася ў падвале ягонага дома. Трэнажорку вясной залівала, але хлопцы займаліся нават па калена ў вадзе. Віктар любіў “браць на ногі” дыскі па сорак кіляграм, пакуль на трэнажоры не сканчалася месца для “бліноў” і ўвесь гэты мэталічны пірог, усе гэтыя напластаваньні цягаў да адурэньня, потым браў бліны “на сьпіну” для станавай трэніроўкі, пераладжваў наноў трэнажорныя ўстаноўкі, рохкаючы, гмыкаючы, напружваючыся да сініх вэнаў на ілбе, цягаў, цягаў, ганяў па жылах рэшткі тлушчу, скачваў мяса ў камень, ірваў на сабе мэтал… Пакуль ужо сябра не падстрахоўваў і ледзь прытомнага не выносіў яго з-пад трэнажора ў распранальню. Невялічкі адпачынак, і потым ішла грудная клетка, потым трапецыя, шліфоўка біцэпса і, на самы канец, – скокі праз скакалку, бег на бегавой дарожцы, душ, парылка й дадому… І так раніцою, і так яшчэ вечарам, і так кожны дзень, і так кожны сэзон.

Жыцьцё Віктара неслася вельмі хутка, як па тры заходы з гантэлямі на кожную цягліцу. Жыцьцё Віктара праносілася празь яго гэтак жа хутка, як расьлі цягліцы ў яго на лытках. Жыцьцё пухла, выпячвала вэны, і калі б Віктар паспрабаваў апісаць яго, ён бы коратка сказаў: “Маё жыцьцё дзіка на-

пружанае і нагадвае суцэльнае змаганьне з кожнай клеткай тлушчу”.

Ён больш нічым не цікавіўся, жанчыны яго не асабліва вабілі, на іх не хапала моцы, але зарабляць грошы даводзілася, бо трэба было купляць пратэінавыя парашкі й спартовыя прылады, таму ён з васямнаццаці год пачаў працаваць ахоўнікам. Гэта была адзіная прафэсія, на якой ён не напружваўся: стаіш, голаў уверх, грудзі наросхрыст, пыса тупая, вочы злосныя – фэйс-кантроль.

Віктара заўважылі мясцовыя ахоўнікі ў начным клюбе і ўзялі з сабою на новае месца працы – у гатэль.

Заробку паболела, працы паменела. Віктар дзяжурыў па начох у цэнтральным фае, а там было ціха, у адрозненьне ад начнога клюба… Віктар хутка пачаў сумаваць на працы, чаго зь ім раней ніколі не адбывалася. Ён заўважыў, што ў галаве штосьці варушыцца, у вушах штосьці шуміць, але ўсе непатрэбныя гукі гнаў ад сябе, каб не перашкаджалі працаваць на працы й трэніравацца.

Адзін зімовы вечар зьмяніў яго жыцьцё. Позна ноччу адна з пастаялак гатэлю вярталася п’янаю з банкету і калі брала на рэцэпцыі ключ ад нумару, прыкмеціла Віктара:

– Малады чалавек, я бяру вас з сабою! – прамовіла жанчына й ганарліва пайшла да ліфта.

Віктару ня трэба было казаць двойчы, ён зразумеў, што ёй патрэбная нейкая дапамога, але наколькі ён быў зьдзіўлены, калі жанчына завяла яго ў нумар, распранулася сама і распранула яго, потым, пасмактаўшы яму чэлес, узялася за гэтую напружаную цягліцу й павяла да ложка, прамаўляючы камплімэнты яго прэсу й біцэпсам. У ложку яна аддалася, і, калі ўсё скончылася, Віктар атрымаў 600$.

Жыцьцё Віктара рэзка зьмянілася, фінансавае становішча палепшылася, галоўны ахоўнік Піліп Андросавіч цяпер прыгандлёўваў ня толькі прастытуткамі, але й асабістым жыгала, а Віктар, у сваю чаргу, па правілах маркетынгу, зрабіў 50% зьніжкі на свае тарыфы для супрацоўніц і па вечарох часта трахаў бухгальтарку Люсю й афіцыянтку Кацю, а таксама адну з пакаёвак, якая любіла сядзець на ім зьверху й крычаць пра блядзтва й маладосьць, а Віктар заплюшчваў вочы і маліўся, каб яна хутчэй скончыла. Віктар быў майстрам сваёй справы, ён быў сапраўдны артыст прафэсіі, ён піліўся па пяць разоў на ноч, і кожны раз па-рознаму, у розных пазыцыях і з розным імпэтам. І ніхто да гэтага часу ня ведае, што пасьля кар’еры, якая так рэзка пайшла ўгару, у Віктара паменшала жаданьня выціскаць усе сокі з трэнажорных апаратаў, і ён захацеў сьпяваць песенькі, здымацца ў кліпах. І ў яго былі ўсе шанцы на тое, каб пачаць запісваць уласныя альбомы – грошай ужо назьбіраў, пэніс яго не падводзіў, целам ён быў прыгожы, мазгі, як і трэба, адсутнічалі, і ўжо сьвяціліся на гарызонце сьвятыя дваццаць чатыры гады, калі ўзрост дазваляе ўсё і нават болей.

## Хаўскіпінг

Самая няўдзячная праца ў гатэлі – гэта праца пакаёвак. Пакаёўкі – адзіныя, хто сапраўды бачыць чалавека такім, які ён ёсьць насамрэч. Кажуць, каб зразумець узровень культуры чалавека, трэба паглядзець, як ён сьнедае альбо абедае на самоце. Менавіта калі чалавек застаецца сам-насам, ён раскрываецца як асоба. Мне прыгадваецца знаёмы, які нават пры мне ня еў, а жэр, як сьвіньня, раскідваў паўсюль ежу, пэцкаўся, рыгаў, а калі неабходна было, нават гучна й смачна выпускаў газы.

Пакаёўкі – самыя пакутныя з пэрсаналу. Часта гэтым жанчынам здраджваюць нэрвы, і яны ў лепшым выпадку звальняюцца, у горшым, баючыся застацца бяз працы, – знаходзяць супакой у алькаголі.

Ну а як тут не зап’еш, калі пасьля чарговага пастаянца неабходна:

Прыбіраць шафу, у якую ён усю ноч сцаў, альбо адціраць у нумары тэлефон ад лайна, альбо здымаць брудныя майткі са сьвяцільнікаў; адціраць хімічнымі сумесямі ваніты з канапаў; мяняць на ложку прасьціну, сапрэлую, сьмярдзючую прасьціну, а часам яшчэ са сьлядамі месячных, тут ужо ня йдзе гаворка пра тое, што пакаёўкі вымушаныя адскрабаць з-пад сталоў ня толькі прылепленыя жуйкі, але й высахлыя соплі, доўгія зялёна-белыя соплі, месцамі

зь цьвёрдымі казяўкамі; падмятаць падлогу пасьля вячэраў, прыбіраць посуд, выціраць пыл, які на дзевяноста адсоткаў складзены з адлушчанай скуры пастаяльца; пыласосіць паўсюль выпалыя валасы з галавы, з лабка, з-пад пахі; адмываць рукамыйнік пасьля дэпіляцыі, галеньня, падстрыганьня пазногцяў; адшкрабаць адусюль кроплі тлушчу, зубной пасты, крыві, мачы; зь люстэркаў выціраць плямкі ад выціснутых прышчоў з твараў і сьпінаў; мыць вокны пасьля дажджу звонку, знутры – выціраць тлустыя адбіткі пальцаў…

Праца пакаёвак – гэта цяжкі невыносны абсурд падціраньня лайна за іншай чалавечай істотай, таму нядзіўна, што пакаёўкі пачынаюць піць на працы. Пакаёўкі ня могуць, як, напрыклад, афіцыянты, бармэны, альбо бэлбоі, атрымліваць звыш заробка чаявыя ці падзарабляць якім іншым чынам. У пакаёвак стандартны аклад, самы малы з усіх у гатэлі, і гэта, па-шчырасьці, – несправядліва.

Пакаёўкі адзіныя засталіся ў сучасным сьвеце, пасьля нацыстаў і скіноў, хто ненавідзіць людзей паводле нацыянальнасьцяў, бо даўно ўжо вызначылі, што самыя бязглуздыя, нахабныя й брудныя з пастаяльцаў – гэта туркі, рускія, ліванцы, катарцы і італійцы. Пасьля іх нумары трэба адмываць гадзінамі. А самыя чысьценькія нацыянальнасьці, якія ня толькі культурныя, але й па-вар’яцку акуратныя, пэдантычныя, – гэта англічане, канадцы, немцы, палякі й літоўцы… І адзіныя, хто паводле іхнага рэйтынгу часта не трапляе ні ў адну катэгорыю і захрасае недзе паміж, гэта – украінцы й шатляндцы. Украінцам пакаёўкі не прабачаюць застольляў, а шатляндцам не прабачылі аднога чэмпіянату па футболе, калі тыя, прыехаўшы на двое сутак падтрымаць родную краіну, адурэўшы ад такіх нізкіх коштаў на алькаголь, потым два тыдні запар пілі й разбэшчвалі беларусак,

а тое, што яны пакінулі пасьля ў нумарох, цяпер сталася адным вялікім мітам, легендаю, чуткамі, сарванымі нэрвамі й рэкамі сьлёз пакаёвак.

Аднойчы адна з пакаёвак, Валя, выявіла для сябе, што калі пастаялец гатэлю высяляецца з нумара, то між яго ад’ездам і разьлікам часта застаюцца колькі гадзін, калі міні-бар у нумары яшчэ не аднавілі і ўсе гэтыя плястыкавыя і шкляныя бутэлечкі яшчэ залічаныя за пастаяльцам. Валя даўно ўжо вырашыла, што людзі, пасьля якіх яна, пакутная, прыбірае, пакідаючы дома недагледжаных дзяцей і мужа, вінныя ёй хаця б колькі грамаў якаснага алькаголю. Так Валя ўдала выпіла за чужы кошт тройчы за два тыдні, і ёй спадабалася.

Адным сонечным днём Валя выявіла ў нумары літровую пляшку ўіскі “Рэд Лэйбл”, выдатны ўіскі, годны – традыцыі, рэцэптура, смак, гонар, прывабны гарбатны колер, пах.

Увечары мужчына роў на ўвесь першы паверх, скардзячыся Хасану, начному мэнэджару, які толькі што заступіў на працу й яшчэ ня цалкам разумеў, у чым справа, спрабуючы разьляпіць вочы пасьля дзённага сну.

– Я ўсё разумею! – крычаў, зрываючыся на хрып, мужчына. – Я ўсё разумею! Але не разумею вось гэтага! – і трос амаль пустую бутэльку ўіскі. – Я перад выхадам з нумару пакінуў бутэльку “Рэд Лэйбл”! Прыходжу. А там амаль няма вадкасьці ўнутры! Гэта што за такое?! І гэта пяць зорак?!

Мужчына роў, як паранены лось, скуголіў, успамінаў увесь мацюкальны лексыкон, які калісьці чуў альбо ўжываў за жыцьцё. Мужчыну ня так прынцыпова было, што хтосьці выпіў яго ўіскі, з кожнай поры яго скуры вылівалася злосьць на людзей, а галоўнае – зьнішчальная злосьць на тое, што ён сёньня ноччу прайграў у казыно сто тысяч эўра…

Што рабіць?! Трэба тэрмінова даведацца, хто і якім чынам так пазьдзекваўся з цнатлівай пляшкі. Даведаліся – пакаёўка Валя. Знайшлі, адсачыўшы па камэрах: яна спала ў кладоўцы для прыбіральшчыц на пятым паверсе. Пабудзілі, пачалі на яе раўці: Хасан сваё балбоча, незразумелае, намяшанае англіцызмамі, русізмамі й беларусізмамі, расфарбаванымі акцэнтам – па-турэцку, Піліп Андросавіч на свой лад штосьці рыкае, Міхаліна ўскідвае роспачна вочы – гвалт, цырк, вайна, эпапея… Валя нічога не разумее…

Пакаёўка глядзела на трох начальнікаў, глядзела на іх заспанымі вачыма, варочаючыся ў бруднай бялізне, спрабуючы падняцца, нарэшце ўстала, паціснула плячыма й прамовіла:

– Блін, я не разумею, чаго вы так крычыце?! Я ж пакінула там у бутэльцы амаль палову! Што ён, сквапны такі, ці што?!

Валю хацелі адразу звольніць, але яе працу высока цаніла галоўны мэнэджар Міхаліна, якой Валя непасрэдна падпарадкоўвалася. Міхаліна забараніла Амару Аль Айамару яе звальняць, сказала, што тая мае ня толькі траіх дзяцей, але й у дадатак вышэйшую філялягічную адукацыю, і трэба даць ёй другі шанец. Але Хасан вырашыў усё паіншаму, і на ягоны загад камэрамэны, альбо ахоўнікі, якія працуюць у кабінэце прагляду камэр, на працягу месяца сачылі за Валяй.

Выявілася, што кожны дзень пакаёўка да абеду, млява перасоўваючы свой вялікі стол-валізу з мыючымі сродкамі, ручнікамі й анучамі, амаль не працуе. Яна, як прывід, то праходзіць праз камэру й зьнікае, то стане на адным месцы й стаіць, ці то жывая, ці то не… Потым а першай Валя сыходзіць на абед, але не ў сталоўку для супрацоўнікаў.

Жанчына, пакідаючы гатэль, цягнецца кудысьці і ўжо праз паўгадзіны вяртаецца й жвава працуе да вечара, сьмяецца, хутка носіцца сюды-туды па сваім паверсе, адмывае нумары, гутарыць з пастаяльцамі, усьміхаецца начальству – супрацоўнік месяца!

Хасан вырашыў прасачыць за ёй у абед, куды яна ходзіць і адкуль у яе бяруцца сілы на працу… Ён, ня спаўшы пасьля ночы, застаўся ў гатэлі да абеду, і вось якую карціну ён пабачыў.

Абед. Валя выходзіць зь мясцовай крамкі “Вінагарэлка”, у руках – нуль сем таннага віна, зварочвае ў суседні двор, адкаркоўвае бутэльку, выкідае вечка адразу ў сьметніцу, боўтае ў бутэльцы вадкасьць, каб тая закруцілася паводле гадзіньнікавай стрэлкі, падымае ўгару і, як сказаў бы Венечка Ярафееў, як піяністка, артыстычна ўскідвае галаву й залівае ў глотку адразу да паловы бутэлькі віна. Прарабляе ўсё гэта Валя хутка, роўна восем вялікіх глыткоў… Напаўпустая бутэлька яшчэ раз ускідваецца ўгару і, асушаная, ляціць усьлед за вечкам.

Валя сядае на лаўку й запальвае… Так яна сядзіць дваццаць хвілін… Чакае, калі пахмельле здымецца й знойдзецца моц на працу да вечара, а там не за гарой чарговы фаўст таннага віна. У гэты ж дзень Валю звольнілі, пазбавіўшы адразу прэміі й адсоткаў за перапрацоўку, налічыўшы на картку толькі заробак за тыдзень.

## Сутэнерства

У гатэль прыехаў немец, звычайны немец, звычайны мужчына, якіх за дзень праз рэцэпцыю праходзяць дзясяткі. Да немца ніякіх прэтэнзій нават пакаёўкі ня маюць. Жыве ўжо тыдзень, зранку сыходзіць, увечары позна прыходзіць. Жыве, быццам яго няма.

На другі тыдзень немец, вяртаючыся а дзясятай вечара, падышоў да ахоўніка Сашы й замовіў прастытутку: каб праз гадзінку да яго паднялася дзяўчынка з другім памерам, бляндынка, з доўгімі валасамі, росту не ніжэй як сто восемдзесят сантымэтраў, без залішняга, без касмэтыкі, накладных пазногцяў і штучных веек, карацей, натураль!

Саша зьвязаўся з Піліпам Андросавічам і ўжо праз гадзіну прывёў да немца яго замову – усё, як мае быць, анягож, гаўна не трымаем.

Яшчэ праз гадзіну прастытутка вызвалілася й паклікала Сашы, каб ён зайшоў у нумар.

Ахоўнік атрымаў грошы авансам перад абслугоўваньнем і цяпер па вяртаньні яму аддалі рэшту, як было дамоўлена. Прастытутка атрымала грошы па сваім тарыфе. Кропка.

Беларускія міліцыянэры разам з кэдэбэшнікамі правялі спэцапэрацыю па зьнішчэньні сутэнэрства ў гатэлях горада. Ад гэтай спэцапэрацыі выйгравалі толькі гатэлі,

бо ізноў уся аплата за “лэдзі ў нумар” ішла праз рэцэпцыю, а не ў кішэню аховы. Кропка.

Піліп Андросавіч патрапіў пад скарачэньне. Саша атрымаў шэсьць год. У сваю чаргу Віктар, на якога для прафіляктыкі націснулі, здаў сам сябе і атрымаў два гады хіміі. Такім чынам, без наступстваў з усяго гэтага вэрхалу выйшла толькі замоўленая бляндынка а-ля натурэль. У гатэлі адразу зьявіліся два цёплыя сьвежыя працоўныя месцы са страхоўкаю, кантрактам на год і аплочвальнымі вакацыямі. Патрабаваліся: ахоўнік з досьведам працы ня менш як тры гады і галоўны ахоўнік з досьведам працы й службы, пажадана, каб былы вайсковец.

Лэдзі ў нумар не жадаеце? Жанчына?! У нумар?! Жадаю! Добра! Значыцца так, 40€ праз рэцэпцыю, 20€ праз ахоўніка, а далей кошты па дамове непасрэдна з лэдзі, гэта будзе ад 100€ з прэзэрватывам за гадзіну, ад 200€ без, 50€ мінет, але кошты прыблізныя, вы ж зразумейце. Добрага Вам вечара! Усяго найлепшага! Прыемнага Вам побыту ў нашым гатэлі! Удачы! Дабранач! Посьпехаў! Шчасьця! Вы наш самы лепшы кліент! Добрага Вам сэксу!

## Бармэн

Юра, старэйшы бармэн, адказны за касу, алькаголь і тытунь, мае прафэсійны стаж дваццаць год, майстра рабіць аўтарскія кактэйлі з несумяшчальных на першы погляд вадкасьцяў, жанглюе пляшкамі, як цыркавы акрабат, – кліентам вусьцішна й адначасова цікава назіраць за ім. У свой час Юра працаваў у Інданэзіі. Ён тры гады без выходных, як раб, падрываў сваё здароўе. І як дасягненьне мэты – дзьве трохпакаёўкі ў Зялёным Лузе, новы Форд і невялічкі стос грошай, схаваны ў шафе ў кардоннай скрынцы. Ці варта было паганіць свой арганізм дзеля гэтага? Упэўнены, што ён і дзевяноста адсоткаў людзей скажуць: “Так!”, бо гэта ж магчымасьць столькі зарабіць.

Якія яшчэ мэты па жыцьці могуць зьяўляцца ў чалавека, калі галоўны паказчык заможнасьці цяпер – кватэра й машына, і гэта толькі сарамлівая заможнасьць, тая, пра якую ня кажуць з зайздрасьцю.

Юра зьдзейсьніў усе свае мэты, спыніў падарожжы і, цалкам асеўшы ў Менску, уладкаваўся на працу ў гатэль.

Што цяпер яшчэ трэба? Вядома, жанчына. Такая рэч, як уменьне заводзіць знаёмствы з супрацьлеглым полам, у Юры з маладосьці ня надта атрымоўвалася. Сам па сабе ён не сказаць каб прыгожы, але жанчын прыцягвае ня зьнешнасьцю. Невысокі, тлусты, пачаў лысець яшчэ ў дваццаць год, а тыя валасы, што засталіся ў ягоныя сорак, тырчаць напаўсівыя.

У яго тоўстыя пальцы, моцна валасатыя рукі, бровы, як перавернутыя вусы, з-пад якіх паглядаюць колкія вочкі, падобныя да дзьвюх сасьпелых агрэсцінак, якія нібыта выпадкова былі кімсьці кінутыя на пульхныя шчокі. Натуральна, Юра выглядае як нейкая недарэчнасьць. Але калі справа даходзіць да таго, што ў яго ніжэй жывата, то там сапраўды ёсьць чым зацікавіцца. Бацькі падарылі Юру сапраўднае шчасьце – дваццаць два сантымэтры зь вялікімі яйцамі і ногі, як у равaрыста. Юра ў ложку быў, як машына: упрэцца моцнымі нагамі й давай на ўсю даўжыню заганяць сваю прыладу.

Пра Юру немагчыма сказаць, што ён адметны. Заўсёды маўчыць, разьлівае кактэйлі, паліць, п’е лікёр, пакуль ніхто ня бачыць, альбо на вачах у наведнікаў з кубку, быццам каву. Пастаяльцы лічаць яго вельмі добрым слухачом і лёгкім на руку, і гэта сапраўды так.

Юру, нягледзячы на тое, што ён старэйшы бармэн, у гатэлі ніхто ні ўва што ня ставіць, і кожны лічыць яго сваім халуём. Звычайна афіцыянты прыносяць яму сваю гарэлку і потым цягам дня альбо ночы нібыта купляюць у яго колу, а самі п’юць да канца зьмены саракаградусную вадкасьць, афарбаваную ў карычневы колер. Юрам карыстаюца маладыя афіцыянткі й рэцэпцыяністкі, якія ў абедзенны час просяць у яго капучына з кексам і, ласкава прымружыўшы вочкі, муркаюць, каб ён правёў іх замову праз адкрыты нумар 607... Юрам карыстаюцца бухгальтары – ён кожны новы месяц замест іх праводзіць справаздачу па касе, па напоях і па продажах фізычным асобам і аплатах на нумар... Калі прасачыць сталеньне Юры і зазірнуць у падлеткавы ўзрост, дзіцячыя гады, там ня знойдзецца ніякіх тыповых фрэйдаўскіх адказаў, ніякіх цытацый, ніякіх спасылак і тлумачэньняў ягонага тыпу характару. Юра вырас у звычайнай рахманай сям’і, стандартнай і гарманічнай, ніякіх

выбухаў гневу, ніякіх сварак, толькі пяшчота й памкненьні бацькоў да таго, каб у сына было найлепшае жыцьцё. Юра ёсьць проста Юра.

І ўсё скончылася б для яго так жа тыпова, Юра б не зварухнуўся са свайго месца, ён бы да труны працягваў мяшаць кактэйлі і ніхто б не даведаўся пра нумар 607, пра гарэлку замест колы й пра такія буйныя крадзяжы з боку астатніх бармэнаў, калі б не трагедыя.

Так, ва ўсіх напачатку паўставала пытаньне, навошта Юра набыў сабе адразу дзьве трохпакаёўкі ў адным доме, на адным паверсе – суседнія кватэры. Ён вельмі любіў бацькоў, але па-свойму, маўкліва, і не наведваў іх гадамі. Але калі кватэры зьявіліся, ён бацькоў адразу перавёз з Канючыцаў у Менск, пасяліў іх, зрабіў рамонт і пакінуў у спакоі. Нават калі бацькі жылі па суседзтве, у Юры не было часу й магчымасьці бачыцца зь імі, і ён ізноў на колькі год пакінуў бацьку й маці, нібыта тыя па-ранейшаму жылі ў Канючыцах.

Бацькі памерлі, спачатку маці, праз тры дні бацька. Юра іх пахаваў і ўсё, гамон, ён узяў сабе два тыдні адпачынку за свой кошт. Нікуды не выходзіў, знайшоў у сваёй кватэры сьценку, якая злучае дзьве ягоныя кватэры, і разьдзяўбаў яе ўшчэнт, зьнёс амаль цалкам, нават не пацікавіўшыся, ці зьяўляецца гэтая сьценка апорнаю ў агульнай канструкцыі забудовы. Юра проста спакойна й ціха, ні з кім ня раючыся, зрабіў тое, што яму было патрэбна. Вырашыў для сябе, што настаў час павялічваць маёмасьць. Замовіў агульны капітальны рамонт сваёй ужо шасьціпакаёўкі й выйшаў на працу, пакінуўшы кватэру ў надзейных руках будаўнікоў-баптыстаў, якія ў Менску карыстаюцца папулярнасьцю,

бо ня п’юць, не мацюкаюцца, моляцца, ладна і па гадзінах працуюць і, калі замоўшчык не задаволены, не патрабуць аплаты.

Здавалася, што ягоная ўласная трагедыя мусіла яго разварушыць. Яна і разварушыла. Юра ніяк не зьмяніўся для супрацоўнікаў, для наведнікаў таксама, але магічным чынам да яго пацягнуліся жанчыны, то-бок яны пачалі больш часу праводзіць за ягоным барам, седзячы з кактэйлямі й палячы тонкія цыгарэткі. Звонку ўсё было па-ранейшаму: Юра гатуе кактэйлі, сумны… Але калі наблізіцца да бара, можна пачуць нейкі незвычайны гук, нібыта хтосьці, прыкрыўшы вусны рукою, мармыча – Юра пачаў размаўляць, ён больш ня быў “удзячным слухачом”.

З адной такой жанчынай, якая проста села каб папіць кавы, жанчынай прыгожай, зь вялікім бюстам, які ажно выскокваў з адзежы, ён і пазнаёміўся. Яе, як высьветлілася, завуць Ганнай, раней яна працавала ў гатэльным бізнэсе, але цяпер вырашыла вучыцца ва ўнівэрсытэце на эканаміста.

Ён ажаніўся зь ёй празь месяц, праз два яна зацяжарыла… Юру пачалі ненавідзець усе бармэны й ахоўнікі, бо яму шчасьціла… Гэтаму брыдкаму, сьмярдзючаму, тоўстаму, лысаму ёлупню шчасьціла з жонкаю, з кватэраю і нават зь дзецьмі, а Юра ні на каго не зьвяртаў увагі, спраўна жыў у сваёй ладна адрамантаванай шасьціпакаёўцы і толькі зручней уладкоўваўся нагамі, каб тыя ня сьлізгалі па прасьціне, і паскараў рухі, трымаючы адной рукою жончыны грудзі, а другою заціскаючы ёй вусны, каб тая ня так гучна крычала, і маўкліва паскараў рухі…

Юра чакаў зручнага часу, калі да яго за бар увечары прысядзе адпачыць Міхаліна, галоўны мэнэджар, ён прыга-

туе ёй свой фірмовы кактэйль, і яны разам, выпіваючы, прабавяць колькі часу, і тады Юра раптам успомніць пра гарэлку афіцыянтаў, пра нумар 607, пра касу й астатніх бармэнаў, бо сям’я пашыраецца, трэба атрымліваць павышэньне па працы, трэба караскацца па кар’ернай лесьвіцы… Але не напружана, ціха, маўкліва, упарта, павольна мяняць вакол сябе супрацоўнікаў.

## Нумар 607

Нумар 607 належаў да тых нумароў, якія простым сьмяротным замежнікам недасяжныя. Самы дарагі й каштоўны. Гатэль месяцамі можа здаваць усе свае нумары па паверхах, але гэта не прыносіць такога прыбытку, як суткі ў нумары 607. Як толькі гатэль адчыніў свае дзьверы, у гэты ж дзень знакаміты нумар быў куплены на тры гады наперад.

Сакратар аднаго вельмі вядомага й буйнога расейскага нафтавіка пазваніла на рэцэпцыю, прамовіла, што спадар Такі-та хоча самы лепшы нумар і што для яго вельмі істотная рэч – інкогніта. На рэцэпцыі прамовілі, што ёсьць нумар 607 са сваім прыватным ліфтам, прыватнай рэстарацыяй і асобным паркінгам, і ніхто, акрамя дырэктара гатэлю, ня будзе дакладна ведаць, хто жыве ў гэтым нумары. Сакратар назвала банкаўскі рахунак, праз які будуць праходзіць апэрацыі па аплаце пражываньня і ўсяго, што купляецца й замаўляецца ў нумар 607.

На працягу года нумар не наведвалі, штодня пакаёўкі праціралі пыл, штодня з рахунка здымаліся грошы. Ніхто ня ведаў, хто жыве ў нумары й ці ўвогуле ёсьць якісь уладальнік гэтых пакояў.

Нумар 607 быў куплены не для нафтавіка, а для яго сям'і і для таго, каб блытаць журналістаў і ворагаў. Нафтавік звычайна жыў у прыватным доме на вуліцы Багдановіча, а сям'я рэдка, але жыла ў гатэлі.

І тут у аднаго з бармэнаў, у Кастуся зьявілася жаданьне паесьці марозіва за кошт нумару… Ён зрабіў сабе марозіва, пад’еў і прабіў кошт на нумар 607, і ніхто не заўважыў. На другі раз на сваёй зьмене афіцыянтцы, якая яму падабалася, ён прыгатаваў безалькагольны кактэйль, і зноў сьвет не абрынуўся, начальства не панікавала, што хтосьці правёў аплату па адкрытым нумары, у якім нікога няма. Трэці раз Кастусь набіў на нумар ажно тры порцыі фірмовага Кантынэнтальнага сьняданку, з падвойным апэльсінавым сокам і двайным бэконам, для сябе, для афіцыянткі й для ахоўніка Сашы. Зьелі ўсё ў пакоі для адпачынку афіцыянтаў.

Праз тыдзень увесь гатэль ужо жыў за кошт нумару 607.

Нафтавік так ніколі й не заўважыў, што на працягу двух год ён плаціў за абеды й алькаголь штодзённа амаль кожнаму з сарака супрацоўнікаў гатэлю з рэстараннай сфэры, пакуль аднойчы пасьля працы стомленая Міхаліна ня села за бар да Юры, які сьціпла націраў шкло келіхаў для каньяку.

– Як звычайна, Юрасік, даўно цябе ня бачыла, усё ўноч ды ўноч? Віншую з папаўненьнем у сям’і. Што новага, даражэнькі? – Міхаліна ўсьміхнулася й запаліла цыгарэту.

– Новага шмат чаго і старога таксама, таго, пра што я вам не распавядаў, – прамовіў Юра й па-змоўніцку ўсьміхнуўся.

## Шэйх

Летняй раніцою ў гатэль засяліўся шэйх з жонкай, малодшым сынам, намесьнікам, пэрсанальным кіроўцам, трыма ахоўнікамі, бухгальтарам і фінансавым распараджальнікам.

Прыехаў шэйх для таго, каб пабачыцца зь цешчаю.

Жонка паехала з пэрсанальным кіроўцам па крамах і трапіла ў аварыю. Кіроўца на месцы памёр, жонка ў коме ў бальніцы. Шэйх затрымліваецца тут на нейкі тэрмін. Намесьнік адпраўлены разам з бухгальтарам назад у Дубаі весьці бізнэс.

Шэйх з таго сорту мужчынаў, якія грошы на вецер проста так не пускаюць. Пражыўшы трое сутак у гатэлі, ён вырашыў, што эканомней будзе зьняць кватэру і адаслаў свайго фінансавага распараджальніка з пэўным загадам да вечара перавезьці яго куды-небудзь у больш утульнае жытло.

Перад ад'ездам запрасіў мяне у госьці, мы з ім адразу добра пасябравалі. Ён сказаў, што ў яго сын майго ўзросту, але яны ня бачыліся ўжо дванаццаць год, бо той спачатку вучыўся ў амэрыканскім каледжы закрытага тыпу, а цяпер заканчвае Калумбійскі ўнівэрсытэт, а ў шэйхавай сям'і традыцыя – ня бачыць старэйшага сына, пакуль ён ня стане мужчынам і ня будзе здольны пераняць бацькаў бізнэс.

І шэйх чакаў яго прыезду праз два тыдні ў Дубаі, але цяпер, з такой раптоўнай трагедыяй, ня ведае, што будзе далей, напэўна, сын Абдул прыедзе да яго сюды ў Менск. У любым выпадку, дзе б гэта ні адбылося, яны хутка сустрэнуцца, і сын стане новым дырэктарам усіх ягоных нафтавых сьвідравін, а ён застанецца прэзыдэнтам кампаніі з рэшткамі паўнамоцтваў.

Шэйх пераехаў на вуліцу Кузьмы Чорнага, у кватэру, якая займала два паверхі – дах і пяты паверх. Колькі ўсяго пакояў мае кватэра, было невядома, але ахова заўсёды дзесьці жыла й была цалкам нябачнаю. Распарадак шэйхавага дня ад самага пачатку мяне зацікавіў, але калі прайшло колькі часу і ён зьехаў, я зразумеў, што гэтаму ўжо даволі старому мужчыну вельмі самотна на гэтым сьвеце, дзе ўсё па раскладзе і больш нічога не адбываецца.

Раніца шэйха пачынаецца а дванаццатай, яго сьціпленька будзіць пакаёўка, потым мыцьцё твару й чыстка зубоў, потым ён вяртаецца ў ложак, дзе пэрсанальны масажыст праходзіцца сваімі дужымі рукамі па ўсім целе, далей касмэтоляг робіць маску на твар, пасьля разгладжвальны масаж, потым карэктура броваў, далей ён прымае спэцыяльную ванну з алеяў, потым доктар робіць яму два ўколы – вітамінны й другі, нікому невядомы, потым цырульнік падстрыгае валасы й бараду, потым яму прывозяць на кароткую размову жончынага доктара, і пасьля ён нарэшце сьнедае, а потым у яго дзьве гадзіны на адпачынак – чытаньне газэт, прагляд фінансавай біржы, дзелавыя тэлефанаваньні, прагляд навінаў па тэлевізары; потым ён абедае, потым гадзіну паліць цыгару альбо кальян, потым трэнер па фітнэсе сочыць за тым, як ён ходзіць трыццаць хвілін па бегавой дарожцы, потым лекар робіць яму яшчэ адзін укол, правярае ціск і пульс, пасьля ён здымае свой

спальны белы халат, падобны да балахона, апранаецца ў сьвежую вопратку й выпраўляецца на вуліцу, дзе ўжо вечар; па дарозе ён заходзіць у салярый, потым робіць манікюр і цяпер, гатовы да вячэры, чакае, калі яму абвесьцяць рэстарацыю, дзе замоўленыя месцы, а пакуль гутарыць па тэлефоне са сваім бухгальтарам; потым яму тэлефануе сын, потым ён, даведаўшыся месца вячэры, удакладняе, колькі ў яго часу да застольля, і едзе ў лякарню з кветкамі; пасьля наведваньня жонкі ён едзе ў рэстарацыю, а потым яго чакае глямурны клюб; дадому шэйх вяртаецца а чацьвёртай раніцы.

Аднойчы шэйх трапіў у “Салодкі Фальварак”, і так яму там спадабалася, што ён паклікаў дырэктара, гутарыў зь ім, прапаноўваў у Саудаўскай Арабіі зрабіць сэтку па выпуску такіх лёгкіх штукарскіх тортаў, усё гэта будзе карыстацца папулярнасьцю, бо тамтэйшыя салодкія вырабы занадта прэсныя, цьвёрдыя, не такія паветраныя. Дамовіліся першапачаткова пра дзесяць адсоткаў ад агаворанай сумы на банкаўскі рахунак “Салодкага Фальварка”. Грошы пералічылі – і ўсё, на гэтым справы скончыліся. Шэйх крычаў, седзячы ў сваім пакоі: “Казлы! Дэбілы! Ня ведаюць, як весьці бізнэс! Ненавіджу!”

Дні ішлі, расклад дня шэйха не зьмяняўся. Засумаваў ён і захацеў чатыры партрэты ва ўвесь рост алеем на палатне. Я знайшоў для яго мастачку, яна атрымала чатыры фотакарткі з рознымі выявамі шэйха і папярэдне трыццаць адсоткаў ад сумы, якую запрасіла, а гэта 1500€.

Праз тыдзень мастачка прынесла першую карціну. Шэйх роў, як зьвер. Карціна была брыдкаю, жах… Мастачка хуценька прасьлізнула праз ахову й зьнікла. Я панёс адказнасьць.

Напачатку шэйх прапаноўваў мне разам зь ім паехаць у Дубаі, там шмат рознай працы ёсьць, сказаў, што я мужчына, там не разгублюся (сказаў так, быццам мы зь ім ужо ў нейкім сямейным кляне), але пасьля падзеяў з мастачкай згадаў, што яе для яго знайшоў менавіта я і я адказны за тое, што адбылося. Так бы мовіць, гэта бізнэс, дарагі, нічога асабістага.

Мяне больш не запрашалі да яго, але мне ўсё роўна хапіла тых васьмі тыдняў вар’яцтва ў ягоным атачэньні, дзе я назіраў за яго жыцьцём. За тым, як вядуць бізнэс беларусы, як спадар сьмяяўся зь іх, як мы наведвалі бяз чэргаў дарагія клюбы і рэстарацыі, як глядзелі стрыптыз, як голыя дзеўкі ціснулі на нас і вешаліся нам на шыі. Наша кампанія: шэйх, ахова, фінансавы адказны і я, ахвяра, закладнік, цацка, бо сумна тут у Менску, а я сына яму нагадваю.

Я, клясычна, як хворы на стакгольмскі сындром, палюбіў свайго ката, свайго нэрвовага фашыста, зь ягоным брудным настроем, які рэзка зьмяняўся за хвіліну, палюбіў яго з усім ягоным мусульманскім лайном і зьнявагаю жанчын.

Жонка шэйха ачуняла, старэйшы сын прыехаў і атрымаў пасаду дырэктара.

Шэйх больш сюды не вяртаўся, цешча яму моцна ў гэтым дапамагла, сканаўшы праз паўгады, так што не было да каго цяпер сюды езьдзіць.

Мне да гэтага часу няёмка за мастачку, 1500€ і замоўленыя партрэты, якія так і не былі намаляваныя.

## Маркетынг

Аддзел маркетынгу ў гатэлі ня менш цікавы, чым аддзел кадраў і аддзел праграмістаў. Праз адну асобу. На галоўнай пасадзе тут – жонка Амара Алі Айамара, дырэктара гатэлю. Жанчына жудасная, гістэрычная, шалёная, плястыкавая штучная пізда з накладнымі пазногцямі, валасамі, вейкамі, з сыліконавымі цыцкамі, вуснамі й сракаю, нацягнутым на патыліцу падбародзьдзем і вачыма, расьцягнутымі амаль да вушэй. Сыбіла – капрызная былая фотамадэль, турчанка. Горш не прыдумаеш, яна тут мае права на ўсё. Яна распараджаецца гатэлем, выганяе людзей з працы толькі таму, што, калі праходзіць міма, ёй не пасьміхаюцца, альбо не заўважаюць, альбо ў яе месячныя пачаліся і проста такі настрой. Сыбіла раве на каго хоча, а маркетолягаў трымае на кароткім павадку ў нэрвовым трымценьні.

Аддзел маркетынгу не вылучаецца наватарствам, капірайтарскімі здольнасьцямі, розумам альбо крэатыўнасьцю. Маркэтолягі тут – маленечкія гномікі вакол Гаспадыні, якая, паказаўшы пальцам з залатымі пярсьцёнкамі, з прылепленым штучным пазногцем на таго, хто яе раздражняў, умомант магла раздушыць яго й зьесьці, і ўсё, няма чалавека, толькі абасраная ад страху падлога. Ад чалавека на ўспамін застаецца толькі лайно, і Сыбіла імкнецца да таго, каб гаўна засталося як мага болей. Так, ніхто не жадаў працаваць мар-

кетолягам у гатэлі, акрамя Паліны, якая была закаханая ў сваю начальніцу, ак апошняя лесьбіянка. Паліна глядзела Сыбіле ў вочы і, калі тая крычала, пускаючы сьліну, хапала сваімі вуснамі ўсе тыя сьлінавыя кропелькі, што распыляліся. Гэта было неверагодна дзіўна, Паліна нават апраналася так, як яе гаспадыня. Фарбавала валасы ў той жа колер і ў свае дваццаць тры ўжо зрабіла першыя ўколы ботэксу на ілбе і крыху падпампавала вусны – усё, як ёй намовіла Гаспадыня.

Аб’ектыўна маркетолягі нічога не рабілі, яны не працавалі, як мае быць, увесь іх напампаваны гномікамі кабінэт толькі атрымліваў заробкі й псаваў паветра… Сыбіла крычала й звальняла, але не давала пэўных распараджэньняў наконт рэклямы, разьвіцьця маркетынгу. Таму хтосьці зь яе пэрсаналу пампаваў за дзень фільмы, сэрыялы й порна зь сеціва, а хтосьці перапісваўся ў скайпе… За месяц аддзел маркетолягаў выдаткоўваў дзесяць мільёнаў беларускіх паперак на рэкляму ў неверагодна брудным, жудасным і графаманскім часопісе, які трымала сяброўка Сыбілы Сабакакал. Маркетолягі больш ня ведалі, чым займацца, яны сядзелі ў кабінэце й нават няздольныя былі выпаўзьці вонкі – забаронена!

А потым Ніндзя разгарнуў гвалтоўныя дзеяньні па звальненьні начальства ў гатэлі: Амар, Сыбіла, Хасан… Бо ня трэба было так нахабна красьці грошы й распрацоўваць сыстэму прыватных сэкс-тураў з Турцыі па беларускіх дзяўчынах бязь ведама дзядулі. Закрануты быў бізнэс гаспадара гатэлю, і ў адзін момант у гатэлі ўсё зьмянілася.

І адным файным днём маркетолягам было дазволена выйсьці вонкі і нават працаваць па прафэсіі, а не забіваць дзень за пампаваньнем фільмаў і за перапіскаю ў сацыяльных сетках. І тады Паліна зразумела, што каханьне яе было аднабаковым, бо калі Сыбілу пагналі з гатэлю, тая не

прыйшла зь ёй нават разьвітацца. Але ўсё, што ні робіцца, надае нам моцы: на цьвярозую ад пачуцьцяў галаву Паліна выявіла, што вусны ў яе ў тры разы большыя за яе родныя і лоб нейкі пукаты.

А маркетолягі, якія люта ненавідзелі Паліну, цяпер ужо мелі магчымасьць не хавацца, калі плявалі ёй у кампот у сталоўцы, а пачалі рабіць гэта адкрыта і ў твар, бо нават сярод гномаў здрада сваім – гэта здрада.

## Людзі на арэне цырку

Гатэль дае столькі незвычайных пэрсанажаў, пастаяльцаў, пра якіх можна ўспамінаць гадамі. Менавіта па пастаяльцах можна меркаваць пра ўзровень гатэлю, але тут пачынаецца ўжо другасны ўзровень, афіцыйны.

Абмінуць некаторых пастаяльцаў, здаецца, проста грэх, тым болей калі ёсьць, пра каго распавесьці.

Першай цікавай зьявай, жывой легендаю, ёсьць ангельскі футбаліст, зорка зорак… Калі ўсе даведаліся, што Беларусь гуляе з Англіяй і гульня будзе ў Менску, дык узрадаваліся, што будзе на каго паглядзець, хоць усе былі ўпэўненыя ў паразе нашай краіны англікам. Гэта як аксыёма. Галоўнае, каб не прайграць разгромна, каб было не 0:5, а хаця б параза ў 0:1 альбо 0:2. Менскія дзяўчаты, як даведаліся, што іх любімы футбаліст спыніўся ў пяцізоркавым гатэлі, прыдумалі мудрагелісты плян: пашылі сабе аднолькавую вопратку пакаёвак гатэлю. Потым іх паўвечара ахова разам зь Міхалінаю ганяла па паверхах, і, як вынік, назьбіралася “левых” пакаёвак ажно шэсьцьдзясят штук. Але знакаміты футбаліст нішто сабе, нават калі да яго ў нумар уварваліся тры шалёныя псэўдапакаёўкі, перапрасіў, пасьмяяўся, пакінуў аўтографы на іхных гарачых целах, сфатаграфаваўся зь імі. Увогуле гэтага чалавека пабойваліся, думалі, што ў яго будзе шмат прэтэнзіяў, але ён, наадварот, апынуўся

вельмі прыемным, маўклівым і рахманым мужчынам. І калі не было дзе патрэніравацца зь мячыкам, ён сьціпла выйшаў на вулічны гатэльны паркінг і на вачах у шматлікага пэрсаналу зладзіў гадзінны пэрформанс – пастукаў нагою мячык аб сьценку.

Другім зоркавым мужчынам, які спыняўся ў гатэлі, быў амэрыканскі актор і музыка. Я стаю сабе, палю, тут каля мяне праходзіць нейкі худы хлопча з мой рост, і раптам паўсюль выбухі, крыкі, лямант, паветра раскалолася на часткі… Фанаткі зламалі пад’язную браму, галасілі, плакалі, цягнулі да яго рукі, а яму толькі гэтага і трэба, стаіць перад імі, усьміхаецца, ножкамі мудрагелістыя па робіць, карацей, было відавочна, што ён без фанатаў, як і яны безь яго, анікуды ў гэтым сьвеце. Потым зорка паехала даваць вялікі канцэрт, сьпявала свае гіты і цягала на плячах брудны, чырвона-зялёнага колеру сьцяг. Я адразу страціў да яго павагу, але што ён мог зрабіць, напэўна, перад ім стаялі вялікія грошы, калі ён нават з такім сьцягам бегаў. Яго фанаткі пасьля канцэрту ночылі ў прахалодным лістападзе перад гатэльнай брамаю да раніцы, сьвечкі палілі, кветкі кідалі, спадзяваліся, што ён яшчэ раз паўзь іх пойдзе, але ён раніцою адразу зьехаў. За ім наўздагон хвастом паехала толькі адна адданая вар’ятка, якая па ўсім сьвеце за ім ганяецца, грошы з продажу ўласнай кватэры марнуе, падарожнічае, жыве амаль побач, але ён пакуль гэтага ня ведае, як і таго, што яна ў яго прадусара выкупіла вячэру ў рэстарацыі сам-насам зь ім праз тры тыдні ў Нью-Ёрку. Рамантыка.

Трэцім адметным мужчынам быў сусьветна вядомы італійскі дызайнэр абутку, што прыехаў адкрываць свой першы менскі буцік. Мадэльер трымаўся паважна. Пяць-

дзясят год, кучаравы, напаўсівы, худы й прыгожы, ён усім падабаўся – бармэнам, афіцыянткам, адміністратаркам, пакаёўкам… Але дызайнэру прыйшліся да сэрца дзяўчыны са спа-цэнтру. Кожную ён пасьпеў звадзіць у рэстарацыю, кожнай нагаварыць камплімэнтаў… Але дзяўчыны са спа былі тымі яшчэ… Не распавядалі адна адной, што сустракаюцца зь вядомым італійцам, кожная марыла, што праз колькі тыдняў павязе сваю дупку падарожнічаць па Італіі. Але гэты прыгожы мужчына аказаўся так сабе Рамэа. Зьехаў празь месяц і нікога са спа-цэнтру не ўзяў з сабою… Але калі праз тры дні ўсе дзяўчыны прыйшлі на месячны сход пэрсаналу, дзе дазвалялася быць апранутым не па форме, кожная зь іх мела на сабе ружовыя кеды-чаравікі зь лягатыпам фірмы, на якім было прозьвішча італійца, складзенае з крышталікаў Свароўскі. Дзяўчыны паглядзелі адна на адну, і напэўна хтосьці зь іх здолеў зрабіць пэўныя высновы…

Чацьвёртай знакавай фігурай у гэтым дзіўным цыркавым шоў быў фармацэўтычны барон, чалавек, які кінуў на грошы не адну дзяржаву і чые лекі, пігулкі, кроплі й мазі выкарыстоўваліся на ўсім эўраазіяцкім кантынэнце. Мужчына, настолькі закаханы ў самога сябе, што замовіў выкласьці на ўсіх сьценах у сваім катэджы для адпачынку ўласныя партрэты з золата й каштоўных камянёў; чалавек, які загадаў расьпісаць столь, як у Сыкстынскай капэле, і кожнаму “богу, анёлу і прароку” намаляваць ягоны твар. Гэты барон сраў усім на галовы. Ён часта любіў стаяць на вуліцы сярод натоўпу і здымаць простых дзяўчат. І яны здымаліся. У яго быў прынцып: браць толькі сьвежанькіх баб, з вуліцы, некранутых. Барон прапаноўваў вельмі шмат грошай; вядома, што адна з самых дарагіх беларусак абышлася яму за дзесяць тысяч даляраў. Фармацэўтычны гаспадар паводзіў

сябе як неадукаванае гаўно, раскідваўся ня толькі грашыма, але й карткамі, кідаў у твар якой афіцыянтцы плацінаваую картку, крычаў пароль і роў, што ён сёньня трахае яе… Гэта быў не чалавек – пачвара, ганебная істота, мярзотнае стварэньне, аборт цывілізацыі. Аднойчы геі вырашылі правесьці ў галоўнай канфэрэнц-залі гатэля на шостым паверсе сваё пасяджэньне, пагутарыць наконт лаў-параду ў Менску. Вядома, сабраліся скіны з сабакамі, атачылі гатэль і чакалі, калі адтуль выйдуць геі. Міліцыянты трымаліся ўпэўнена, але нікога не чапалі, і вось вам відовішча: гэты мудак сеў у свой майбах і пачаў езьдзіць вакол гатэля і крычаць з форткі ў гучнагаварыцель: “Пізьдзі підараў, братва!” Менавіта так яго мусіць запомніць чалавецтва: як паскуднага підара, гамафоба й сыфілітычнага маньяка.

Пятае прадстаўленьне: на два гады ў Менску захрасла жонка сына скінутага рэвалюцыяй прэзыдэнта ***стана, краіны, сьпярэшчанай шнарамі, разрабаванай сямейнымі кланамі, што мелі ўладу й забівалі і абкрадалі жыхароў. Цяпер ***стан па развіцьці культуры й эканомікі адштурхнула на трыста гадоў назад, у краіне пануе расізм, забойствы, веранецярпімасьць, затое сам прэзыдэнт хаваецца ў адной цікавай краіне ва Ўсходняй Эўропе, краіне, якая апошнім часам толькі й робіць, што хавае бандытаў і зрынутых дыктатараў. Сыны былога прэзыдэнта ў Лёндане просяць інвэстарскую візу, а іх жонкі часова апынуліся ў нас. Хм, часова. Упэўнены што гэтая мадам нават і ня ведала, што будзе кожны дзень чакаць адказу наконт ангельскай візы на працягу двух гадоў разам зь дзецьмі і маліцца, каб яе ніхто з суайчыньнікаў і беларускіх апазыцыянэраў не пазнаў. Яна схуднела да сарака кіляграмаў, скінуўшы ад нэрваў трыццаць, яе валасы амаль цалкам выпалі, яна хадзіла, як мумія,

і чакала, чакала, чакала адказу з амбасады, а муж нічога, сядзеў у Лёндане, сыты, задаволены, ганарлівы: анягож, яго сямейны клан і клан жонкі столькі грошай натрэсьлі з ***стана, што ягоныя бліжэйшыя пяць пакаленьняў могуць спакойна сабе жыць, вось толькі праз гэта ягоная ўласная радзіма, краіна з насельніцтвам дзесяць мільёнаў жыхароў, ня ведае, за які кошт гадаваць сваё пакаленьне. Я не шкадаваў жанчыну, пакуль аднойчы вечарам яна, расплакаўшыся, не распавяла мне пра тое, што яна такая ж ахвяра, такая ж пешка ў гэтай шалёнай нечалавечай гульні. Я спытаў: “Хто ж тады тут ня пешка?” Яе апошнія словы, калі мы разьвіталіся, былі пра тое, што Ўсходняя Эўропа, як і Сярэдні Ўсход, і Лацінская Амэрыка, гэта другасныя краіны. Кітай, Амэрыка і Заходняя Эўропа будуць працягваць карыстацца намі, як сваімі таннымі працаўнікамі й шлёндрамі, мы нарадзіліся толькі для гэтага. Я нічога ёй не адказаў…

Шостай пэрсонай у нашым кароткім рэйтынгу жыхароў гатэлю стала старая балерына. Паважная, танюткая, нават у свае семдзясят тры гнуткая, вытанчаная і найпрыгажэйшая без апэрацыяў на твары й целе. Незвычайна гаманлівая, распавядала пра ўсё на сьвеце. Яе слухаць было неверагодна цікава і адначасова прыкра, бо за раз яна давала столькі інфармацыі, што ўсё ў галаве гублялася, заставалася толькі лёгкае адчуваньне пашаны й зацікаўленасьці, гонару, што такія балерыны, такія пані яшчэ ёсьць у сьвеце. Яна распавядала пра тое, як падчас вайны ў Віетнаме езьдзіла туды з Опэрным тэатрам, танчыла дабрачынна, дзеля міру, як яе там абстрэльвалі; як потым яе зрабілі ганаровым жыхаром Пхеньяна, калі яна дала шэраг канцэртаў у Паўночнай Карэі; як яна танчыла для прэзыдэнта Амэрыкі; як закаханыя ў яе мужчыны скончалі жыцьцё самагубствам, пакідаючы

пасьля сябе доўгія лісты. Яна шмат распавядала, а потым са сваіх эпахальных аповедаў і жыцьцёвых падзей рэзка перасковала да свайго сабакі альбо ўспамінала, што яе муж зусім галодны і чакае яе.

Месца сёмага і апошняга героя засталося для афіцыйнага мільянэра нашай краіны, мужчыны, які трымае ня толькі большасьць прамысловасьці Беларусі, але й завод содавых, алькагольных напояў, трымае Раўбічы, Сілічы, пяцьсот рэстарацый, і калі б здолеў, набыў бы ўсю краіну, але, як нам вядома, у краіны ўжо даўно свой асобны арандатар, а дакладней, незаконны ўладальнік, але тут не пра гэта. Наш мільянэр па паводзінах вельмі падобны да фармацэўтычнага барона, які на гэтай цыркавой арэне ўжо зьяўляўся. Аднак мільянэр маўклівы, і сваім маўчаньнем ён паказвае, як ён пагарджае ўсімі, у каго меней як пяцьдзясят мільёнаў эўра на швайцарскім рахунку. Усе й усё гаўно па прыродзе, пакуль гэтага гаўна не кранецца ягоная залатая рука, пакуль не адбудзецца сьвяты акт ператварэньня. Мільянэр – чалавек дужа непрыемны нават для апошняй прастытуткі, якая абвыкла глытаць гнойныя члены. Сам гэты чалавек ужо здалёк здаецца пачварным, жудасным, ужо ня кажучы пра шчыльныя стасункі зь ім. Але й на мільянэра бывае находзіць штосьці кшталту сораму. Аднойчы ён ішоў па фае гатэля пасьля канфэрэнцыі для сваіх патэнцыйных замежных інвэстараў (куды яшчэ інвэставаць, нават ён ня мог ужо прыдумаць: усё было куплена, але ж…), ішоў ён, ня бачачы перад сабою сьвету белага, не заўважаючы, што прыбіральшчыца Валянціна Андрэеўна мые падлогу і паўсюль панаставіла жоўтых трыкутнічкаў з надпісам “Wet Floor”. Няхай гэты напаўадукаваны гібон ня ведае мовы, але на трыкутнічках намаляваны чалавек, які падае. І раптам

мільянэр пасьлізнуўся й упаў на сьпіну, ляжыць вялікім пузам угару і падняцца ня можа – неваляшка сраны – жопу адгадаваў, цікава, як ён з ложка ўстае? Перакочваецца?! Да яго бэлбой падбег, падняў, дапамог. Мільянэр агледзеўся, пабачыў прыбіральшчыцу з квадратнымі вачыма, абтрэсься і, перад тым як рушыць, даў пад сраку бэлбою, моцна даў, маўкліва. Пайшоў, але праз два крокі вярнуўся й усунуў у кішэньку пінжака хлопцу-бэлбою сто даляраў, пакуль той цёр сабе пятую кропку. Бэлбой і рады быў, і потым ужо ня слухаў нікога, што камэры ўсё запісалі і тут магчыма ўсчаць суд на значна большыя грошы. Але бэлбой быў сам зь вёскі, вучыўся на другім курсе ПТВ, шанаваў маці і вельмі баяўся бацькі, якія нахуй суды зь мільянэрам, ну даў пад сраку, ну і што, прабачыўся ж, грошы пакінуў.

## Карычневае паліто

Гадзіна ночы, заўтра зранку ў гатэль, з кожным месяцам, з кожным новым годам становіцца ўсё цяжэй спалучаць алькаголь з ранішнім пад'ёмам на працу. Кожны раз у гатэлі пэрсанал паглядае на цябе з жалем, дзяўчыны цябе шкадуюць, і няма таго пачуцьця, якое было раней, што калі ты ўвесь вечар п'еш, а на наступны дзень а шостай раніцы памяты, брудны, няголены зьяўляесься ў гатэлі, заступаеш на працу, а вакол цябе дзяўчыны, жанчыны, і ўсе спаборнічаюць, хто першая дапаможа, хто зробіць гарбату, хто каву, хто знойдзе пігулкі, каб апахмяліць.... Раней пасьля бадуна я выглядаў сэксуальна, я выглядаў ня так, нібыта бы мяне зьелі й высралі. Мая пакамечанасьць выклікала зацікаўленасьць, гонар, жаданьне, я меў выгляд канцэптуальнага алькаголіка, творцы.

Цяпер я прыходжу і ад мяне непрыемна пахне, я апухлы, тоўсты і для большасьці дзяўчын-супрацоўніц надта дарослы, у іх са мною ня можа быць нічога, акрамя працоўных стасункаў, а калісьці яны лёгка давалі сябе ня толькі абдымаць у падсобных памяшканьнях, за дзьвярыма, на якіх вісела шыльда з надпісам “Staff only”.

Я ішоў дадому, лічыў свае гады, дзівіўся часу, разважаў пра раніцу, пра тое, што ад заўтра ў гатэлі будзе новы дырэктар, нейкі Арыстоцель Папаласпас з Грэцыі, замест пагнанага Амара Аль Айамара й ягонай жонкі Сыбілы.

Ішоў і крыўдаваў на бег часу, у роце стаяў рэзкі прысмак гарэлкі, у страўніку падымалася пякотка, у вушах трашчала.

Вось нарэшце мой пад’езд, зараз буду дома, там хутка колькі пігулак “Гістака”, душ і спаць, альбо нават і бяз душа, проста спаць, брудным і сьмярдзючым, похуй. Але як толькі я пачаў зьвінець ключамі, каб адчыніць дамафонныя дзьверы, раптам перада мною паўстала постаць нейкага п’янага мужчыны. Ліхтар асьвятляў толькі ягонае доўгае карычневае паліто, твар быў схаваны ценем пад’езнага брыля, які зьверху асьвятляўся поўняй.

Мужчына прамовіў:

– Гэта табе за Лідку, гніда!

І апусьціў свой кулак мне на галаву. Я адразу зваліўся і толькі пасьпеў паднесьці рукі да твару, калі брудны чорны бот праехаўся па шчацэ, размазаўшы па маіх руках вільготную глебу.

– Ня памятаеш? Успамінай, гаўнюк, успамінай, чырвонае паліто, яна гаўбец пераблытала! – мужчына ў карычневым паліто і балючых ботах яшчэ болей злаваўся і крычаў, перашкаджаючы мне ўстаць на ногі.

Колькі гадзінаў ён тут мяне пільнаваў? Я яшчэ пасьпеў падумаць пра тое, што зранку на працу, напэўна, не пайду, хопіць зь мяне грэбанага гатэлю, стаміўся я… Усё, бяру бальнічны адпачынак, законны адпачынак. І яшчэ я падумаў, а ці ведаю Лідку, можа быць, тут нейкая памылка, але прамовіць нічога ня мог: у роце пачала зьбірацца кроў…

Мужчына ў брудным карычневым паліто біў рэдка, але трапна. Напэўна, былы спартсмэн.

Тут вы мусіце ўсклікнуць:

– Гэта ж ужо “трэцяе паліто”! Як, а ці ж гэта ўжо канец? Дарагі парцье, анягож!? І ня будзе ніякіх навінаў пра

ліванскага доктара Саіда? А ці захварэў ён на СНІД, пакуль выратоўваў Сьвету? А што там чуваць пра сцэнарыстку Галіну Фэліксаўну? А ці нарадзіла цырульніца-баптыстка Марына? А ці знайшлі дырэктарку спа Раміну Гайдараўну са скрадзенымі грашыма? І што цяпер робіць бухгальтарка Люся? Як праходзіць “хімія” ў былога ахоўніка Віктара? Як цяпер жыве кухар Валера, які скраў карбанат? Навошта ты, аўтар, павыпускаў людзей на арэну Цырка, калі пра іх больш ані слова? Што?! Што далей? Дзе працяг?!

Шчыра вам скажу: пасьля такога зьбіцьця мне ўжо не да апавяданьняў. І пасьля гэтай кропкі вас не павінна болей нічога хваляваць.

*Сьнежань 2011 – красавік 2012*
*Менск*

*прысьвячаецца людзям, зь якімі давялося правесьці шмат цікавых гадзінаў у працы, гутарцы, разважаньнях і спрэчках. людзям, зь якімі я дзяліў свае сьнаданкі, абеды й вячэры, з кім разам адпачываў і назіраў за дзівосамі навокал – у магічных сутарэньнях, якія завуцца гатэлямі*

Усе героі й падзеі кнігі выдуманыя,
любыя супадзеньні выпадковыя

## Зялёная кашуля

Усе ў мяне пытаюцца: дзядзька, табе ўжо хутка трыццаць год, што ты ў гэтым гатэлі сядзіш? Чаму не працуеш па адукацыі? Чаму не шукаеш сур'ёзнай працы? Што з табою будзе далей? Як магчыма жыць без кар'ернага росту? Хіба ў цябе няма жаданьня дасягнуць чагосьці ў працы?

Я ўсім адказваю аднолькава: "Дзякуй, што турбуецеся, але ідзіце, калі ласка, у дупу!" Я шчасьлівы, у мяне ёсьць усё, пра што я марыў: жонка, сабака, зьбіраем грошы на ўласную кватэру, плянуем дзіцё. Мая праца акурат такая, каб не замінаць мне пісаць, графік такі ж самы, я маю свабоду, каб таксама – пісаць прозу. Я задаволены й той часткаю волі, якая ў мяне ёсьць, калі я ў гатэлі сяджу ў сваім кабінэце: бясплатны Інтэрнэт, абед і вячэра таксама бясплатныя, амаль ніхто сюды не завітвае, працую зь людзьмі толькі пад запіс. Што яшчэ трэба?!

Калі грамадзтва адштурхоўваецца, у пераважнай большасьці, ад матар'яльных кропак, я маю вялікае жаданьне жыць у сьвеце, дзе ўсё працуе толькі на чалавека, бо самы вялікі абсурд Жыцьця – гэта ўвесьчасныя ды ўсюдыісныя турботы пра свой гаманец і пакупку адна-, двухпакаёўкі… Якім чынам сталася так, што ў Цывілізацыі, створанай чалавекам, немагчыма жыць на сваю карысьць і шчасьце, не плянуючы набыцьцё ежы з гіпэрмаркету да наступнага заробку, а проста як ёсьць пасяліцца на свабод-

най зямлі, вырошчваць сабе чыстую ежу і быць незалежным? Аднак абавязкова знойдзецца купка лайдакоў, якім захочацца нічога не рабіць, але атрымліваць усё дарма і называць зямлю Радзімаю, а дармовае – падаткамі. Я б хацеў жыць так, як ад пачатку было наканавана Космасам, – жыць дзеля радасьці й волі жыцьця, спасьцігаць розум Прыроды, навукі, вучыцца наноў хадзіць і лётаць – і радавацца з гэтае нагоды. Атрымліваць сапраўдную асалоду ад сьнегу, які мусіў бы выпадаць на Раство, а не глядзець на панурыя вуліцы гораду, ахутаннага смогам, хворага й атручанага выхлапнымі газамі стварэньня доктарам Франкенштайнам.

Я ня бачу сэнсу ва ўсім гэтым маскарадзе, бо ўсё, што робіцца вакол чалавека, створана яго ўласнымі рукамі і нясе з сабою толькі нахабнае патрабаваньне прызнаньня толькі ягонага адзінага Я, дыктатуры, гвалту й індустрыяльнага шаленства.

Такім чынам, калі б я мог не працаваць, я б не працаваў, але калі я не магу не працаваць, няхай я буду сваёй працай прыносіць людзям хаця б невялікую палёгку, радасьць і часам моўныя альбо літаратурныя адкрыцьці.

Вось ён, мой будзільнік: спачатку сыгналіць жоўтазялёны плястыкавы корпус, і празь імгненьне я адчуваю, як раптоўна спахопліваецца сабачка – на маёй галаве яе пуза й лапкі, на маёй шыі – яе галава. Яна ўскоквае і, пазяхаючы з характэрным піскам, пачынае лізаць мне твар, трапляючы языком па носе, па вейках, па вусах, па вуснах, пакусваючы маю бараду… Я стараюся ўхіліцца, але гэта немагчыма: сабака – адзін вялікі цёплы ласкавы язык, які падымае цябе й патрабуе хутка зьбірацца на вуліцу.

Вось я стаю на кухні, дзьверы лядоўні адчыненыя, лядоўня выдае гукавы сыгнал, каб я зачыніў дзьверы, але я заняты – я п’ю ёгурт.

Пасьля процьмы сідра пітны ёгурт раніцай – тое, што трэба. Страўнік пачынае ўрчаць, рэшткі вячэрняга сідру – цісну́ць на мачавы пухір.

Потым я заходжу ў пакой, жонка яшчэ сьпіць, сабака, джэк расэл тэр’ер па мянушцы Хурма, усё яшчэ чакае свайго недарэчнага гаспадара. Я апранаю джынсы, розныя па колеры й фактуры шкарпэткі, Хурма не дае апрануцца спакойна, сьцягвае з ног шкарпэткі, шкамутае калашыну джынсаў… Гэта яна мяне прысьпешвае ісьці зь ёю на вуліцу і адначасова тармозіць выхад. Зашпільваю цёмна-зялёную, як лісьце ў жніўні, кашулю – паверх зялёная куртка і парваныя кеды (“бо якая розьніца, колькі год тваім кедам, калі ты стаіш у іх на ходніку ў Бэрліне” – таму мне абсалютна нецікава, у якім стане мае кеды), паверх курткі – карычневая скураная сумка праз плячо, у правую кішэнь курткі трапляе пакуначак зь ежаю для сабакі, у левую – карабін з павадком. Я гатовы гуляць, але, як звычайна, не гатовы ехаць на працу, таму лягічна, што ў яблыневым садзе я затрымаюся крыху даўжэй, буду кідаць Хурме галінку, назіраць, як яна за ёю бегае – белая плямка на шэра-сінім фоне раніцы, буду радавацца тым хвілінам, калі магу лёгка забыць пра тое, што існуе абавязак працаваць, зарабляць грошы, адцягваць увагу ад самых каштоўных для сябе рэчаў – творчасьці й каханьня. З сумкі праз плячо дастаю арганайзэр, удакладняю пляны на дзень, правяраю, ці захапіў з сабою кнігу.

Ніхто ня зможа адняць альбо скрасьці маіх каштоўных хвілін, калі я атрымліваю самае вялікае адкрыцьцё кожным

разам, калі я для сябе асабіста дасьледую прыгажосьць, калі назіраю, як В. сьпіць, і калі дасьледую для сябе новыя пачуцьці любові й пяшчоты, калі назіраю за маленькай Хурмой, як яна жвава бегае за галінкаю альбо капае ў зямлі нару; я разумею, што маё жыцьцё мае сэнс і мае права існаваць, і я маю права быць тут і цяпер, і мне неабавязкова жыць дзеля таго, каб прыносіць карысьць грамадзтву, як гэта выбіта на скрыжалях запавету сучаснасьці, мне дастаткова ведаць, што я зарабляю грошы для сваёй маленькай утульнай сям'і, і паціху, крок па кроку, мы набліжаемся да сваёй уласнай кватэры, але ёсьць сумнеў, што, калі ў нас назьбіраецца дастатковая сума, мы не захочам жыць там, дзе паветра замінае ўдыхнуць глыбока-глыбока, каб перахапіла дух, бо калі на цябе з усіх бакоў паглядае людажэр, калі ты ня бачыш магчамасьці зьдзейсьніць свае мары і разумееш, што змагаром быць недастаткова, але ёсьць шанец рабіць штосьці звонку, ніж знутры, абавязкова пачынаеш шукаць маёмасьць дзе заўгодна: Вільня, Варшава, Прага, Бэрлін…

Хурма засталася дома, я ізноў на вуліцы, цяпер ужо іду праз двор да мэтро, вакол неахайна запаркаваныя машыны, адна на адной, нагадваюць ці то сублімацыю гаспадароў, ці то помсту Прыродзе, бо паўсюль, дзе мусілі б расьці кусты й маладыя дрэўцы, зялёная трава й уладкаваная дзіцячая пляцоўка, стаяць машыны, зь якіх часта сьцякаюць на зямлю аліва, мазут, бэнзын, гумовыя колы даўно ўжо расьцярушылі ў пыл кусты, бамперы паламалі дрэўцы… Машын у двары становіцца ўсё больш, і вось яны сваімі коламі налятаюць на ўслоны, угрызаюцца капотамі ў гаўбцы й вокны першых паверхаў… Калі-небудзь мы ўсе прачнемся раніцай на працу, а ў нашых пакоях каля ложкаў

будуць стаяць лэнд-роверы з заведзеным рухавіком – гэта нашыя суседзі будуць праграваць машыны.

Іду да мэтро, стараюся адцягнуць увагу ад аўта-армагедона, уключаю на плэеры аўдыёкнігу. Сёньня пачынаю слухаць тэтралёгію Пэтэра Хандке, спадзяюся на сапраўднае адкрыцьцё.

## Прыбіральшчыцы

У гатэлі заўсёды знойдзецца купка працаўнікоў, занятых у любой сфэры працы, якія б зарэкамэндавалі сябе як неадказныя, небясьпечныя людзі. Але калі напрыканцы года падводзяцца вынікі ня толькі бухгальтарскай працы і справаздачы мэнэджараў, але пачынаюць лічыць у пакоях маёмасьць і наяўнасьць, адразу раптоўна ўсплываюць лічбы з трыма нулямі, сумы, на якія пэрсанал “кінуў” гатэль і, вядома, асабіста Ніндзю, прэзыдэнта сэткі гатэляў. Адных сталовых прыбораў было вынесена на 3000€, і гэта яшчэ не лічылі посуд, які гатэль купляе адразу вялікай партыяй праз “Вілерой і Бош”, дзе кубак для гарбаты – 200$.

У такія сьвяточныя калядныя дні ў гатэлі ўсе сумныя, бо ізноў спачатку караюць ахоўнікаў на КПП, потым камэрамэнаў, і праз усю гэтую кагорту адна вялікая пізьдзюліна дастаецца начальніку аховы Піліпу Андросавічу, які ходзіць без гумору, апусьціўшы плечы й нават забыўшыся на сваю налакаваную фрызуру, зачасаную набок.

Піліп Андросавіч – былы кадэбэшнік, – як ні дзіўна, выглядае выкшталцона ў сваім гарнітуры, заўсёды сьвежа пахне адэкалёнам і заўсёды ў яго памыты BMW X5, нават калі на вуліцы па шыю бруду, ня ведаю – сусьветны Армагедон, ягоная машына такая ж, як і ён, – блішчыць. І вось сапраўды ў цэлым годзе ёсьць некалькі дзён, калі Піліпа

Андросавіча не пазнаць, і ў тыя ж дні не пазнаць нікога, асабліва вартаўнікоў на КПП.

Вартаўнікі КПП усіх правяраюць тройчы, ня толькі мэталашукальнікам, але зазіраюць туды, куды не заўсёды зазірне паліцэйскі на памежным пасту ў аэрапорце, бо ўсе шукаюць тых злосных здраднікаў, якія накралі на тысячы эўра й яшчэ, можа, і на працу ходзяць, беленькія такія, чысьценькія і ані каліва сумленнасьці. І, вядома, у такія дні на КПП сапраўды трапляюцца тыя, хто спрабуе пранесьці гатэльную маёмасьць, нягледзячы на тое, што ўсе ўсё ведаюць і дакладна ведаюць пра звышпільны догляд.

*Галя*

Галя прыбіраецца ў спа і ў сталоўцы для пэрсаналу. Галя – звычайная адчайная жанчына за сорак, без адукацыі, бяз мараў, безь імпэту, працуе па інэрцыі і нікуды не імкнецца, спраўна па талёнчыку абедае й вячэрае, у кішэньцы трымае рукою мабільны тэлефон нават у прыбіральні, бо кожную хвіліну могуць пазваніць альбо Юлія Цімафееўна, альбо Міхаліна (ня дай божа каб апошняя званіла) і тэрмінова паклікаць падцерці падлогу за кім-небудзь з пастаяльцаў або кліентаў, якія, прыйшоўшы з вуліцы, забыліся на бахілы й паўсюль пакінулі свае адбіткі.

Галю затрымалі на КПП з рушнікам, звычайным белым рушнікам, ён ляжаў у яе паверх працоўнай вопраткі, бо Галя лічыла, што калі навідавоку, то ня знойдуць альбо падумаюць, што гэта яе, але ж Галя не падумала, што ў рушніка ёсьць, акрамя этыкеткі з лэйбам гатэлю, якую яна адрэзала, яшчэ й фатаздымак і кароткае апісаньне з указаньнем памераў, колеру й фактуры, па якім ахова апазнала скрадзеную рэч.

Звольнілі па артыкуле.

*Паліна*

Паліна – самая пульхная з усіх прыбіральшчыц, самая яскравая й сьмяшлівая – нікому не давала спакою, прыбіралася ў галоўным холе і на бары. Паліна заўсёды ведала, што трэба быць самым хітрым у сьвеце, каб незаўважна выносіць маёмасьць з гатэлю. За тры месяцы працы яна здолела схаваць пад вопраткай ня толькі пяць рушнікоў для ног, тры пары аднаразовых тапак, але й пакецікі цукру, чакалядкі і чайныя лыжачкі.

Паліну абшукалі на КПП і, можа быць, нічога й не знайшлі б, калі б вартаўнік ня ўспомніў, проста так, для жарту, свой досьвед працы турэмным назіральнікам і не сказаў свайму калегу, каб той паглядзеў у жанчыніны боты.

У Паліны пад сьцелькамі ў абутку знайшлі тры пакецікі зялёнай гарбаты “Грынфілд”.

*Сьвятлана*

Сьвятлана нічога ня крала і на клептаманію не хварэла...

Сьвятлана прыбіралася ў тых самых месцах, дзе й Паліна і Галя, але яна была на іншае зьмене, таму з жанчынамі не перасякалася, але бачылася з адміністратарамі, якія працавалі такім чынам, каб трапляць адразу на дзьве розныя зьмены і быць у курсе ўсіх падзеяў. Сьвятлана адразу ўзяла за звычку прыходзіць на працу й скардзіцца на тое, як “напрыбірала” іншая зьмена: “Ой, не, ну вы паглядзіце, у пыласосе не памянялі картрыдж... Не, ну дзе вы бачылі, каб так мылі падлогу, адны пісягі паўсюль! І гэта называецца вільготнае прыбіраньне паверхні!” і г. д.

Звычайна ад Сьвятланы можна было за працоўны дзень столькі ўсяго начуцца, датычнага іншай зьмены

прыбіральшчыц, што адміністратары часта не вытрымлівалі й сварыліся на яе, тым болей калі ў памяшканьні знаходзіліся кліенты. Вось вы, напрыклад, пасьля масажу й малочнай ванны ляжыце ў халаце ў пакоі для адпачынку, грае “дзіп рэлакс”, вакол лунае водар духмянак… і тут увальваецца Сьвятлана, ные пра нешта, скардзіцца, крытыкуе пыл у кутках і кепска памытую падлогу.

Вядома, яе спрабавалі перавыхаваць, але трэба ж было аднойчы зайсьці дырэктару гатэля Гнюсэлю ў спа па справах… і што ён пачуў!

– Так! Я не раўзумею! Што гэта за свавольства! Вы што, лічыце, што я тут буду за кожным падціраць?! Дзе бахілы?!

Дырэктар гатэлю адрэагаваў досыць спакойна, ён ціхенька сабе пачырванеў, ускіпеў дзесьці ўнутры да пякоткі, разьвярнуўся й пайшоў да Міхаліны, каб там, у чатырох сценках досыць свабоднага пакоя, накрычацца на месяц наперад.

Праз трыццаць хвілін Сьвятлану звольнілі.

Але што азначае звальненьне для чалавека, які працаваў як мог і шчыра верыў у сваю праўду? На наступны дзень Сьвятлана прыйшла ў аддзел кадраў і сядзела там, і плакала, і адмаўлялася сыходзіць, пакуль яе ня вернуць, казала, што не пазнала дырэктара, казала, што ў яе становішча цяжкае, ёй нельга бяз працы, яна аплочвае адваката, які судзіцца з адным мянтом, які тры месяцы таму забіў яе сына. Было гэта так:

Сын Сьвятланы, Коля, 19 год, панк, сядзеў на прыпынку а 12 ночы, п’яны, чакаў транспарту ехаць дамоў, да яго падышлі два міліцыянэры, пачалі дапытвацца… Коля, доўга ня думаючы, паслаў іх нахуй. Хлопца спачатку зьбілі, а потым адвезьлі ў малпоўню, а на раніцу выявілася,

што ён памёр… Пазьней судовая экспэртыза пастанавіла сьмерць ад шырокай гематомы брушной поласьці. Мянты на ўсё казалі, што проста прывезлі п’янога хлопца ў малпоўню, каб той ня трапіў у непрыемнасьці, і хлопец ужо быў пабіты.

Празь некалькі дзён Колеў сябар выпадкова, калі рэчы памерлага вярнулі маці, выявіў на тэлефоне кароткае відэа, дзе бачна, як адзін мент заходзіць у камэру й пачынае манатонна, з хрыпам у лёгкіх, біць амаль непрытомнага Колю-панка па вонкавым жыцьці, рамантыка ўнутры… Адвакат, гатовы ўзяцца за гэтую ад пачатку стромную ў нашай краіне справу – судзіцца зь мянтом, – бярэ шмат грошай.

Вось і хто тут цяпер Сьвятлана? Ахвяра? Сьмешная злая жанчына? Проста неразумная баба? Хамка-прыбіральшчыца?

Яе на працу не вярнулі, бо ніхто ня вырашае лёс працаўнікоў у гатэлі, акрамя дырэктара, які ня хоча чуць ніякіх тлумачэньняў, хіба толькі калі Сьвятлана сама ня зьвернецца да яго на ангельскай альбо на турэцкай мовах.

Такі прынцып у нашага дырэктара гатэлю… Вучыце мовы!

*Валянціна Андрэеўна*

Валянціна Андрэеўна сярод прыбіральшчыц самая адметная. І не таму, што мае вышэйшую адукацыю і паводле дыплёма – настаўнік беларускай мовы і літаратуры і рускай мовы і літаратуры, але таму, што яна першаю і пакуль адзінаю сярод прыбіральшчыц атрымлівала “Працаўніка месяца” і праз гэта – падвойны заробак.

Валянціна Андрэеўна мусіць працаваць толькі ў холе першага паверха і на рэцэпцыі, але за сваю зьмену яна пасьпявае прайсьціся амаль па ўсім першым і другім паверхах. Яна адчайная жанчына, якая на працу прыносіць адразу тры саколкі, бо пасьпявае так шмат прыбіраць і так набегацца па паверхах, што да абеда ўжо спрэс спатнелая, таму яна хуценька ў душ і пераапранаецца… і так тройчы за зьмену. Гэтая жанчына нячутная і нябачная, як анёл, але яна заўсёды ў паніцы, яна заўсёды перажывае, ці чыста прыбралася, па дзесяць разоў пераправярае і вельмі пакутуе, калі чуе ад кагосьці, што Сьвятлана ізноў бурчэла, ходзячы па яе прыбраных месцах. Яна адзіная, хто можа пайсьці ў суседнюю краму і набыць на свае грошы ачышчальных сродкаў, бо ад кладаўшчыкоў доўга чакаць выдачы, а падлога хутка можа стаць ізноў бруднаю.

Аднойчы Віталь і Антон, стылісты ў салоне ў спа-цэнтры, праходзілі побач ад прыбіральні для пэрсаналу і ўбачылі такую карціну: Валянціна Андрэеўна стаяла каля ўнітаза на каленах, кубкам вычэрпвала ваду і вылівала яе ў рукамыйніцу. На пытаньне, навошта яна вычэрпвае кубкам ваду з унітаза, тая прамовіла, што хоча памыць унітаз знутры спэцыяльнымі сродкамі, бо раптам Сьвятлана альбо Міхаліна заўважаць там бруд.

Марына, карункавая цырульніца-баптыстка, выйшла з дэкрэту і, каб хоць неяк аддзячыць гэтай жанчыне за яе працу, зрабіла ёй сапраўдную францускую фрызуру. Калі Валянціна Андрэеўна пабачыла сябе, здолела толькі прамовіць, што ў яе на галаве яшчэ ніколі такой прыгажосьці не было, і заплакала… Праплакала так цэлую гадзіну, п’ючы валяр’янку і атрымліваючы шчырыя словы суцяшэньня ад усіх, хто быў побач.

Сярод прыбіральшчыц самы высокі працэнт крадзяжоў, але кожны год усё паўтараецца наноў: выяўляюцца вялікія недастачы, на тысячы эўра, і на КПП ловяць адных прыбіральшчыц з рушнікамі і пакецікамі гарбаты, а тых, хто скрадае асноўную маёмасьць, якую вельмі лёгка прадаць, – срэбныя рэчы, кампутары і нават камплекты для ложкаў, – так і не знаходзяць.

## Мэнэджар

У нашым гатэлі безумоўна пануе ўлада замежных інвэстараў, дырэктараў і самога галоўнага Ніндзі, які часта праз сваю старасьць забываецца на ўласную выспу й сэтку гатэляў, якія цяпер сотнямі раскіданыя па зямной кулі, і ўсчынае рэарганізацыі, рэфармацыі, ператасоўкі й ракіроўкі сярод працоўнага пэрсаналу. Зразумела, гэта ніколі не ідзе на карысьць нікому, акрамя Ніндзю, які атрымлівае шчырае і ўсёпаглынальнае захапленьне ад улады і цешыць сваё эга. Але ўсе мы ведаем, што магутнай міжнароднай сэткаю даўно кіруюць ягоныя праўнукі, якія яшчэ ні разу не прыяжджалі ў Менск, бо ня бачаць сэнсу, і вельмі радыя, што іх шаноўны продак яшчэ жывы й жыве на экалягічна чыстым: дзеўкі ўсе – беларускі, ніякіх хваробаў, усе маладыя, добрыя й сытыя, калі трэба – пісюн патрымаюць, каб Ніндзя пассаў, а калі й падняцца дзядулі дапамогуць і руку ягоную сабе на грудзі пакладуць. Галоўны чыньнік, па якім Ніндзя не жыве на сваёй высьпе, – жанчыны, якія, як амазонкі, засталіся толькі на чыстай і цнатлівай беларускай зямлі.

Улада ў гатэлі часта трымаецца фашыстоўскіх законаў і правілаў, і гэта паказальна праз заробкі любога, хто тут маецца. Возьмем, напрыклад, электрыкаў: беларус-электрык атрымлівае роўна 450$ за месяц, па курсе, які ў гатэлі кіруецца знутры, а не паводле Нацбанку. Турак-электрык

атрымлівае роўна ўдвая болей – 900$... Альбо, добра, возьмем да прыкладу інжынэраў: беларус – 600$, замежнік – 1200$. На нашай зямлі нас саміх прыніжаюць. Мы хто? Мы што? Што з намі? Дзе мы й наш гонар? Давайце на хвілінку ўявім, што беларусы вынайшлі свой уласны гатэльны брэнд “Шампанскі”, і вось, скажам, Гішпанія, Барсэлёна, у цэнтры горада адкрываецца пяцізоркавы беларускі “Шампанскі-Барсэлёна” і ўсе беларусы, якія прыехалі, атрымліваюць удвая большы заробак, ніж мясцовыя... Колькі дзён прастаіць гатэль? Тыдзень?! Два?! Сумняюся, што яго нават суткі пратрымаюць адчыненым, баронячыся ад маніфэстантаў, якія будуць патрабаваць роўных правоў і заробкаў! У нас пад носам, на нашай зямлі – суцэльнае свавольства! Як у тым анэкдоце: замежнікі прыехалі і бачаць, як вакол ходзяць менчукі, усе спрэс сумныя, панурыя, у асфальт глядзяць, змрочныя... Замежнікі пытаюцца, што здарылася, можа быць, нейкая нацыянальная жалоба?! А мінак і адказвае: “Вас бы так дваццаць год запар ябалі б, я б на вас паглядзеў!”

Вось і ў гатэлі раней на кожнае аддзяленне (не істотна – рэцэпцыя, бар, рэстарацыя, спа) быў адзін мэнэджар, і мэнэджары былі заўсёды розныя: прыгожыя і не, тоўстыя і худыя, сьветлыя й з малочнай скураю або цёмныя й цёплыя, безэмацыйныя й нэрвовыя, але заўсёды ветлівыя, шчырыя, і ўсе мелі роўныя, аднолькавыя заробкі, бо ўсе былі беларусамі. Аднак грэчаскі дырэктар Арыстоцель Папаласпас, якога так любілі й шанавалі, паехаў кіраваць далей па сьвеце, і да нас прывезлі Гнюсэля, самага сапраўднага лысага бамбізу, якому б на завод Белазы круціць, а не кіраваць гэтым парцалянавым гатэльным сьветам, бо ўсё, што ўвогуле нагадвала хаця б мінімальную інтэлігентнасьць у друзлым целе і лысай галаве, – дарагі гарнітур і выкшталцоныя акуля-

ры, якія тонкімі стрункамі трымаліся за адтапыраныя, гладкія й паголеныя, як у ружовенькага Саладухі, вушкі.

У першы ж тыдзень Гнюсэль адзначыў для сябе адну маладую адміністратарку, якая зачапіла яго сваімі чароўнымі вачыма. Позірк дзяўчыны, а звалі яе Таіса, пранікаў табе адразу ў мозг, пад чарапную каробку, а потым павольна, праз разрады токаў, імпульсамі спускаўся ў страўнік. Як толькі Гнюсэль пабачыў Таісу, яму зрабілася блага: Гнюсэлю адчайна захацелася Таісы, хаця б і ня цалкам, але ручку ейную пацалаваць, палашчыцца ля яе грудзей, якія крыху праглядалі скрозь выраз працоўнай уніформы.

Гнюсэль – сэксуальны маньяк, ён на сайтах сэксзнаёмстваў паўсюль разьмясьціў свае фота і кароткую біяграфію, не хаваючыся… і подпіс пакінуў такі: “Інвэстую”… Інвэстуе ён!

Прайшоў месяц, і раптам Таісу зрабілі другім мэнэджарам, хоць такой патрэбы й не было. Вядома, Ніндзя сказаў, што аднаго мэнэджара дастаткова, але калі Гнюсэль так жадае сваю Таіску, няхай выкручваецца сам. Такім чынам палову заробка забралі ад першага мэнэджара і аддалі Таісцы, якая, дарэчы, да таго казачнага дня была цалкам мілаю, прывабнаю і далікатнаю дзяўчынаю, шчыраю й сяброўскаю, вучылася на пятым курсе, марыла пра кар’еру, уласную кватэру й сабачку чыхуахуа.

Таіса як мэнэджар нічога не рабіла, нікога не падтрымлівала, разышлася са сваім каханым, які, дарэчы, працаваў бармэнам у гатэлі, і любыя звароты, парады і пытаньні пэрсанала яна ігнаравала і на кантакт не ішла. Нават калі трэба было гутарыць з дырэкцыяй пра павышэньне заробкаў у яе аддзеле, Таіса не пайшла. Яна тупа забіла на ўсё й на ўсіх і пера-

тварылася ў тыповую “наташку”, якой бачаць славянскіх жанчын туркі на сваёй радзіме. Вось прыклад: увечары адміністратар, новенькая дзяўчынка, увяла суму, якая істотна адрозьнівалася ад наяўнай, і ня ведала, як правільна зрабіць адмену па картцы. Кліент хвалюецца, дзяўчына чырванее, вызвоньвае Таісу, ніхто не прыходзіць на дапамогу. Скандал быў зафіксаваны ў кнігу скаргаў, і толькі на наступны дзень бухгальтар адмяніў усе працэсы па картцы, але адміністратара ўжо звольнілі. Потым высьветлілася, што Таіса проста сышла да Гнюсэля ў кабінэт і выйшла адтуль толькі праз тры гадзіны. А? Таіса сказала, што была занятая неадкладнаю справаю і адказаць на мабільны тэлефон (на экране сьвяцілася, што адміністратар яе аддзела званіў васямнаццаць разоў) не магла... “Вядома, не магла! – выказваліся хлопцы на курылцы. – Рот быў заняты хуём Гнюсэля!”

Я ня буду яе жорстка асуджаць, яна яшчэ зусім маладая, недасведчаная, можна нават сказаць – дурная. З часам такое праходзіць, ці, прынамсі, бывае, што праходзіць, але я тут прывяду адзін прыклад таго, як Таіса пачала гаварыць з пэрсаналам у першы дзень працы мэнэджарам. Валянціна Андрэеўна, карункавая прыбіральшчыца, мые падлогу, дакладней мые другім разам – пасьля швабры да бляску націрае мармур анучаю.

– А гэта што такое?! – абураецца Таіса, праводзячы пальцам пад парэнчамі, і дадае яшчэ больш пісклявым голасам – Тэ-э-эрмінова ўсё вы-ы-ы-мыць!

– Ужо-ўжо, Таісія Аляксандраўна, выбачаюся, шчыра выбачаюся, не даглядзела... – Валянціна Андрэеўна кідае анучу на мармур і ляціць да парэнчаў, прыніжаная, старэйшая за Таісу роўна на трыццаць два гады, філёляг, які б у якой іншай краіне быў бы ўжо на ганаровай пэнсіі, ушанаваны прэміямі за адданае выкладаньне свайго прадмету. Але ня тут.

## Дырэктары

Кожны ведае, што калі за стырном знаходзіцца той чалавек, які патрэбны, які дакладна ведае, куды ехаць, плыць альбо ляцець, то любая машына, аўтобус, тралейбус, катамаран або, там, падлодка з самалётам будуць рухацца як мае быць. Ведаючы гэтае залатое правіла, вынайдзенае нашымі далёкімі продкамі праз незьлічоную колькасьць зробленых памылак, ніхто, зусім ніхто ім не карыстаецца. Навочны прыклад: за некалькі год дырэктараў ва ўсіх сэктарах і зонах мянялі каля пяці разоў.

Дырэктарам у гатэлі ніхто не жадае быць, бо, нягледзячы на заробак, гэтая пасада самая кароткатэрміновая сярод іншых. Да Гнюсэля быў Арыстоцель Папаласпас, які кіраваў роўна сем месяцаў, а да яго быў Амар Аль Айамар, які кіраваў шэсьць месяцаў, а да яго Ціль Портман, які быў пры закладцы першых цаглінак гатэлю. Гучыць як радкі зь Бібліі: Іаан кіраваў столькі, потым нарадзіў Ісаака і той пражыў столькі год, а кіраваў столькі…

Кожны з дырэктараў патрапіў пад крытыку, неміласэрнасьць і гэтак далей, гэта калі ня браць у разьлік іншых дырэктараў, так бы мовіць, ніжэйшых па статусе, хаця б таго ж дырэктара казыно, дзе, як пляткараць, дырэктароў увогуле звозяць у невядомым кірунку і мяняюць раз на сэзон.

Вядома, сярод дырэктараў ёсьць і такія, якіх магчыма назваць старажыламі, напрыклад, Ніяцкая, дырэктар-

ка спа-цэнтру, жанчына-перабольшаньне ўва ўсіх сэнсах, жанчына-вамп, жанчына-мара, занадта ганарлівая, каб з вамі пагутарыць, занадта занятая, каб з вамі павітацца.

І вось, Гнюсэль і Ніяцкая шмат у чым падобныя. Нягледзячы на відавочныя адрозьненьні, нават не беручы пад увагу іх полавыя прызнакі, падобныя па характары, поглядах на сьвет, падобныя грэблівасьцю і цьмянымі рамантычнымі марамі, адначасова ўмеючы абставіць справу так, што, акрамя іх, ніхто не выкараскаецца зь яміны, калі ўжо трапіў.

*Гнюсэль.* Ён зусім ня кепскі мужчына і нават у некаторых момантах добры кіраўнік, прынамсі ён жорстка пакараў аддзел кадраў, калі тыя выкінулі ў сеціва такую абвестку: “Пяцізоркавы гатэль у аддзел хостэсу шукае маладую дзяўчыну мадэльнага выгляду зь веданьнем ангельскай мовы, можна бяз досьведу працы”. Гнюсэль адразу сказаў, што шанцы ўва ўсіх аднолькавыя і мы тут не бардэль, і пазбавіў прэміі дзяўчыну, якая накатала такую абвестку, ды прымусіў перапісаць наноў, без “мадэльнага выгляду”, і дадаць патрабаваньне вышэйшай адукацыі. І адразу адсеялася процьма непатрэбных анкетаў і знайшлася прыўкрасная дзяўчына зь ін’язу.

Так, у новага дырэктара шмат усяго кепскага, чаго б я ніколі нікому не пажадаў бы… Ён зарэгістраваны на сайтах знаёмстваў і кожны вечар адшуквае неабходнае дзяўчо на ноч. Ён увесь паголены, у яго нават бровы паголеныя, і ўвесь ён выглядае як старое прыпухлае немаўля. Злосны і нэрвовы, часта бывае несправядлівым, але калі б вы толькі бачылі, як ён зьмяніўся, калі на два тыдні да яго прыехала жонка з дачкою, – ідэал любячага мужа й бацькі. На працу пехатою хадзіў, сьвісьцеў сабе пад нос песенькі. Прыгажосьць!

Гэта не дае яму права быць такім, які ён ёсьць, гістэрычным кіраўніком гэтага вялікага карабля пад назваю Гатэль. Сярод працаўнікоў ходзіць знакамітае: “Што, ізноў у лысага месячныя?”

Напэўна, ніхто ніколі не хацеў бы апынуцца на ягоным месцы, калі 31-га сьнежня, акурат пад Новы год, зь Ніндзем здарыўся нейкі ўсплеск ці то эмоцый, ці то шызафрэніі, і ён выклікаў да сябе Гнюсэля і пачаў лаяцца, як той стары сабака, маўляў: “Што гэта за кепскае кіраваньне?! Дзе прыбытак?! Чаму мой сябра незадаволены?!”

Гнюсэль адразу ў абарончую пазыцыю: “Гэта ня я вінаваты, усё наблытала начальніца аддзела кадраў і перавяла галоўнага па хостэсу на пасаду маркетоляга, я б так ніколі не зрабіў!” (А мы ведаем, што Гнюсэль сам прасіў перавесьці, бо на пасаду галоўнага ў аддзеле “Хостэс” ён вырашыў паставіць сваю новую бабу, а тая запарола рэгістрацыю аднаму з плятынавых кліентаў гатэля.) Праз гадзіну, нягледзячы ні на што, нават на Новы год, маладая жанчына, якая толькі-толькі прымервала на сябе працу начальніка аддзела кадраў, была выстаўленая вонкі. Без тлумачэньняў.

Вядома, Гнюсэль увечары прыехаў да яе дадому, выбачаўся, цалаваў рукі, казаў, што налічыў ёй на картку заробак за год, каб тая яго выбачыла, бо яму нельга губляць гэтую працу, у яго тут усё жыцьцё.

Ну канешне, у яго тут усё жыцьцё, а тое, што недзе ў іншай краіне яго чакаюць жонка з дачкою, ня ўлічваецца.

*Ніяцкая*. Як толькі гатэль адбудавалі, Ніяцкая была ці ня першаю ўзятая на працу, і гэтым страшэнна ганарылася. Жанчына каля шасьцідзесяці, з высока паднятымі грудзямі, доўгімі валасамі. Пагадзіцеся, ня кожны ў такім

узросьце будзе насіць доўгія валасы і выглядаць раскошна, а Ніяцкая так выглядае, і ведае гэта, і высока цэніць сябе. Яе адразу паставілі кіраваць спа, бо спа, як вядома, найбольш цьмяна зразумелы й цяжкі для раскруткі сэгмэнт гатэльнага бізнэсу: усё залежыць ад майстроў, ад кваліфікацыі й якасьці і ад таго, як кліенты будуць вяртацца. Але Ніяцкая плявала на ўсе ўмоўнасьці, жанчына з характарам сталёвым, закаленым, ганарыстая сваімі чэскапольскімі каранямі да адурэньня. І, здавалася б, усё добра, але ж… але… Ніяцкая на працягу двух гадоў не віталася ні з кім. Прынцыпова. Яна глядзела ў столь, і калі нават і азіралася ў ваш бок, то толькі як на перашкоду на дарозе. Уявіць яе пагарду вельмі цяжка, апісаць – амаль немагчыма. Ніяцкая – увасоблены гонар. Вось ты тут па калідоры ідзеш, а насустрач табе жанчына-карабель плыве на велічэзных шпільках, бляндыністыя валасы ў розныя бакі, гострыя дужкі акуляраў… Ідзе, цокае і варушыць з боку ў бок сваімі сьцёгнамі, сьцянутымі чорнаю спадніцай вышэй калена… Вагонь, полымя, ты супыняеш хаду, прыціскаешся да сьцяны, надрыўным галаском: “Добры дзень, Антаніна Вацлаўна…” А яна як ішла, так і пайшла сабе далей, нават не паглядзеўшы на цябе. Стаіш, хвалюесься і адчуваеш, як халаднеюць спатнелыя далоні.

У рэшце рэшт зь Ніяцкай перасталі вітацца і, калі здалёк чулі, што яна ідзе, стараліся зь ёю не перасекчыся. І аднойчы нейкім дзіўным днём яна прывяла свайго сына, падшыванца зь іракезам, уладкавала яго featuresнарабочым і раптам пачала вітацца і камунікаваць са сьветам, нават працягнула вітацца, калі яе сын праз тры тыдні сышоў з працы… Усе потым вырашылі, што Антаніне Вацлаўне цяжка даецца сацыялізацыя… Чаго ж вы хочаце, жанчына амаль усё жыцьцё працавала ў Гарвыканкаме.

А далей, з часам Ніяцкая вырашылася нават на шчырасьці са сваім асабістым бухгальтарам, распавяла, што марыць сустрэць багатага мужчыну… Бухгальтар, вядома, пра сябе пасьмяялася з дурной шасьцідзесяцігадовай бабы, а потым увечары, калі стаяла ў ванным пакоі і ўзважвалася пасьля фітнэсу, глядзела на сябе, дваццацітрохгадовую, і разважала, што шанцаў у Ніяцкай знайсьці багатага мужчыну, роўна як і ў яе, – як пашчасьціць, бо гэты сьвет багаты на абсурд.

## Сястра

Як бы ні адбываюцца ў сьвеце войны, прыродныя катаклізмы ці эпідэміі, усё адно прырост насельніцтва ідзе ў геамэтрычнай прагрэсіі. У адным месцы людзі паміраюць, у іншым іх нараджаецца ўдвая, а то і ўтрая больш. І кожны з нас мае калі ня брата ці сястру, то кузэна ці кузыну, калі ня кузэна ці кузыну, то дзядзьку альбо цётку… Выпадак Ніндзі не выключэньне, нават наадварот: такія людзі, як ён, маючы мільёны, раскіданыя па банках Эўропы, аточаны толькі сваякамі і вельмі набліжанымі сябрамі, якіх таксама акрамя як сваякамі й не назавеш. Бізнэс кіруецца сям'ёю, бізнэс перадаецца па сваяцтве, за бізнэс перажываюць адразу пяць буйных сямействаў, і патэнцыйнымі будучымі ўладальнікамі сэткі гатэляў лічацца адразу 22 хлопцы і 13 дзяўчат. Што тут скажаш, яны ў любым выпадку мусяць спачатку пасталець і дачакацца сьмерці ня толькі Ніндзі, але і ягонай сястры Хундзі.

Хундзя не кіруе гатэлямі і пра гатэльны бізнэс ведае столькі, колькі ёй дазваляюць набліжаныя да Ніндзі калегі і інвэстары. Такім чынам, Хундзя існуе дэ-юрэ, але дэ-факта яна з гэтым даўно не лічыцца.

Нам сказалі, што на тыдзень мусіць прыехаць сястра Ніндзі. Яна ні разу не была ў Менску, і нам трэба быць заўсёды падрыхтаванымі да нечаканасьцяў.

– Якіх нечаканасьцяў?!

– Ну, пані Хундзя можа ўкусіць, – прамовіла галоўны мэнэджар Міхаліна.

– Што?

– Кажу: пані Хундзя можа ўкусіць, таму не палохайцеся, зрабіце выгляд, што нічога не адбылося!

“Калі яна мяне ўкусіць, я выб’ю ёй зубы, і похуй на тое, што адбудзецца потым!”

– Скажыце, а яна не заразная? Калі кусаць будзе, нам зробяць уколы ад шаленства ці там ад “гатэльнай сямейнаклянавай хваробы”?

– Так, давайце бяз жартаў, я сур’ёзна… У нас, можна сказаць, у гатэлі па ўсіх сэкцыях, інстанцыях, нумарах і паверхах – ваеннае становішча, камэнданцкі час, бо калі для вас раней наш дзядуля падаваўся старым і злосным, то вы проста ня бачылі яго роднай сястры! Карацей, ахтунг! Усе сабраныя, пры парадзе і з усьмешкамі на тварах!

Хундзя прыляцела на сваім прыватным самалёце, акурат і проста зь Нью-Ёрку, дзе наведвала наш манхэтанскі гатэль і, без сумневаў, ябала пэрсанал усім, што траплялася пад руку… Яе адразу прывезьлі ў гатэль, і на руках, літаральна на руках – з двух бакоў, трымаючыся “пад ручкі”, павесіўшы на ахоўнікаў сваё маленькае, са сьпіны нібыта дзіцячае цела, – пані Хундзя паляцела празь лесьвіцы й паверхі ў прэзыдэнцкі нумар.

*Заўвага*. Калі Хундзя пад’ехала да гатэля, першае ейнае распараджэньне было: “Прыбраць з холу гатэля ўсіх людзей, пастаяльцаў, бэлбояў і з хостэсу пакінуць толькі адну дзяўчыну, але самую прыгожую,

і каб яна не высоўвался з-пад рэцэпцыі, пакуль я сама не папрашу”.

Такім чынам, пад рукі з двума СВАІМІ ахоўнікамі Хундзя праляцела, як прывід, амаль нікім не заўважаная, у свой нумар.

Другое распараджэньне: “Пакуль мая пэрсона будзе ў ванным пакоі, у нумар абавязкова прынесьці сьвежую садавіну, цёплы круасан і цёплае малако зь мёдам, але прынесьці так, каб я гэтага ня чула і нікога ня бачыла, бо мы хочам адпачываць у ванным пакоі”.

Варта дадаць, што Хундзі за дзевяноста, але выглядае яна на семдзесят. З кіпцюрамі драпежніка, вельмі хударлявая, ссушаная, як чарнасліў, як мумія. Ніхто не разумее, як магчыма такі прывід пакінуць сам-насам у ванным пакоі: захлынецца гэтая фашыстка – і што рабіць будзем? Што скажам Ніндзю, калі ўвесь пэрсанал гатэлю паставяць ва ўнутраным дворыку да сьценкі і ўсё, што застанецца апошняй карцінкаю перад сьмерцю, – руля аўтамата й чырвоны, налітыя злосьцю твар Ніндзі... ПОМСТА!

Раніца, ваза з садавіною была прынесеная, афіцыянтка пракралася па пухнатым паласавым пакрыцьці ў ваўняных зімовых шкарпэтках, ахоўнік басанож за ёю... Але яны не сышлі адразу, спыніліся каля дзьвярэй ваннага пакою, прыслухоўваюцца. РАПТАМ пачулася, як хтосьці плюхаецца ў вадзе.

ЖЫВАЯ!

Афіцыянтка і ахоўнік як пушынкі – з нумару ў калідор. А ў калідоры іх ужо чакае Міхаліна.

– ЖЫВАЯ! – разам адказваюць афіцыянтка і ахоўнік.

– Цудоўна, цяпер праз дзесяць хвілін нясем малако й мёд!

Хундзя памылася, выйшла з ванны, зьела банан, папіла малако, на круасан нават не паглядзела і абвясьціла, што зьбіраецца спаць гадзіну, але пакуль яна будзе спаць, ёй мусяць прынесьці першы сьняданак, але таксама каб яна нікога ня бачыла і ня чула.

Наперадзе цэлы тыдзень! Тыдзень! Самы сапраўдны тыдзень вар’яцтва!

Пасьля абеду Хундзя папрасіла да сябе ў нумар кухара, які гатаваў ёй ежу.

Усё, гамон, адразу паляцелі чуткі, што зьявілася першая ахвяра! Бедны кухар, бедны італіец! Такі цудоўны быў мужчына! Бедны Агусьціно Бальтасарэ!

Хундзя пабачыла кухара, павольна да яго падышла, ну як той курдупель Цахес, ну копія! Падышла яна да яго, узяла пад руку і наказала зрабіць ёй экскурсію па гатэлі!

Агусьціно працуе тут шэф-кухарам год, дасканала ведае нулявы паверх і ўсе свае тры кухні, але якая экскурсія па гатэлі? Італіец з дрыготкаю ў нагах папрасіў у дапамогу кагосьці з мэнэджараў. Хундзя паглядзела ў глыбокія цёмныя вочы мужчыны, наказала прывесьці ўсіх мэнэджараў і, акінуўшы кожную і кожнага вокам, абрала Юлію Цімафееўну – мэнэджара спа-цэнтру. І да самай позьняй ночы гэтая бабулечка цягала змарнелых супрацоўнікаў па нумарох і паверхах, зазірала ў пакоі для пэрсаналу, паўсюль совала свой стары нос, праводзіла пальцамі па сьценках і парэнчах, шукала пыл і бруд, нават здолела нагою адкалупнуць плітку на падлозе і на першым паверсе расшатаць, як стары зуб, правую парэнчу каля выхаду з гатэля. Хундзя на ўсё скрадзілася, усё крытыкавала, была незадаволеная да скрайняй ступені,

хадзіла з кіслым тварам, на якім і да скрыўленьня была процьма зморшчынак, а пасьля незадаволенасьці і ўвогуле твар быў падобны да кары дрэва.

Пані Хундзя была абураная ўсім на сьвеце. Хваліла толькі шэфа Агусьціно – і ўсё. Сапраўды, больш нікога яна не любіла і гатэль называла “дзяшоўкай”.

Пад самы вечар пані Хундзі захацелася зрабіць прычоску на сваёй лысай галаве, дзе на макаўцы тырчэла роўна шэсць кароткіх валаскоў. Прынесьлі яе ў салён. Праз дваццаць хвілін усе мусілі ўжо зачыняцца. Хундзя, вядома, забараніла. Віталю не пашчасьціла, як ён ні маліўся ўсім багам сьвету, каб сёньня ніякія Хундзі не завіталі, а заўтра – хоць Армагедон, бо ў яго два дні выходных. Менавіта калі ён ужо быў упэўнены, што дзень заканчваецца як мае быць, лёс не прымусіў доўга сябе чакаць.

Віталь спрабаваў памыць гэтае непаразуменьне, дакладней – старэчую галаву ў мойцы… Хундзя напаўляжаланапаўсядзела нейкім чынам на правы бок, рукі моцна сьціснула ў кулакі, ды так, што з-пад аднаго пазногця ішла кроў… Галава яе дрыгалася кожныя тры сэкунды, вада праз гэта зацякала ёй за сьпіну, яна ненавідзела Віталя… Яна ненавідзела Віталя і тады, калі ён спрабаваў зрабіць укладку на яе кароткі старэчы пух. Укладка не атрымалася… Хундзя, як дзіцёнак, споўзшы з крэсла, дала сябе аднесьці з салёна, нічога не сказаўшы…

Мінуў першы дзень… Наперадзе яшчэ шэсьць сьвятых дзён супрацьстаяньня, блякады…

На наступны дзень усе ведалі, што Хундзя ў сваім нумары ноччу крычала пра гатэль, пра тое, што ён гаўно, усё разбоўтанае, пэрсанал некваліфікаваны, мэбля ў нумарох недарэчная, прыбіраюцца кепска, садавіна нясмачная, вада

ліецца ў ванным пакоі жорсткая і з хлоркаю. Ніндзя ўсе моўчкі слухаў, слухаў,назіраў і нават не ўсьміхаўся… І ў гатэлі ўжо пачалі верыць у тое, што Хундзя мае сур'ёзную вагу перад Ніндзем і што палова працаўнікоў дакладна паляціць праз адчыненыя наросхрыст дзьверы проста на вуліцу.

Усе астатнія шэсьць дзён Хундзя ныла і скуголіла, вонкі не выходзіла, бо ёй было халодна і не падабалася, як выглядаюць людзі навокал… І нарэшце зьехала, і ўсё супакоілася… Ніндзя павесялеў, ізноў беларускіх прастытутак замовіў на вечар, шчасьце прыйшло ў гатэль, і ўсе засталіся жывымі, бо, як сказаў па сакрэце самы блізкі сябра Ніндзі Асамкацін мэнэджару Міхаліне, калі яны сядзелі ў холе: “Ніндзя ненавідзіць сваю старэйшую сястру зь дзяцінства, лічыць яе тупой скацінай, якая яшчэ ў школе зь яго зьдзеквалася, і яна ня мае ніякага дачыненьня да яго бізнэсу, акрамя як сваяцтва, таму Ніндзя яе проста моўчкі слухае і чакае, калі тая нарэшце зьедзе ў Нью-Ёрк, у гатэль, які ён ёй падарыў. Ты разумееш, Міхаліна, што збольшага яна так сябе наўмысна паводзіць, ёй хочацца мець вагу ў грамадзтве, а Ніндзя гэта добра разумее і таму маўчыць, каб яна нарэшце праз сваю злосьць атрымала сьмяротны ўдар”.

Міхаліна нічога не адказала. Яна была проста радая, што ўсё закончылася.

## Дзяўчына

У гатэлі пэрыядычна зьяўляюцца новыя працаўнікі. Незаплянаваныя працаўнікі. Напрыклад, у адным сэгмэнце гатэля кагосьці скарачаюць, бо невыгодна трымаць некалькі чалавек, а ў іншым дадаюць працаўнікоў, якія нікому не патрэбныя… Зараз патлумачу: у сяброў Ніндзі, як і ў самога Ніндзі, пэрыядычна зьяўляюцца бабы, якіх трэба ўладкоўваць на працу з розных чыньнікаў: калі самі бабы просяць, калі дзеля зручнасьці, каб вольная похва заўсёды была дасяжнаю ў гатэлі. Вядома, гатэль не гумовы, таму, скажам, звальняюць аднаго працаўніка з хостэсу і наймаюць бабу ў офіс, каб насіць раздрукоўкі й факсы з аднаго кабінэта ў другі… Гэта таксама далёка не эўрапэйскі стандарт працы! Але ў дадзеным апавяданьні мы зьвернемся да канкрэтнага выпадку, які значна паварушыў працоўныя масы – ад самых аддаленых курылак і да галоўнай залі з рэцэпцыяй і чакальняй для кліентаў.

На месца барыста паставілі нейкую дзяўчыну. Барыстаў хапае, іх нават зашмат, таму адну зь іх зрабілі афіцыянткай, праз што тая вельмі моцна злавалася й мацюкалася, седзячы на абадранай канапе на курылцы пад навесам. Новую дзяўчыну звалі Оля, і яна – фантан. Самы сапраўдны антрапаморфны фантан словаў, сказаў і плётак. Яна як прыйшла ў першы ж дзень на курылку, дастала свой пяты Айфон, зацягнулася тонкай сігарылкай – і давай

дзьмуць у вушы двум афіцыянтам і інжынэру пра тое, хто яна такая і адкуль яе дасталі, то-бок дзе яе знайшлі і навошта яна ўвогуле тут знаходзіцца.

Вось падрабязнасьці яе аповеду.

Оля, менавіта толькі Оля, бо яна сама з Піцера, там нарадзілася, але бацька – ваенны і, на вялікі жаль і праз жыцьцёвыя пакуты, яна захрасла тут. Бацькоў яна ня любіць, яны яе дасталі, яшчэ калі ёй было трынаццаць, таму, пачынаючы з чатырнаццаці, Оля жыве як малое цыганё: з хаты ў хату, з кватэры ў кватэру… Знаходзіцца ў пошуках адзінага й каханага, але пакуль што беспасьпяхова. На працу яна трапіла, бо сказала Асамкаціну, сябру Ніндзі, што ёй патрэбная праца, пяты айфон і заробак 2000$. І што вы думаеце?! Яна ўсё гэта атрымала. І, вядома, атрымала не праз тое, што вельмі моцна хацела й папрасіла. У дадзеным выпадку абставіны склаліся на яе карысьць, дзяўчыне, так бы мовіць, пашчасьціла, з аднаго боку, а зь іншага – Оля тая яшчэ піцерская “штучка”.

Олі на дадзены момант шаснаццаць, па пашпарце, але яна выглядае дарослай жанчынай год дваццаці пяці, ня першай сьвежасьці. Яна курыць, мацюкаецца й злоўжывае алькаголем. Прыехала Оля аднойчы мэтанакіравана ў гатэль, села на бары – беспасьпяхова, перабралася ў рэстарацыю – з тым жа вынікам, пад вечар перасунулася на самы апошні паверх, у клюб, і вось яно – шчасьце.

Олю прыкмеціў Асамкацін, запрасіў за стол на кактэйль і больш…

З нумару Асамкаціна Оля не высоўвалася вонкі тры дні, спала, нежылася, як котка, ела ўдосталь, плянавала… на чацьверы дзень ужо самому Асамкаціну абрыдла яе бачыць, ня тое каб піліць. Устаў ён з ложка і сказаў, каб зьбіралася й ішла полем і лесам адсюль, і няхай возьме сабе падарунак –

жаночы гадзіньнік з карункавымі стрэлкамі і яшчэ 1000$, так, на547 кактэйлі й сукенку.

Оля, вядома, ня гэтага чакала. Яна моўчкі паднялася, усьміхнулася, палезла ў сваю дамскую сумачку, дастала адтуль пашпарт і падставіла разгорнутай старонка пад тоўсты нос Асамкаціну. Дата нараджэньня: 3.03.1999.

– Ёб тваю маць!

– Ты маю маці не чапай, даражэнькі, я тут уся напампаваная тваёй спэрмаю, нават какаю ёю… так што альбо мае ўмовы – і ты да мяне ставісься культурна, альбо міліцыя і заява – і гатэлю пізда! – прамовіла Оля спакойна, ведаючы, пра што кажа.

Кожны да сваіх мараў і жыцьцёвых плянаў рухаецца па-свойму, але ня ў кожнага ў шаснаццаць год хопіць мазгоў зьдзейсьніць такое.

Оля працавала тры месяцы, націўкала пра свой посьпех усім навокал, яе некаторыя супрацоўнікі нават паважаць пачалі.

Аднойчы, пасьля трэцяга заробку, Оля не прыйшла на працу. Усе падумалі, можа, загуляла… Але Оля ўвогуле больш не зьявілася ў гатэлі.

## Кухарка

Кожны гатэль, абсалютна кожны, корміць пэрсанал самастойна, але ўсе адрозьніваюцца падыходам да гэтага працэсу. Ёсьць гатэлі, якія выдаюць за зьмену паёк, ёсьць гатэлі з раскладам сьняданка, абеда й вячэры, ёсьць гатэлі са сваёй прыватнай сталоўкай і кухарам, і ў апошнім выпадку справа толькі за прынцыпам: платна выдаваць ежу або бясплатна… Большасьць прыстойных гатэляў кормяць сваіх бясплатна, і такія гатэлі лічацца найлепшымі ня толькі сярод працаўнікоў, але й кліентаў, дзе, акрамя сваёй сталоўкі, ёсьць ня толькі бясплатныя абед і вячэра са сьняданкам, але й свой кухар, то-бок ежа не даходзіць да працаўнікоў рэшткамі са швэдзкіх сталоў альбо ў выглядзе астылага кантынэнтальнага сьняданка на абед.

Звычайна кухараў бяруць з каледжаў, і ад іх не патрабуюць высокага палёту. Яны павінныя стандартна гатаваць тое, чаму навучаныя. Вядома, яны падпрацоўваюць памагатымі на кухні шэфаў, але асноўны працоўны час праводзяць сярод вялікіх рондаляў і тлустых жароўняў.

Стандартная ежа для пэрсаналу вельмі простая: макароны, катлета, салата, часам замест катлеты філе рыбы, калі ўсё кепска – вараныя сардэлькі, замест макаронаў можа аказацца бульбяная каша. Салаты амаль заўсёды патрабуюць заставацца лепшымі: кіслая капуста альбо вараныя буракі пад маянэзам. Зразумела, ніхто ня скардзіцца

на бясплатную ежу, але вось у чым цымус. Калі ў сталоўцы зьяўляюцца туркі – а есьці яны ходзяць у той жа час, што й беларусы, але заўсёды зьбіраюцца вялікай кампаніяй, – кудысьці зьнікаюць танныя сардэлькі і макароны, бо туркам заўсёды накладваюць кашэрнае мусульманскае: тушаную ялавічыну, нейкую ўсходнюю кашу… Усе паглядаюць на іх талеркі з зайздрасьцю, нават на кароткі тэрмін хочацца таксама апынуцца туркам, каб пакаштаваць, чым яны насычаюцца.

Зразумела, што калі б у сталоўцы абедаў дырэктар і ўвесь кіруючы галоўны пэрсанал, сталоўка падавала б іншыя стравы, і штосьці было б за грошы, гэта дакладна, але калі нічога асаблівага няма і прапанаваць ніхто няздольны, усё, на што разьлічваеш, накіроўваючыся падсілкавацца, гэта культура. Ад кухара, які таксама і на раздачы, залежаць галоўныя прынцыпы твайго насычэньня. Бо калі кухар падае табе талерку з першым і другім, ты не чакаеш выкшталцонага смаку ежы, але чакаеш сяброўскай усьмешкі, прыязнага стаўленьня, бо калі ўсё кепска з харчамі – няхай хоць будзе сьветла на душы.

У гатэлі ўсе любяць хадзіць у сталоўку на выходных, бо на раздачы звычайна хто-небудзь з пасудамоек, а гатуе хтосьці з галоўных памагатых шэфа, таму і ежа больш разнастайная, і цёплай выглядае, і колер у яе больш вясёлы, дый пасудамойкі шчырыя і накладаюць ад душы, усьміхаюцца і лёгка могуць запакаваць абед з сабою, для кагосьці з пэрсаналу, хто праз сваю працу не пасьпявае зазірнуць паесьці з 12:00 да 14:00. Выходныя мінаюць хутчэй, і выходныя не пакідаць пасьля сябе кепскага асадку, як у працоўны дзень, а ўсё менавіта праз кухарку, якая працуе галоўнай і адказнай за ежу для калегаў.

Лідзія Мікалаеўна, альбо проста Лідзія, маладая прыгожая жанчына з кароткай фрызурай, чорнымі валасамі і прыўкраснымі чорнымі вачыма, глыбокімі, яскравымі, чароўнымі. Як толькі яна прыйшла працаваць, усе мужчыны танчылі перад ёю: “Дзякуй за смакату, прыгажунька!”, “Дзякуй, гаспадынька!”, “Вялікі дзякуй…”

Лідзія гатавала, як звычайна, як усе абвыклі: катлета, макароны, капуста, суп, кампот… Але якія ў яе прыгожыя вочы, якая яна стрыйнюткая, здаецца, яна цябе зараз абдыме і пацалуе… Усе вар’яцелі, а Лідзія на падзякі толькі галавою ківала і ўздыхала, паказваючы, што цяжка працуе: вакол рондалі па пяцьдзясят літраў супа, бідоны з кампотам, мэтровыя жароўні з катлетамі, а яна – прынцэса сталоўкі.

Першыя месяцы Лідзія толькі вочкамі хлопала, чакала дня, калі падпіша кантракт і ў яе зьявяцца пэўныя гарантыі застацца на працы. І такі дзень настаў. Сваю дамову падраду яна выкінула ў сьметніцу і дома ў тэчку з дакументамі схавала кантракт на год: цяпер яе проста так не выганяць.

І на наступны дзень усё зьмянілася. Адзін з працаўнікоў бару прыйшоў першым у сталоўку, папрасіў сабе порцыю і яшчэ тры з сабою…

– Я тут вам што, абавязаная навальваць ежу з сабою, калі ў мяне чарга?! – абурылася Лідзія голасам далёкім ад прыгажосьці яе вачэй.

– Тут няма чаргі, і я бяру для сваіх, хто ня можа падысьці ў гэты час на абед!

– Бляха, як мяне вы ўсе дасталі! – і Лідзія ляпнула па рондалі з макаронамі раздатачнай лыжкаю, тая адляцела ўбок і раскідала колькі макарошак па іншых стравах. – Бляха!... – паўтарыла кухарка.

Празь некалькі тыдняў ужо ніхто нічога не казаў у сталоўцы, не было чуваць словаў падзякі і вітаньня, Лідзія зрабілася злоснай жанчынаю, якая не адпускала ежу з сабою, і калегі пачалі заўважаць, што кіслая капуста ў панядзелак, якую ніхто ня еў, бо тая на смак была як ссакі, на наступны дзень ператваралася ў такі ж нясмачны суп… На просьбу хутчэй пакласьці ежу, яна магла падняцца са стала, з-за якога цяпер не выходзіла і толькі ела, і сказаць: “Я таксама маю права на абед, вмежду прочым!”

Хамка, непрыемная жанчына, і бляск ейных вачэй цяпер не выглядаў прывабным, і нават мініяцюрнасьць цела здавалася гномскай, і маленькія пальчыкі цяпер выглядалі звычайнымі зваранымі сардэлькамі.

## Адміністратары

Адміністратар – гэта праца, альбо скажам так – працоўная адзінка, якую часта не заўважаюць у гатэлі. Так, адміністратар – твар прадпрыемства, гатэля, салёна і любога фітнэса, але ў той жа час, калі няма адміністратара, любы іншы супрацоўнік можа яго замяніць, бо адукацыі, каб адказаць на званок, мэйл альбо пагутарыць з замоўцам ці кліентам, ня трэба, тым болей прабіць чэк на касе. Замяніць бармэна цяжэй, замяніць хостэс-пэрсанал нашмат цяжэй, ніж адміністратара, таму на гэтую, так бы мовіць, пасаду прыходзяць дзяўчаты, якім трэба неяк заняць вольны час між лекцыямі і плянамі на будучыню. Я ня ведаю ніводнага адміністратара, які б мэтанакіравана ішоў працаваць адміністратарам, добра разумеючы, што гэта і дзеля чаго, акрамя, магчыма, Юліі Цімафееўны, якая ведала, што будзе мэнэджарам спа толькі пасьля таго, як адпрацуе адміністратарам добра і якасна колькі год.

Без адміна ўсе працуюць такім жа чынам, як і зь ім, гэта калі мы ня ўлічваем маладых спэцыялістаў.

Сярод адміністратараў сустракаюцца кардынальна розныя асобы, пачынаючы ад зусім дурных і недалёкіх, якія з нацяжкаю скончылі дзевяць клясаў і, ня ведаючы, што рабіць, чакаюць, калі іх хлопцы вернуцца з войскаў і яны будуць нарэшце сядзець дома і варыць баршчы, і заканчваючы

таленавітымі дзяўчатамі, якія сьпяваюць у барах у вольны час, вучацца завочна на праграмістаў і мараць жыць у Парыжы. Гэты кантраст уражвае, і дзяўчаты, калі ты на адным месцы працуеш даволі доўга, вельмі хутка зьмяняюць адна адну перад тваімі вачыма.

Вось у гэтым годзе ўсё лета запар адпрацавала Кацярына, пякельная дзяўчына, нарадзіла прыгожую дачку, цяпер жадае зь верасьня вярнуцца ва ўнівэрсытэт. Муж у яе ня вельмі прыгожы, затое заможны, сама яна брунэтка, любіць успамінаць тыя часы, калі зь сяброўкамі хадзіла ў Журавінку, круціла хвастом і забаўлялася… Цяпер вось адміністратарам працуе і заўсёды трымае на працоўным месцы пітны ёгурт… ой, прабачце, гэта ж ня пітны ёгурт, гэта ж “Блэк лэйбл” зь яблычным сокам. Кацярына, вы хітрая ліса! “Ды ну вас, шаноўны, хадземце, і вам крыху “гарбаткі” з бачачкі налью”.

А была іншая дзяўчына Ніна. Бацька ў яе зь Індыі, багаты вельмі, ня даў Ніне вучыцца, адразу сказаў, каб пайшла працаваць адміністратарам, бо ён для яе набыў цырульню – гэта падарунак на дваццаціаднагодзьдзе – і падорыць ёй праз паўгады, няхай набіраецца досьведу кіраваць пэрсаналам. Ніна была такая тупая, сур’ёзна, яна была зусім пустая… глядзела, калі ёй здавалася, што ніхто ня бачыць, “Дом 2”, перапісвалася са сваім хлопцам, які, дарэчы, нідзе не працуе, але месяц таму набыў новы джып… Аднойчы з нумару ў спа спусьціўся малады немец і пачаў ёй тлумачыць на ангельскай, з акцэнтам, што ў яго пад правым вокам, вось, бачыце – фінгал з талерку, і яму яго трэба нечым замазаць, можа ў каго з касмэтолягаў ёсьць танальны крэм? “Альбо ў вас, паважаная? Бо я толькі што прачнуўся

пасьля п’янкі, нягожа так вось ісьці ў горад!” Ніна доўга на яго глядзела і сачыла за яго рукамі, як ён кранае вока і лоб… і запыталася: “Я не разумею, вы хочаце, каб касмэтоляг вышчыпаў вам бровы?”

Марынка была жвавою дзяўчынкай, на месцы не сядзела, гарэла, палала, кудысьці вечна бегла… Тэлефон у яе званіў суткі навылёт, яна пэрманэнтна перапісвалася з хлопцамі ў “кантакце” і “аднакласніках”, на “гэамэрыі” шукала свае фоткі, на працу часта спазьнялася альбо ўвогуле не прыходзіла, мела плянаў на будучыню – нуль, не вучылася, але марыла пра майбах і клёвага пацана. Зразумела, што Марынка ў гатэлі была яскраваю зоркаю і зьзяла роўна месяц. Але як! Зьзяла яна прыўкрасна: запарола ўезд тром кліентам, на спа няправільна запісала сямейную пару з Масквы на малочную ванну, тыя прыехалі – і аблом… Карацей, Марынка хутка зьнікла з далягляду і цяпер час ад часу трапляецца некаторым былым калегам у сацыяльных сэтках: вось яна на party in «Дозари», вось яна на afterparty зь нейкім чорным мужчынам на open-air near «Юность»…

Амаль шэсьць месяцаў на пасадзе адміністратара працавала Сьняжана, і трэба сказаць, што так доўга тут яшчэ ніхто не працаваў. Сьняжана была дзелавою дзяўчынаю, такой дзелавою, што яе дзелавітасьць занадта выпірала, і гэта я не пра грудзі, але пра ейны носік, які цікавіўся ўсім, што адбывалася вакол і ня толькі ў межах яе працы. Сьняжана жыла з мужчынам, які быў у паўтара разы старэйшы за яе і працаваў у кдб. Вядома, дзяўчына, якой стукнула дваццаць адзін і якая прыехала з Мядзеля вучыцца, сустрэўшы такога крутога мужыка, цьвярозым рашэньнем кінула вучобу й

пайшла працаваць. Усё! Ахтунг усім – я дарослая! Сьняжана пачала паўтараць за сваім мужчынам узор паводзінаў і пралічылася. Мужчына яе зусім не цаніў, часта не прыяжджаў ночыць, некалькі разоў выганяў яе з дому… Тая, у сваю чаргу, на працы спрабавала адносіцца да сваіх калег так, як да яе ставіцца кэдэбэшнік – дамінаваць і прыніжаць… Але ня доўга. Неяк яна абразіла і паслала супрацоўніка толькі таму, што гутарыла са сваім мужыком па мабілцы, а той хацеў заняць яе месца перад кампом. Абразіла яго моцна і пры сьведках. На наступны дзень Міхаліна вырашыла яе звольніць, бо гэта была ўжо пятая скарга на некампэтэнтнасьць Сьняжаны. Тая не разгубілася і пайшла да Гнюсэля абражаць і выстаўляць дурнямі Міхаліну, Юлію Цімафееўну і ўвесь пэрсанал хостэсу разам з хостэс-кіраўнікам Ігарам Раманавічам. Але Гнюсэль таксама ня просты чалавек, ён яе выслухаў і сказаў: “Я не разумею, ты толькі што заклала ўсіх сваіх калегаў, выставіла іх усіх ідыётамі і хочаш, каб я вярнуў цябе на працу? Ты звар’яцела, ці што?! Прэч адсюль!”

Гэты прамежкавы тэрмін, гэтая незразумелая пасада… Нават нягледзячы ні на што, большасьць з адміністратараў была вельмі пазытыўнай, шчырай і вясёлай. Шмат хто зь іх проста так руйнаваў расейскія словы, прамаўляючы іх на беларускі лад альбо ўвогуле замяняў. І гэта не выпадкова… Большасьць гатэльных працаўнікоў часта ўжывае беларускія словы, калі жартуюць альбо калі гутараць адно з адным, і гэта зьяўляецца яскравым прыкладам таго, што, калі беларус трапляе ў разнастайнае нацыянальнае асяродзьдзе, ён падсьвядома спрабуе адасобіць сябе ад астатніх, вылучыць сваю адметнасьць. Гэта цікава назіраць, бо такога я больш нідзе яшчэ ня бачыў.

Тры месяцы адміністратарам працавала цудоўная Мілена. Яна мела прыўкрасны голас і курчавыя валасы і на выходных заўсёды сьпявала ў якім менскім клюбе ці бары. Мілена ўся, ад каранёў валасоў да кончыкаў пальцаў, была француженкаю: мяккія дотыкі, аксамітны голас, кашэчая хада. Ніколі не было чутна, што яна ідзе, ніколі не было чутна, як яна павярнулася альбо паварушыла рукою, – усё плаўна, мякка, танютка… І сьпявала яна, як анёл, і толькі джаз. Мілена руйнавала стэрэатып беларускай дзяўчыны для туркаў, яна была сама далікатнасьць, але недасяжная, як зорка Плутон. Ды й праца ёй не пасавала, усе пыталіся, навошта ты прыйшла сюды? Мілена адказвала, што жыццёвы шлях сам накіраваў яе сюды дзеля чагосьці, а чаго – яна ня ведае.

Больш за ўсіх астатніх адміністратараў вылучалася сваёй адмеcтнасьцю, сваімі прыўкраснымі формамі, белымі валасамі і шырокімі блакітнымі валасамі Воля, якая зь першага ж погляду выклікала жаданьне, юр, смагу. Воля гэта ведала і ўдала карысталася гэтым, яе ўсьмешка, нават ненаўмысная, прыводзіла ў стан ступару любога… На вялікі жаль, бедная Воля ня ведала, куды прыйшла працаваць… Ня ведала, што трапіла ў гатэль, у якім па-над усім пануе мужчынскі дыктат. Аднойчы да яе прычапіўся нейкі албанец. Так да яе і гэтак, і пад’яжджае, і падыходзіць, і падпаўзае. А трэба дадаць, што Воля, як сапраўдная беларуска, славяначка, верная свайму каханаму… І ня тое што тэлефон албанцу не давала, нават слухаць да канца ня мела ніякага жаданьня, і толькі вачыма хлоп-хлоп! І бедны албанец на падлозе валяецца непрытомны – джаліць яго ў самае сэрца. Як гэта ні кепска будзе выяўляць албанца, але той сам сябе такім выставіў – крывадушнікам і людажэрам.

Албанец узяў і накіраваўся да дырэктара гатэлю і накапаў таму, што ў ягоным гатэлі працуе, у хостэсе, на рэцэпцыі, сука тая яшчэ, абразіла яго, выставіла лайном непадцертым перад іншымі мужчынамі і кліентамі гатэлю, не дала, падла, тэлефон і нават знаёміцца не пажадала, што ж гэта за гасьціннасьць?! Гнюсэль доўга не разважаў, палічыў, колькі гэты албанец плоціць за нумар, даведаўся, колькі той спусьціў даляраў за ноч у казыно і за хвіліну, адным тэлефонным званком выгнаў Волю з працы… якая, у гонар будзе ёй сказана, праз тыдзень ужо працавала галоўным мэнэджарам вэлнэс-клюба на суседняй з гатэлем вуліцы і, калі б да яе завітаў той жа албанец, нават не разважаючы, адарвала б яму ўсё, што й заплянавала адарваць дзеля помсты.

## Здароўе

Ніндзя зьехаў на выспу, Гнюсэль лёг у бальніцу, дзеля прафіляктыкі, Асамкацін зьехаў пагрэцца на Балі… У гатэлі лунае свабода, свавольства і бачна, што людзі ўсьміхаюцца і працуюць у сваё задавальненьне. За ўсё адказвае Міхаліна, а зь ёю кожны працоўны дзень – як сьвята.

Усе раптоўна паразьяжджаліся, бо зь Ніндзем здарыўся ўдар. Адным вечарам яго забралі ў бальніцу на хуткай, а потым у гатэлі ён зьявіўся толькі праз два месяцы, дакладней – зьявілася цень ад Ніндзі: яго правезьлі на каталцы ў напаўляжачым стане праз цэнтральны хол і паднялі на ліфце ў свае карункавыя пакоі. Тое, як ён выглядаў, ні ў кога не выклікала сумневу, што гэта проста абалонка ад чалавека, бо Ніндзя дакладна памёр.

Дырэктар міжнароднай сэткі гатэляў адмовіўся вяртацца дамоў, адмовіўся ехаць да сям’і, сказаў, каб яго цела перавезлі ў гатэль, ён хоча быць бліжэй да маладосьці, хоча адчуць, хоць і ў апошні раз, свой статус “босфрэнда”, як ён любіў казаць у мінулыя часы, калі ішоў падскокваючы за чарговай дзяўчынкай: “Хочаш, каб я быў тваім босфрэндам, дарагая? Гэта зараз модна сярод дзяўчат! Я буду рабіць кожны дзень табе падарункі, глядзі, зараз у маёй руцэ гадзіньнікі…” Ну як тут не спыніцца, не зірнуць хаця б на падарунак… Босфрэнд!

На жаль, час ідзе, і гэта – удар, а потым сьмерць – мусіла б быць лягічным завяршэньнем і так звышяскравага і багатага жыцьця… Але Ніндзю прывезьлі ў ягоны нумар, ён там паспаў, паляжаў пад кропельніцай і наступным вечарам напаўляжаў на сваёй каталцы ў бары і ў вачах ягоных іскрыла і бляск ішоў такі, што любому станавілася зразумела: гэты чалавек так проста ня сыдзе, ён закаханы ў жыцьцё, у свае грошы і беларускіх дзяўчат, ён зробіць усё, каб падоўжыць сваё існаваньне яшчэ на колькі год. І надышоў дзень, калі Ніндзя сказаў, што хоча дадому… усе гэта зразумелі як апошняе жаданьне чалавека, які ўжо шчыльна наблізіўся да сьмерці, але Гнюсэль падазрона зьехаў на лячэньне і самы блізкі сябра Асамкацін зьляцеў… Тое, што Ніндзя едзе ў нейкую сакрэтную клініку, ведалі толькі гэтыя двое мужчын, таму ў гатэлі кожны дзень усе чакалі, калі абвесьцяць траўр па памерлым гаспадары. Але траўр ніхто не абвяшчаў, ішлі тыдні… Вось прыехалі Гнюсэль – бадзёры і расчырванелы, Асамкацін – загарэлы да карычневай корачкі і патаўсьцелы яшчэ на пяць кіляграмаў…

Гатэль вярнуўся ў свой звычайны працоўны стан: фірмовая ўсьмешка на рэцэпцыі, шчырыя афіцыянты, бадзёры абслугоўваючы пэрсанал.

Мінула пяць месяцаў, у гатэлі ўжо абвыклі жыць безь дзядулі, як раптам ягоны самалёт нечакана прызямліўся ў аэрапорце Мінск–1.

Міхаліна на курылцы сказала, што едзе Ніндзя, і ўсе пачалі яго чакаць, уяўляючы, як гэтае старое цела з кропельніцамі й пад пледамі прывязуць у ягоны нумар, як трэба будзе за ім даглядаць… Відаць, месцам сьмерці Ніндзя абраў менскі гатэль, ну нічога, хоць чымсьці будзем вядомыя ў сьвеце.

Машына пад’ехала да цэнтральнага ўваходу, дзьверы адчыніліся і на ходнік скокнуў стары мужчына, выгладам каля

сямідзесяці, жвавы, усьмешка на ўвесь твар, зубы новыя, нават валасы на патыліцы зьявіліся, цёмныя… Ніндзя скінуў колькі кіляграмаў і каля двух дзясяткаў год, ружовашчокі, сьвежы, нават ніколі б і не сказаў ніхто, што гэты трухлявы пянёк паўгода таму на сваім васьмідзесяцішасьцігодзьдзі атрымаў абшырны ўдар і ляжаў гароднінай…

Ніндзя празь дзьве прыступкі ўляцеў у гатэль, сказаў ахоўнікам, што ідзе ў нумар – душ, пераапрануцца – і пасьля хоча есьці і бачыць перад сабою дырэктара і ўсіх мэнэджараў, пачынаючы ад спа і заканчваючы рэстарацыямі, барамі й казыно.

Людзі пачалі цікавіцца, бо, як вядома, за любым цудам стаіць шэраг падзеяў і крокаў, якія робяць цудам штосьці звычайнае. Адзін з праграмістаў адшукаў інфармацыю, прычым даволі таямнічым шляхам, што Ніндзя, як і іншыя мільярдэры ў сьвеце, маючы грошы, ня толькі кіруюць папуляцыяй сьвету праз вакцыны, як Біл Гейтс, але ім даступны ўсе супэрмэдычныя рэчы і экспэрымэнтальныя пігулкі, пра якія звычайныя сьмяротныя ніколі не даведаюцца. Праграміст распавёў на курылцы, што, магчыма, Ніндзя прайшоў ня проста нейкі ўзмоцнены курс тэрапіі ствалавымі клеткамі, магчыма, прэзыдэнт сеткі гатэляў скарыстаўся апэрацыямі па перасадцы органаў, бо гэткім чынам нашмат хутчэй стаць на ногі. Сярод пэрсаналу дакладна лічаць, што сэрца ён сабе памяняў, бо столькі віягры можа вытрымаць толькі маладое юнацкае сэрца.

## Касмэтоляг

Касмэтоляг на прозьвішча Чайкоўская ў гатэлі самая папулярная, нягледзячы на тое, што працуе ў штаце зь яшчэ трыма спэцыялістамі. Чайкоўская стаіць асобна ад сваіх калегаў выглядам і стаўленьнем да жыцьця. Чайкоўская – за сьпінай яе празвалі Гадзіла – самая сапраўдная хвароба й перабольшаньне ўва ўсіх сэнсах гэтых словаў, калі пытаньне датычыць ботэксу. Колькі разоў яна не зьяўлялася на карпаратывах – на ўсіх групавых і асобных фотаздымках яна выглядае як сьмерць, выглядае як прыклад таго, што НЕЛЬГА РАБІЦЬ СА СВАІМ ТВАРАМ! Гэта ніякім чынам не спалучаецца зь яе прафэсіяй, бо яна мусіць рабіць людзям чыстыя і прыгожыя твары, аднак замест гэтага спакушае ўсіх на тое, каб пакалоць лоб, бо зморшчынкі на ім, альбо запампаваць колькі спэцвадкасьці ў верхнюю губу. Чайкоўскую шчыра ўсім шкада. Нават калі яна праглядае фоткі ад гатэльнага фатографа праз унутраную рассылку для працаўнікоў, так бы мовіць справаздачу па тым, як адарваліся на агульнай п’янцы і дзе яна сапраўды здольная напужаць каго заўгодна, толькі прамаўляе, скрушна так: “Ну я ж казала, што мяне трэба фоткаць бяз выбліску!”

Гэтае абсурднае стаўленьне да сваёй зьнешнасьці: скура па краёх вачэй нацягнутая такім чынам, што нават калі Чайкоўскую асьляпляюць падчас фотаздымка, яна застаецца з напаўрасплюшчанымі вачыма, альбо яе вусны –

гэта асобныя выспы, якія захрасьлі ў возеры ботэкса, які падцягвае скулы і робіць іх гэамэтрычнымі… верхняя губа – апошні віскат (ну праўда што!) моды – заячая… грудзі, Бог мой! Грудзі – два вялікіх баскетбольных мяча!

І як бы Чайкоўская ні імкнулася падцягнуць скуру ў свае пяцьдзясят два гады, яе выдаюць старыя рукі…

Чайкоўскую напэўна шкадавалі б і добра да яе ставіліся б, калі б тая сама супраць сябе не паставіла людзей, і, нягледзячы на тое, што працуе яна шмат і кожны дзень у яе “пад завязку”, гэта ўсё кажа толькі пра тое, што сучаснасьць стварыла з жанчын тупых кароў, якія прыходзяць у гатэльны спа і сядзяць у чэргах, каб зрабіць не, ня пілінг і не амаладжальную маску, але адразу ўколы ў патрэбныя месцы. І тут я не кажу ўжо пра ўзрост, на які можна ставіць зьніжку праз маразм альбо яшчэ штосьці, я тут кажу пра маладых авечак, якім у сярэднім ад дзевятнаццаці да дваццаці пяці і якія, аднойчы трапіўшы на чыстку свайго юнацкага твару, патрапілі пад уплыў гэтай далёка не музычнай жанчыны.

– Ой! А што ж гэта ў вас з вуснамі, даражэнькая, зусім танюткія, бледныя і збоку нават нябачныя… Так ня пойдзе, трэба вам прыгожанькай быць, жаніха багатага знайсьці… А вось яшчэ, вось самі паглядзіце ў люстэрка… Бачыце – на лобе ажно тры гарызантальныя складкі! Гэта жах! – і Чайкоўская кладзе дзяўчо на мэдычны ложак, дастае аднаразовы шпрыц і заганяе спачатку ў лоб, а потым у верхнюю губу прывабнай, нават пякучай дзяўчыне стандартныя кубікі ботэксу… І вось праз некалькі сэансаў дзяўчо можа ісьці па вуліцы і вам падасца, што вы зь ёю знаёмыя, але насамрэч усё тлумачыцца тым, што Чайкоўская, як і большасьць такіх касмэтолягаў, коляць твар аднолькавым чынам і надаюць усім аднолькавыя рысы, і рысы гэтыя называюцца моднымі.

Да прыкладу, дачцэ Чайкоўскай на дадзены момант васямнаццаць. Калоць ботэксам маці пачала яе зь сямнаццаці.

Чайкоўская нават здолела Марыну, цырульніцу-баптыстку, уламаць на тое, каб яна прайшла “тэрапэўтычны” ботэкс скулаў.

Чайкоўская – д’ябал сучаснасьці. Да яе на прыём, які каштуе адну чацьвёртую заробка прыбіральшчыцы, ходзяць самі прыбіральшчыцы! Бо Чайкоўская не супакойваецца нават у сталоўцы, куды завітвае папіць кампоту, бо яна не ўжывае нічога мясцовага, і, стоячы ў чарзе альбо седзячы за сталом, бярэ ў палон усіх, хто ў радыюсе яе выцягнутай рукі…

Што будзе з маладымі дзяўчатамі празь пяць год, уяўляць ня трэба, бо ў гатэлі працуе яскравы прыклад чатырохгадовай працы Чайкоўскай – твар афіцыянткі Лены, якая пачала калоцца ў дваццаць год.

Лена трапілася на вочы Чайкоўскай праз сваю прастую і праз гэта каштоўную прыгажосьць і танюткасьць. Лена празь дзень бегае ў сваім спальным двары, праз два наведвае салярый, сама яна цёмнавалося, але носік яе спрэс у рабацінках і гэта неверагодна прыгожа, грудзі ў яе пргукія, і, калі яна не ў працоўным строі, то ёсьць магчымасьць ацаніць загарэлую скуру грудзей яшчэ глыбей… Попа падцягнутая, рост мэтар восемдзесят, жыве Лена з хлопцам, зь якім пачала сустракацца яшчэ ў дзясятай клясе, марыць пабрацца зь ім і быць для яго самай прыгожай і адзінай на сьвеце. І ў Лены ёсьць адзіны вялікі мінус – яна даверлівая і вельмі загонная па сваёй зьнешнасьці.

Цяпер Лене дваццаць чатыры – з хлопцам разышлася тры гады таму… Усё яшчэ бегае ў сваім двары, усё яшчэ ходзіць у салярый, усё яшчэ на носіку рабацінкі, але

ці тыя гэта рабацінкі, якія былі?! Не! Маленькія прывабныя кропачкі нейкім чынам ператварыліся ў плямкі, лоб, які раней так прыемна было разглядаць, а ейнаму хлопцу – цалаваць, цяпер ня тое што ня мае звычайных зморшчынак, якія б надавалі твару міміку, лоб ад ботэкса наліты, цяжкі, сьвінцовы, і, калі Лена зьдзіўляецца, у яе нават бровы не падскокваюць, бо ўсё замарожана і адмарожана вышэй вачэй… Вусны – асобны прадмет на твары, яны моцна пасунуліся наперад, набылі перасьпелы чырвоны колер і штохвілінна ільсьняцца, бо Лене сказалі, вусны модна мазаць бляскам, каб яны заўсёды былі вільготнымі, але гэта ўсё глядзіцца, быццам бы ў Лены на твары ўзбуджаныя полавыя губы… Скура праз вялікую колькасьць пілінгаў заўсёды звышсухая і сыплецца кавалкамі на адзежу і на грудзі. Лена апрацоўвае шчокі танальнікам, але танальнік скатваецца ў камякі, бо скура адпілінгаваная на гады наперад… Агульны колер Лены – гэта ўжо далёка не загарэлы салярый, яна падобная чымсьці да сьветла-карычневай бульбіны зь цёмнымі плямамі….

Лена больш не прыгожая, і гэта яскравы факт ператварэньня… “І што далей зь ёй будзе?” – пытаецца Лена ў сябе. Пытаюцца і супрацоўнікі самі ў сябе, калі бачаць яе… Ніхто ня ведае, што зь ёй будзе, але дакладна вядома толькі, што яна запісалася на новую праграму амаладжэньня… Так, сапраўды! На новую праграму амаладжэньня! У свае дваццаць чатыры яна, пазіраючы на гэты сьвет тварам саракагадовай жанчыны, якая праз злоўжываньне алькаголем пасьпела апухнуць, як раскіслая гумка для мыцьця посуду, усё-ткі адважылася на амаладжэньне.

## Кліенты

Акідваючы позіркам звонку шараговы гатэль, галоўнае пра ўсіх успомніць, асабліва пра тых, на каго мала хто зьвяртае ўвагу. Гаворка ўласна пра кліентаў. Кліент для гатэля мае іншае значэньне, ніж нейкі працаўнік, але, як па мне, кліент гатэля – гэта акурат ягонае аблічча, гэта твар сэрвісу, гэта тое, па кім варта было б прызначаць зоркі, бо толькі ад гатэля і ягонага пэрсанала залежыць, як да яго паставіцца кліент і як ён сябе будзе паводзіць: хаміць на лобі-бары ў халаце й аднаразовых тапках а дзявятай раніцы, патрабуючы алькаголю, які наліваюць толькі аб адзінаццатай (любімы ўзор паводзінаў расейцаў), альбо, седзячы ва ўтульным фатэлі, закінўшы правую нагу на левае калена, жаваць у роце цыгарылку, піць сьвежавыціснуты сок і чакаць той самай кавы, якую ты любіш, і ня дай Божа ім памыліцца! Зразумела, што абодва гэтыя прыклады не надаюць павагі гатэлю, бо ў першым варыянце мы бачым хутчэй танныя апартамэнты, а ў другім – пэрсанал, які ліжа яйцы сваім кліентам.

Мой гатэль збольшага трымае сваю марку на ўзроўні сярэдняга, то-бок у халаце ёсьць магчымасьць хадзіць па нумарох, калідорах і нават зазіраць у некаторыя канфэрэнц-залі, але ніякім чынам вы ня трапіце ў такім выглядзе ў бар альбо ў цэнтральнае фае. Але й кліентуры тут няма такой, каб хаміла альбо крычала, што гатэль тут існуе за яе кошт;

гэта ўласьціва толькі самі ведаеце каму. Але адначасова, працуючы з людзьмі, якія сапраўды ня толькі дайшлі ўласнымі нагамі да фінансавай незалежнасьці і астатняга вынікаючага, абавязкова трэба мець гонар і такт, якога не аказалася ў дырэктаркі спа Антаніны Вацлаўны. Але аб усім пасьлядоўна.

Сталай наведніцай басэйну, фітнэс-залі й касмэтоляга зрабілася адна непрыкметная жанчына, сьціплая, культурная, але пры размове зь ёю заўсёды адчуваецца моц, унутраны стрыжань і талент падаць сябе толькі з лепшага боку, напрыклад, калі вам заўсёды перад ёю хочацца выслужыцца проста так, проста таму, што яна такая сама па сабе ўся неверагодная, жанчына форс-мажор. Завуць яе Антаніна Буйніцкая, і яна дакладна ведае, калі вы гатовыя выканаць для яе сваю справу файна альбо вы проста звычайная пракладка зь ейнага сподняга.

Антаніна вельмі лёгка і хутка пасябравала з усім пэрсаналам гатэлю, увайшла ў давер да такога стану, што пры яе прысутнасьці мэнэджары не баяліся абмяркоўваць праблемы жыцьця гатэля: у фітнэсе прарвала трубу з гарачаю вадою, у душавых басэйна кафля згніла й адвальваецца, у саўне перад уваходам у жаночую частку адна турыстка ўпала на мокрай падлозе, у яе адразу парваўся гэты танны аднаразовы гатэльны тапак і тая паламала нагу і мезенец на левай руцэ, у жаночай распранальнай з шафы скралі 200$ даляраў і цішотку “Дольчэ і Габана”, а камэра, якая глядзіць на дзьверы распранальні, ужо два гады як не працуе, на лобі замест “фінляндыі” ў кактэйлі наліваюць “на-бярозавых-пупырышках”… Буйніцкая слухае, падказвае, кпіць, жартуе і часам штосьці раіць, але звычайна супакойвае: “Не пераймайцеся, жыцьцё вартае іншых перажываньняў!”

І вось на спа завезлі абсталяваньне, супэрсучасны лазэр, які выдаляе ня толькі валаскі на целе, але робіць вас адразу маладзейшаю на пяцьдзясят год, дастаткова на яго толькі аднойчы паглядзець! Антаніне касмэтоляг Чайкоўская адразу прапанавала новую паслугу, але папярэдзіла, каб тая мела на ўвазе, што ліцэнзіі на абсталяваньне няма – не даюць, бо мы тут не мэдычны цэнтар, таму паслуга толькі для самых набліжаных пэрсон. Антаніне гэтая прапанова спадабалася, і лазэр спадабаўся, ды й сама Чайкоўская спадабалася, бо выглядала неяк больш натуральна, ніж раней, можа быць, даўно не калолася ботэксам.

І вось выйшла Антаніна, уся зьзяе лазэрным шчасьцем і падыходзіць на рэцэпцыю, каб разьлічыцца, а яе адпраўляюць дадому, кажуць, потым грошы, спачатку справа і дадому.

Праходзіць некалькі тыдняў, і раптам Антаніне па тэлефоне паведамляюць, што яна павінная спа-цэнтру ў гатэлі тры тысячы даляраў. Буйніцкая прыяжджае ўся ў пэне, як быццам галопам дабірался. Усчыняе сварку, патрабуе падрабязнасьцяў. І ёй распавядаюць, што яна скарысталася звышкрутым лазэрам ажно дзесяць разоў, і быў нядаўна пералік, і новы прайс, і вось ён – вынік. Буйніцкая патрабуе больш дэталёвага тлумачэньня і дырэктара.

Прыходзіць Ніяцкая і з парогу, ня ведаючы ані тонкасьцяў, ані дробязяў, адразу да сьценкі неплацельшчыцу і вымагае ад яе разьлік!

Антаніна моўчкі расплочваецца і сыходзіць, а праз тыдзень зьяўляецца ўжо ў іншым выглядзе, як галоўны інспэктар Міністэрства аховы здароўя РБ, і прыяжджае яна з незаплянаванаю праверкаю па ўсіх зонах адпачынку наведнікаў: спа, фітнэс, басэйн і салён. У гатэлі – проста ціхі гвалт усіх, пачынаючы з дырэктара гатэлю Гнюсэля і за-

канчваючы пакаёўкаю Настаю і align: рознарабочым Ванем… Усе стогнуць, усім цяжка і кепска, усіх ванітуе ад гэтых жорсткіх пранікненьняў, але трываюць, нават Ніяцкая цішэйшаю стала, усьміхацца пачала проста так і хаду зьмяніла, крыху ссунулася плячыма наперад, быццам бы крыху кланяецца альбо моліцца… Невядома.

Ці іншы прыклад. Завітала неяк пафарбавацца да стыліста Віталя Кацярына Шпакоўская, жанчына сярэдніх гадоў. Рухі рук, ног, цела, паварот галавы – як у коткі, хада мяккая… Віталь яе прыкмеціў адразу, і трэба сказаць, што калі ўжо хто падабаецца гэтаму майстру, то ў яго адразу зьяўляецца жаданьне зрабіць такой кліентцы ўсё так хараша, каб ажно яна была на сёмым небе ад шчасьця.

Кацярына сапраўды засталася вельмі задаволенаю ўсім – і колерам, і фрызураю, і новым сяброўствам. Віталь увесь час, што зь ёю працаваў, ніяк не адважваўся запытацца адкуль яна, бо такі ўжо быў у яе прыемны акцэнт, так яна соладка прамаўляла словы, што хацелася іх слухаць вечна. Кацярына бачылася яму пекнаю літоўкаю, латвійкаю, полькаю, эстонкаю, чэшкаю, жанчынаю з Францыі…

І, нарэшце, на пытаньне адкуль яна, Кацярына адказала што зь Нямеччыны, з Баварыі. Яна дамовілася, што заўтра прыйдзе яе муж.

На наступны дзень у Віталя стрыгся Іван, муж Кацярыны, гутарылі яны душэўна, Віталь распавядаў яму пра сваю працу і дзіўных людзей, Іван кпіў са сваіх знаёмых, якія дзейсьці ў жыцьці сьмешна стрыгліся альбо траплялі да п’яных майстраў. І тут Віталь успомніў пра свае падарожжы па Эўропе і запытаўся ў Івана, як ім жывецца ў Нямеччыне і як адбылося яго знаёмства з жонкаю.

Іван не адразу зразумеў пытаньне, але потым да яго дайшло, і ён прамовіў:

– Няўжо ты ў мяне пра гэта пытаешся праз маю дуру Кацю?! Мы, блядзь, былі ў Мюнхене дзесяць год таму, езьдзілі на тры тыдні, дык яна, тупая курыца, вырашыла, што ў яе зьявіўся акцэнт! Яна, блядзь, яго атрымала ў Баварыі! Слыш, Віталь, не, ну ты разумееш гэта?! Мы, блядзь, палову сьвету аб’ехалі, а яна акцэнт баварскі падчапіла!

І неяк усё зачараваньне жанчынаю Кацярынаю зьнікла, растварылася ў паветры, і цяпер вобраз Шпакоўскай перад вачыма цырульніка-стыліста выглядаў бляклай выявай дурной бляндынкі-ідыёткі.

У гатэлі вашыя асабістыя справы па праўдзе нікому не цікавыя, усьмешкі абсалютнай большасьці – расьцягнутыя ў розныя бакі чырвоныя пасткі, пасярод якіх – белая агароджа зубоў, якая ніколі вас ня пусьціць унутр. Калі пасярод дзявятай раніцы ў гатэлі ў спа зьяўляецца маленькая дзяўчынка… ну як маленькая – адзінаццаць год, разам са сваёй сяброўкаю, абедзьве выглядаюць так, быццам бы абрабавалі шафу старэйшай сястры альбо маці: абцасы на два памеры большыя, кароткая спадніца, блюзка з дэкальтэ, адкуль нічога “пад дэкальтэ” не праглядаецца. Панядзелак, 9.30 раніцы, сакавік… Ну што, пытаньне ўжо зьявілася? Так! Дакладна! Што гэта дзьве малыя робяць у пяцізоркавым гатэлі і чаму выглядаюць як малпы, да таго ж пасярод вучэбнай чвэрці!?

Люба любіць завітваць у спа кожны тыдзень, бо сачкаваць – гэта файна, а калі атрымліваецца зьбегчы разам з новаю сяброўкаю, яшчэ круцей! Грошы на пэрсанальную картку Люба атрымлівае кожную пятніцу, тата вельмі яе любіць, а Люба, як яна кажа, з усіх сясьцёр самая малодшая,

але й самая разумная, бо ведае, як папрасіць у бацькоў крыху грошай. Сёньня яна мусіць заплаціць дзевяцьсот баксаў за комплекс абслугоўваньняў, і гэта разам з сяброўкаю, на гэтым тыдні – Веранікай, бо Люба ня надта добра ладзіць з аднаклясьніцамі, а дакладней, расьце сапраўднаю курваю, з дармовымі грашыма, прагаю да ўсяго дарагога і каб перад іншымі дзяўчынкамі была магчымасьць выхваліцца й паказаць усю сваю раскошу, а дакладней – свавольства бацкавых грошай.

І ніякіх тут пытаньняў, бо дзевяцьсот даляраў за тры гадзіны на спа будуць вельмі дарэчы, не істотна, ад каго і зь якой карткі, мы прымаем любыя сродкі аплаты, хоць вэбмані!

## Прастытутка

Ніводны гатэль не жыве без жанчын лёгкіх паводзінаў. Калі іх прыбраць, зьнікнуць атмасэфра жыцьця, дынаміка развіцьця вечару і гатэль лёгка ператворыцца ў будынак з пакоямі, каб проста пераначыць і нічога цікавага.

Кожны гатэль мае ўласных і непаўторных начных жанчын, і ўсе яны абсалютна па-рознаму ставяцца як да сваёй працы, так і да свайго жыцьця. Зразумела, што жанчына, якая бярэ грошы за сэкс, не заўсёды філёзаф, але сярод іх магчыма спаткаць нашмат больш разумных і разважлівых жанчын, чым, напрыклад, у ін’язе. Жыцьцё дае ім досьвед і непаўторны погляд на навакольле. Яны ведаюць пра побыт і мужчыну нашмат болей, чым любы сэксапатоляг альбо сацыёляг. Для іх знайсьці падыход да мужчыны значна прасьцей, чым прыгатаваць запяканку, і адначасова такія жанчыны, калі ім выпадае сапраўды завесьці сям’ю, становяцца самымі цудоўнымі жонкамі і маці. Але, як і ва ўсіх сфэрах жыцьця, заўсёды знойдзецца процьма выключэньняў. Тут у нас гутарка пойдзе пра Моніку, як яна сама сябе назвала пры першай сустрэчы зь Ніндзем, калі той быў яшчэ бадзёрым і сапраўды жывым! Моніка ніякім чынам не выдавала сябе за прастытутку, яна нават сама сабе ўнушыла, што прыйшла ў гатэль проста так, папіць кавы, бо сядзець сумна на здымнай кватэры ў свой выходны, а на працы – за прылаўкам у хлебнай краме – няма чаго лавіць, тым

болей там не пазнаемісься ані са спонсарам жыцьця, ані з прынцам.

Моніка – звычайная беларуская дзяўчына, ну, можа быць, не такая ўжо і прыгажуня: круглы твар, маленькія вочкі, носік невялікі, крыху скасабочаны ўлева, што зусім не надае ёй пекнасьці, сама яна крыху паўнаватая, але такія ўсходнім мужчынам і падабаюцца – каб было за што ўзяцца, доўгія валасы, звычайныя цёмныя доўгія валасы, і татальная адсутнасьць густу як у адзеньні, так і ў біжутэрыі. Моніка скончыла дзевяць клясаў сельскай школы, потым зь мясцовым хлопцам пераехала ў Менск, хлопец пачаў вучыцца ў хабзе і падпрацоўваць на будоўлі, а яна гандлявала садавінай і гароднінай у летнім ларку, пакуль ня трапіла ў хлебную краму, а хлопец ейны ня трапіў у войска, бо пачаў шмат піць на будоўлі і кінуў хабзу. Вось яна, Моніка, сядзіць, пье ваду зь ільдом і ў думках лічыць, колькі грошыкаў у яе засталося, а засталося акурат на пачак цыгарэт і на тры жэтончыкі на мэтро, і тут да яе падплывае наш бог і мачо Ніндзя!

У Монікі адначасова і адразу зьяўляецца ўсё на сьвеце і ў вялікай колькасьці! Дарагая здымная кватэра, у спа ўсё бясплатна, штодзень – дарагія і каштоўныя падарункі, якія яна адкладае ў бабулін куфэрак. Яна абсалютна ня грэблівая, сьпіць як зь Ніндзем, так і зь ягонымі лепшымі сябрамі. Калі Ніндзя ноччу прачынаецца, па раскладзе на тыдзень, які зроблены самімі прастытуткамі, побач зь Ніндзем прачынаецца Моніка, яна трымае яму ягоны стары пэніс, пакуль той сцыць, бо Ніндзю падабаецца, калі за ім так даглядаюць, і дзяўчына можа атрымаць больш каштоўных бонусаў!

Увогуле сярод Ніндзевых прастытутак толькі Моніка робіць усё, што ёй кажуць, яна глытае, калі трэба, зьлізвае

з падлогі кроплі, калі трэба, трымае пэнісы над унітазамі, калі трэба, вылізвае вялікія пальцы на нагах, калі просяць, прыяжджае адразу, як звоняць, і не істотна, дзе яна – у прыбіральні, сьпіць, на масажы, бо для Монікі – гэта ўсё яе жыцьцё, і робіць яна ўсё гэта дзеля такіх рэдкіх і яскравых момантаў, калі, падыходзячы на рэцэпцыю пасьля дарагой касмэталягічнай тэрапіі альбо седзячы на бары, ёй падносяць не рахунак, але спэцыяльны блянк набліжаных да Ніндзі сяброў, дзе яна проста ставіць подпіс пад сумаю, на якую яна адпачнула. І на пытаньне: “Спадарыня Моніка, а вы ўсё подпісы ставіце?” – відавочнае, каб крыху ўкалоць, пакпіць, яна сур’ёзна адказвае: “Ну, дарагая, хто на што вучыўся!”

У гатэльных прастытутак жыцьцё непрадказальнае. Ёсьць тыя, якія трымаюць адмысловую марку і жывуць за кошт кліентаў толькі некалькі тыдняў, і наадварот, ёсьць асбалютна непрыгожыя і дурныя прастытуткі, якія дзіўным чынам застаюцца на сваім месцы на працягу некалькіх год, але ня болей, бо для кожный зь іх наступае такі дзень, калі аднойчы замест сяброўскага блянка ім падносяць рэальны чэк і яны ўсьведамляюць, што “маліна” закончылася і на іх месца прыйшла сьвяжэйшая дзяўчына, з амбіцыямі і плянамі жыць так, каб усе зайздросьцілі, і казаць усім: “Ну, хто на што вучыўся!”, зусім ня ведаючы і нават не падазраючы, што ўсе навокал у гатэлі ведаюць цябе і добра ведаюць, якую працу ты робіш, і “на што вучылася”, і які ў цябе дыплём па глытаньні, і разрад па пранікненьні.

## Бэлбоі

Адкрыць гатэль і наладзіць у ім працу – розныя рэчы. У Менску апошнім часам шмат адкрываецца ўсяго на сьвеце, але працуе і сапраўды запаўняецца наведнікамі амаль на сто адсоткаў далёка ня ўсё. І залежыць гэта ад процьмы фактаў. Напрыклад, ня так даўно, адмыслова пад “хакей” быў адчынены гатэль, па геаграфічным палажэньні – даволі ўдала, недалёка ад чыгункі, але ўсё-ткі насупраць спальнага раёну, і так хутка яго адчынілі, дах пацёк пасьля залевы ва ўсе нумары на апошнім паверсе, і цэлая каманда хакеістаў атруцілася швэдзкім сталом, усе праляжалі па тры-чатыры дні ў бальніцы, і нават камісія па гатэлях не дала яму ніводнай зоркі, і вось мінуў толькі месяц, а гатэлю ўжо прарочаць банкруцтва праз шэсьць месяцаў, калі ён растраціць усе ўкладзеныя ў яго грошы. Альбо, напрыклад, іншая справа з гатэлем, які знаходзіцца вельмі далёка і ад цэнтру і ўвогуле ад жывых людзей, але квітнее і пахне толькі за кошт геніяльнага кіраўніка, бо той пасьпеў за год наладзіць канцэрты і вечарыны з сусьветна вядомымі сьпевакамі, зрабіў шыкоўнае мэню і ўвогуле надаў гатэлю мэйнстрымавы статус.

Гатэль можа мець падлогу з найкаштоўнешага мармуру і працаўнікоў зь велізарным стажам і практыкаю за мяжою, але напаўненьне нумароў ня дойдзе і да паловы, і гатэль будзе вымушаны праводзіць акцыі, здаваць,

напрыклад, за тры гадзіны да 12.00 нумар па кошце ложку ў хостэле.

Для гатэля вельмі істотным у наладжваньні працы зьяўляецца пэрсона дырэктара, непасрэднага кіраўніка. Бо ўсе гатэлі па сутнасьці аднолькавыя будыніны, і толькі гэтыя людзі, на той самай пасадзе, калі ім падпарадкоўваюцца, але і яны падпарадкоўваюцца свайму галоўнаму босу, здольныя зрабіць цуд.

Амаль кожны гатэль пачынаецца з чалавека, які адчыняе перад вамі дзьверы. Гэта абавязкова мусіць быць стары мужчына, на выгляд – палкоўнік у адстаўцы. І вось ён – гонар – адчыняе перад вамі дзьверы. Але да таго, як перад вамі адчыняцца дзьверы, вас вітае бэлбой, дакладней нават не вітае, адчыняе вам дзьверы аўто, забірае ваш багаж і, пакуль вы разглядаеце вострыя сківіцы “палкоўніка ў адстаўцы”, пакуль накіроўваецеся да парцье на рэцэпцыю, ужо імчыць на тэхнічным ліфце на паверх, дзе знаходзіцца ваш нумар.

Праца бэлбоя часта важнейшая за працу нават пакаёўкі, бо тое, што мусіць даставіць гэты чалавек – амаль на сто адсоткаў усе вашыя рэчы, якія вы захапілі з сабою, акрамя, напэўна, сумкі з дакумэнтамі і грашыма, але часта свае дакумэнты і грошы жанчыны дадумваюцца пакідаць на дастаўку бэлбоем.

А цяпер уявім, што вы на рэцэпцыі запоўнілі ўсе патрэбныя формы і атрымалі свой электронны ключ, заходзіце ў нумар і раптам заўважаеце, што вашых рэчаў няма, нічога таго, што забраў бэлбой, няма!

Да нядаўняга часу ў гатэлі працавала чатыры бэлбоі, чатыры жвавыя беларускія хлопцы па дваццаць год, студэнты

першых і другіх курсаў ВНУ. Але перад чэмпіянатам сьвету па хакеі было распараджэньне ўдвая пабольшыць колькасьць бэлбояў, бо паток засяленьня і высяленьня за суткі даходзіў да: 300 выехала, 350 заехала… Вядома, па-хуткаму набраць бэлбояў магчыма сярод сваіх, і так і атрымалася, што на зьмене цяпер ганяла з багажом дзесяць бэлбояў, і раптоўна кудысьці зьніклі маладыя і жвавыя хлопцы, а паўсюль былі адны немаладыя замежныя мужчыны, рэальныя мужчыны, якім такая праца бэлбоя мусіла б быць саромнаю, але нічога, яны не саромеліся і не сьпяшаліся працаваць.

Замежныя бэлбоі, а сярэдні ўзрост сярод іх – 38 год, амаль не працавалі, а калі ўжо браліся за працу, то рабілі яе праз пень-калоду: абавязкова блыталі нумары і тлумачылі гэта тым, што большасьць нумароў маюць ня толькі нумары, але і лічбы, а некаторыя нават назвы – Нумар Прынцэса, Ядлоўцавы Нумар, Блакітны Пакой.

Вось вы падняліся да сябе і чакаеце… можа быць, бэлбой недзе ўсё яшчэ едзе… і праходзіць некалькі гадзін, і вы звоніце на рэцэпцыю, і пытаецеся, а дзе гэта ваш багаж? А вам у адказ: “Які багаж? Вам яго паднялі ў нумар яшчэ тры гадзіны таму!”

Але самым разьюшаным і нейкім сапраўды хворым бэлбоем, які спугнуў ад гатэлю адразу шэсьць плятынавых пастаяльцаў (а гэта дзясяткі тысяч даляраў!), стаўся Ахмэд.

Ахмэд, трыццаць сем год, не жанаты, мае ў Менску старэйшага брата, які ў гатэлі працуе інжынэрам. Сам ён тоўсты, непаваротлівы і на працы бэлбоя бэлбоем не працуе, бо ў яго спраўка ад доктара, што яму нельга падымаць цяжкія рэчы. Ахмэд ня толькі не працуе, ён выпівае за двое сутак кіляграм кавы, на якую скідваюцца ўсёй рэцэпцыяй, а кава – дарагая, бо для кавамашыны. Але гэта

што! Ахмэд неяк увогуле на некалькі хвілін застаўся сядзець на рэцэпцыі, сёрбаючы каву адзін, і, калі да яго падышла сямейная пара ўва шанаваным веку, ён сказаў ім, каб ішлі сабе ў іншы гэталь, тут ім няма чаго лавіць і ён увогуле заняты. Прамовіў усё гэта на сваёй мове, незразумелай польскай пары, і прамовіў злосна, бо яны яго патурбавалі, калі ён са свайго пляншэтніка глядзеў сэрыял! А потым аднойчы Ахмэд увогуле ахранеў да такога стану, што паслаў у сраку мэнэджара хостэсу, калі той хацеў выгнаць нахабнага бэлбоя са свайго працоўнага стала. І што тут паробіш, калі хваля новых працаўнікоў на месцы бэлбояў прыйшлася акурат на той час, калі цудоўны дырэктар гатэлю сыходзіў і на яго месца прыйшоў нейкі вар’ят, які сваімі першымі дзесяцьцю новаўвядзеньнямі вярнуў гатэль у часы, калі ён толькі адчыніўся і ўсімі сваімі сіламі намагаўся не загінуць сярод канкурэнцыі і няўдачы.

## Чорная кашуля

Раніца. Ня так даўно мы пераехалі ў здымную кватэру насупраць рэчкі й вялікага парку… Пачаўся чэрвень, я ўжо пакутую на алергію, стан такі, быццам бы ў носе ўключылі адмысловы кран саплей, я смаркаюся кожную хвіліну, а калі не смаркаюся, то чхаю. Да дактароў я не хадзіў, і ўжо які год запар першы месяц лета ў мяне зусім нярадасны. Што казаць, хакей прайшоў і можна падвесьці колькі вынікаў, акурат пакуль я прасую сваю чорную кашулю, бо ў гатэлі цяпер палова пэрсаналу ў чорным гарнітуры, было так вырашана, бо элегантна.

Да галавы прыходзіць процьма вясёлага і сумнага, зьвязанага з травеньскім сьвятам. Вось мне распавядала сяброўка, як перад хакеем у бальніцы хуткай дапамогі цалкам вызвалілі цэлы рэанімацыйны аддзел ад рэанімаваных, набралі найкаштоўных працаўнікоў, выкшталцоных мэдсясьцёр і загадалі чакаць хакеістаў. Загад быў такі і падрыхтоўка ў такіх маштабах, быццам чакалі пацярпелых з вайны, а не паламаных з гульні. Па выніку за тры тыдні ў рэанімацыю паступіў толькі адзін паламаны хакеіст – фін. І вось уявіце, амаль усё навокал – жудасьць і жах: старыя пафарбаваныя сьцены, мэталічны посуд, кепска памытыя “гранёныя стаканы”, койка і нават накладкі ад расьцяжэньняў ірваныя! Вядома, мэдсёстры насілі хакеісту ежу ў талерках, якія прынеслі з дому, і ў сваіх жа кубках запарвалі гарбату. Але пачнем ад самага пачатку.

Я адразу паставіўся да гэтага “сьвята” нэгатыўна, бо ёсьць такая рэч, як “Не гуляй у гульні з дыктатарам”, тым болей яшчэ да адкрыцьця чэмпіянату навіны ня цешылі: аднаго грамадзкага актывіста затрымалі за хуліганства і далі дваццаць сутак, другога дзеяча закрылі на пятнаццаць сутак арышту… Я, вядома, не хадзіў на матчы, але ўсё роўна здарылася так, што я стаўся пасыўным заўзятарам, так бы мовіць – я ня мог ня стацца ім з тае прычыны, што хакей прасачыўся паўсюль, нават у маю прыбіральню, сны і ежу…

Як вынік – падрыхтоўка да чэмпіянату ачысьціла горад ад усяго: ад сьмецьця, нязгодных, ад усёй “пятай калёны” і прастытутак, якіх зьвезлі са “стамэтроўкі” на Акрэсьціна. Ніхто з прыежджых ня мусіць бачыць, што ў нас камусьці няўтулуьна жыць і што ў нас ёсьць прастытуткі. Тут, вядома, усё атрымалася наадварот, бо па гатэлях і апартамэнтах хапала і прастытутак і пэрсаналу, якому няўтульна і які нязгодны з сучасным становічшам, калі даляр і эўра няспынна кожны дзень дадаюць сабе па сто рублёў массы, калі большасьць баіцца за словы кіраўніка краіны, што яшчэ ён плявузгне: за Ўкраіну, супраць Украіны, уводзім расейскія войскі альбо недазволім распальваць вайну… Навошта хаваць прастытутак у малпоўнях, калі палітычная прастутыцыя ў краіне на такім пачварна высокім узроўні, што нават ужо ня сорамна, і даводзіцца, сьціснуўшы сківіцы, назіраць за гэтым, трэскаючы валідол.

Адразу па адкрыцьці чэмпіянату горад атачылі людзі, якія паўсюль раздавалі “каляградзкія” стужачкі, быццам бы напамін пра вайну, але мясцовыя разам з нацболамі пералавілі большасьць гэтых людзей – яны ўсіх раздражнялі, бо тут пад бокам суседачка Ўкраіначка пакутуе, а да нас ужо прыехалі першыя прапагандысты! Нават гандлёвыя сэткі

гіпэрмаркетаў вырашылі не займацца раздачай стужачак, хоць і плянавалі, бо настрой мінчукоў быў адзінадушны – альбо ў твар, альбо ў твар.

У наш гатэль засяліліся замежныя каманды. Фінскія спартоўцы кожны дзень скардзіліся, што вакол іх зашмат людзей. Яны думалі, што кіруючы пэрсанал адразу кінецца вызваляць калідоры дзеля фінаў, але калі гэтага не рабілі для зорак сусьветнай велічыні і нават для дыктатараў, тады чаго яны хочуць? Чэская зборная атруцілася, праляжалі хакеісты суткі ў больніцы пад кропельніцамі, хацелі пісаць скаргу на гатэль, але дактары адразу зьлілі інфармацыю, што чэхам варта было б проста нармалёва закусваць.

Менск напоўніўся рознымі мовамі, што было абсалютна дзіўна для гэтага адпаліраванага гораду.

Хакей для беларусаў ня проста гульня, гэта таксама і спосаб адмыць грошы, і адначасова заляцаньне чыноўнікаў да прэзыдэнта. Усе былі зьдзіўленыя, што чэмпіянат ніхто не байкатаваў, усе краіны і каманды прыехалі, і наконт гэтага першыя дні ўлада праз навіны завастрала ўвагу…

І вось прайшло літаральна некалькі дзён, а ўжо машыны з расейскімі нумарамі падрапаны цьвікамі, падкладзены цыдулкі пад дворнікі з праклёнамі… А чаму? Вядома чаму! Расейцы ад самага пачатку павялі сябе як быдла і заваёўнікі, хадзілі са сваім трыкалёрам, крычалі “крым наш”, “белорусскій язык нахуй!”, “смерть Белоруссіі” і іншае. Правялі на дзень перамогі несанкцыяваны фашыстоўскі парад расейскіх нацыяналістаў, ішлі строем па цэнтральным прашпэкце – акурат грэбаны ss…

У адным зь менскіх двароў незнаёмец падпаліў адразу пяць прыпаркаваных машын. Па камэрах, якія былі ў два-

ры, магчыма разглядзець толькі цені і кінуты пад адну з машын кактэйль Молатава…

Вось што мінакі кажуць:

– Па горадзе сапраўды шастаюць людзі з расейскімі рублямі і абураюцца прадавачкам, што іх рублі тут не прымаюцца ў крамах... Дзяўчаты разьятрана дыхаюць парай. Яны не разумеюць слова “ўваход”. “Нам тут чё – ещё и переводчик нужен?” І, вядома, украінскі фактар. Сам бачыў беларускіх фанатаў, якія паказвалі непрыстойныя жэсты расейскім аўтамабілям пад куплет адной зь песьняў “Ляпісаў”, якая сталася гімнам змаганьня ўкраінскіх фанатаў супраць сэпаратыстаў.

А талісман чэмпіянату? Гэты няўдака зубр у хакейнай форме і на каньках, гэты дурны вобраз, якога ў народзе назвалі Валераю. А што, гучыць – волат Валера. Як толькі зь яго ні кпілі, але хлопец, ці хлопцы, якія працавалі ўнутры гэтай лялькі на гульнях, прыводзілі ў экстаз абсалютную большасьць. Валера катаўся ў мужыкоў на каленях. Валера рабіў сэлфі разам з прыгажунькамі. Скокаў у натоўп, падаў і катаўся ў праходах… Валера заслужыў быць адначасова і сымбалем і сумам чэмпіянату, бо такую недарэчнасьць немагчыма ўспрымаць адназначна.

У горадзе назіраліся незвычайныя рэчы: міліцыянэры ўсьміхаліся, ніхто нікога не затрымліваў увечары, можна было адчуваць свабоду перасоўваньня і жыцьця. Было такое ўражаньне, што ты сам шпацыруеш па прашпэкце замежнага горада, што гэта ты кудысьці зьехаў на хакей, а не хакей прыехаў да цябе!

Шмат хто пачаў вельмі добра зарабляць на жытле. Некаторыя кватэры здаваліся па тысячы эўра за суткі, некаторыя пакоі здавалі па трыста… Беларусы апантана стараліся хоць крыху, але падзарабіць, і амаль у кожным двары Менску магчыма было назіраць джыпы з расейскімі нумарамі, якія коламі заяжджалі на газоны, на дзіцячыя пляцоўкі, машыны, якія былі запаркаваныя так, што гэта адразу рэзала вока. І вось такая двухбаковасьць: тыя, хто не здае свае кватэры й пакоі замежнікам, абураюцца неахайнай паркоўцы, а тыя, хто здае, моўчкі трываюць: анягож, беларусу не абвыкаць – трываць.

Адна з гатэльных супрацоўніц так разышлася падчас чэмпіянату, што зьнікла з дому на тры тыдні. Бацькі званілі кіраўніцтву гатэля і прасілі, каб на іх дачку хоць хтосьці паўплываў, бо, як кажуць, “панеслася пізда па купінках”. Дзяўчына і без чэмпіянату злоўжывала алькаголем, а цяпер яна кожную раніцу прачыналася ў іншых ложках. Інтэрнацыянальнае братэрства прывяло дзяўчо да таго, што яна здолела сабраць цэлую калекцыю заўзятарскіх шарфоў і тры хакейныя формы: фінскую, латвійскую і расейскую. Кіраўніцтва паабяцала штосьці зрабіць, бо шкада чалавека, і пачало сачыць за тым, каб тая хаця б прыходзіла на працу без спазьненьня і алькагольных пароў і сыходзіла ў час, але гэта прывяло толькі да таго, што яе давялося звольніць, бо яна ня толькі не жадала выконваць свае працоўныя абавязкі, але сварылася, мацюкалася і нават пахмялялася, нахабнічаючы з кожным днём.

А гэтыя “цэнтры гасьцепрыімства” ў Менску!? Цуд! Сумесь Кафкі, Даўлатава і Венечкі Ерафеева, шалёная сумесь!

А гэтыя сутычкі беларускіх і расейскіх фанатаў на Нямізе? Сьценка на сьценку!

Шмат пра што можна яшчэ ўспомніць, але ў мяне ня так шмат часу, бо чакае праца і кашуля мая гатовая. У горадзе кожны месяц цяпер адчыняецца па гатэлі, горад быццам рыхтуецца апантана выйсьці на міжнародны ўзровень па колькасьці турыстаў, і вось у мэтро паўсюль беларуская лацінка, і турыстычныя стэнды пасьля хакею нікуды не падзеліся, відавочна, шмат турыстаў зьехала, але вунь у маім двары цяпер ёсьць магчымасьць часта бачыць маладую сямейную пару афрыканцаў, вось я ў краме ў чарзе і перада мною японцы, вось я еду на ровары і мяне абганяе нейкі ямайскі хлопец на сваім стрыт-байку…

Я плянаваў пасьля хакею звольніцца з працы, але пакуль што не магу, няма куды ісьці, а мне патрэбны пастаянны заробак, каб часопіс трымаўся, каб плаціць за здымную кватэру, каб мець магчымасьць зьяжджаць кудысьці і пісаць… Менск нарэшце аброс гатэлямі рознай якасьці і велічыні, увесь пэрсанал, як фарэль на нерасьце, скокае то туды, то сюды, кожны хоча ўладкавацца ў новым гатэлі на больш якаснай і грашовай працы, а я, бы той вулкан, нікуды не сыходжу, але ўжо пачынаю капціць і калі-небудзь выбухну.

## *Смачны чытацкі сняданак*

Адна знаёмая дзяўчына, атрымаўшы гуманітарную адукацыю, доўга шукала працу. І ад безвыходнасці стала круп'е ў новаадкрытым казіно. Яе замалёўкі пра побыт і норавы гэтай установы так уразілі мяне, што я неаднойчы прасіла зрабіць з іх мастацкі твор – настолькі нечаканы і безумоўна новы матэрыял уяўлялі з сябе яе аповеды пра нябачны спод ігральнай індустрыі. Тым больш што дзяўчына мела трапнае вока назіральніка і чорны гумар чалавека, вымушанага працаваць па начах.

Як даўняму аматару вытворчых раманаў Артура Хэйлі «Аэрапорт», «Атэль» і інш., мне вельмі хацелася, каб нешта падобнае з'явілася і ў беларускай літаратуры. Тым больш што для большасці з нас таямніцы бізнесу — усё яшчэ таямніцы. І якое ж было маё здзіўленне, калі я ўзяла ў рукі параўнальна невялікую, густоўна выдадзеную кнігу «Кантынентальны сняданак» Сяргея Календы. Гэты зборнік прозы аказаўся самым што ні ёсць тыповым вытворчым раманам пра атэль, цікавым не менш, чым вядомы хэйлеўскі твор!

Некалькі гадоў таму я ўжо пісала ў «Звяздзе» пра Сяргея Календу, адзначаючы яго першую кнігу як лепшы дэбют года. З той пары прайшло зусім мала часу, а гэты аўтар паспеў выдаць не толькі некалькі ўласных кніг, але і пару-тройку літаратурных альманахаў. Шчыра кажучы, падазрона стаўлюся да падобнай пісьменніцкай пладавітасці,

бо даўно лічу, што сучасная проза пакутуе менавіта праз недапрацоўку цяперашніх літаратараў, якія хапаюцца за выратавальную саломінку ўспамінаў і аўтарэфлексій.

Але кніга Календы «Кантынентальны сняданак» прымусіла мяне памяняць свой погляд на літаратурныя суадносіны колькасці і якасці. Артур Хэйлі ж выдаткоўваў на напісанне сваіх раманаў роўна паўтара года, што ніякім чынам не адбілася на яго папулярнасці, нягледзячы на ўсе шпількі крытыкаў адносна такой працаздольнасці.

Такое ўражанне, што наш малады аўтар таксама ўзяў на ўзбраенне творчы метад канадскага пісьменніка – выяўляць «крызіс сярэдняга характару, які выкліканы неспакоем, скокамі настрою, і выкарыстоўваць яго ў паралельных лініях». Але паколькі ўсё напісана на арыгінальным беларускім матэрыяле, дзе пазнаецца – нягледзячы на папярэджанне аўтара пра выпадковасць любых супадзенняў – літаральна ўсё і ўсе, чытаць кнігу надзвычай цікава. Нягледзячы на тое, што ў творы не згадваецца ні назва атэля, ні імёны вядомых пастаяльцаў, асабіста я разумела і выдатна ўяўляла ўсе падзеі, апісаныя ў «Кантынентальным сняданку», кнізе, якую аўтар прысвяціў ўсім:

«хто выдаткоўвае сваё жыццё
на карысць іншых людзей,
хто гатуе для чужынцаў, хто мые й
прасуе чужыя брудныя анучы,
хто засцілае чужыя ложкі,
хто пыласосіць і мые пакоі
для незнаёмцаў,
хто стрыжэ ім валасы,
хто робіць ім масаж,
хто пільнуе людзей у басейнах
і фітнэс-залях,

каб ніхто не надарваўся,
усім, хто робіць жыццё
ў незнаёмай краіне
цікавым і ўтульным».

Гісторыі пра жыццё гатэля вядуцца ад імя парцье, але, чытаючы тэкст, не перастаеш лавіць сябе на думцы, што аўтар рэальна сам паспрабаваў усе тыя прафесіі, пра якія ён з такой ашаламляльнай падрабязнасцю піша. Усе – ад усемагутнага дырэктара да затурканай прыбірачкі.

«...падмятаць падлогу пасля вячэраў, прыбіраць посуд; выціраць пыл, які на дзевяноста адсоткаў складзены з адлушчанай скуры пастаяльца; пыласосіць паўсюль выпаўшыя валасы з галавы, з лабка, з-пад пахі; адмываць рукамыйнік пасля дэпіляцыі, галення, падстрыгання пазногцяў; адшкрабаць адусюль кроплі тлушчу, зубной пасты, крыві, мачы; з люстэрка выціраць плямкі з-пад выціснутых прышчоў з твараў і спінаў; мыць вокны пасля дажджу звонку, знутры – выціраць тлустыя адбіткі пальцаў...»

Нават цяжка сказаць, што больш уражвае ў кнізе: засяроджанае, амаль навуковае разуменне чалавечай псіхалогіі, жывая гутарковая нязмушаная ўмоўнасцямі мова, ці вось гэтыя нетыповыя для сучасных пісьменнікаў веды аб працы людзей, якіх мы звычайна проста не заўважаем.

Чыста тэарэтычна можна ўявіць, што кожны можа прымераць на сябе ролю маркетолага ці ахоўніка буйнога дарагога атэля... А вось паказаць працу пакаёўкі так, што навекі вечныя чытач адчуе і зразумее ўвесь псіхалагічны цяжар гэтага занятку – гэта трэба мець пільны погляд і шчымлівую любоў да «бедных людзей», якіх Календа паказвае ў лепшых традыцыях Дастаеўскага і Чэхава.

Цікавым падаецца і той момант, што, нягледзячы на тое, што кніга пісалася хутка, структура яе вельмі пругкая,

трывалая, з выразным пралогам і эпілогам. Разам з тым асобныя раздзелы чытаць абсалютна самастойна, як апавяданні. Трагікамічныя сітуацыі, у якія трапляюць героі Календы, здзіўляюць тым, наколькі моцна выяўляюць нацыянальны беларускі характар, які яскрава высвечваецца праз параўнанне з паводзінамі замежных гасцей. І хоць Календзе можна зрабіць закід і ў адсутнасці еўрапейскай паліткарэктнасці, талерантнасці, якой мы звычайна так ганарымся, і ў тым, што мова яго поўная вульгарызмаў і ў тым, што тэксты яго іншым разам засяроджаны на горшых чалавечых заганах, але яго любоў да простага чалавека, іронія да сённяшніх гламурна-глабальных каштоўнасцяў і глыбокае разуменне душы беларускай робіць кнігу «Кантынентальны сняданак» адной з самых яскравых і запамінальных кніг пра сучаснасць.

*Ганна КІСЛІЦЫНА*

